**Кацярына.** Дарма, тата. Няхай памятае нашу дабрату.

**Маргун.** Ĭ гэта праўда... (*Робіць пятлю і перадае вяроўку жандару*).

**Пан Яндрыхоўскі** (*да ксяндза*). Благаславі, ойчэ, жаўнераў маіх на геройскі ўчынак.

**Ксёндз.** Няхай умацуе пан бог рукі іх. (*Благаслаўляе жандараў*).

(Жандармы выводзяць Рыгора).

**Пан Яндрыхоўскі.** Перакусім, ойчэ, а тым часам бандыт апынецца там, дзе яго жадае бачыць панна млода. (*П'е і закусвае*).

**Кацярына** (*высунуўшыся ў адчыненае акно*). Жаўнера збілі з ног. Ой, што там робіцца! (*Чутны прыглушаныя стрэлы. Маргун, ксёндз і пан Яндрыхоўскі глядзяць у вокны*).. Бягуць, бягуць! Жаўнеры ўцякаюць!

**Пан Яндрыхоўскі** (*крычыць у вакно*). Што там такое?

**Голас з вуліцы.** Большэвікі.

**Пан Яндрыхоўскі** (*у акно*). Брычку, брычку падайце! (*Ксёндз і пан Яндрыхоўскі бягуць у дзверы*).

**Маргун** (*хапаючыся ў пана Яндрыхоўскага за крысы*). Паночак, а як-жа я?.. куды-ж мне?

**Пан Яндрыхоўскі** (*адштурхнуўшы Маргуна*). Да д'ябла!

(Выбягае за дзверы, услед за ім Маргун і Шмігельскі).

**Кацярына.** Сякуць шаблямі! (*Закрывае вочы рукамі і адхіляецца ад акна. Пасля лезе пад лаву у самы куточак і сядзіць там, не кратаецца*).

(Некалькі хвілін на сцэне пуста і ціха, толькі з вуліцы даносіцца шум бою. Пасля ў дзвярах з'яўляецца пан Яндрыхоўскі, мундзір на якім вісіць шмоццямі, з ім Маргун і ксёндз. За імі ўзброеныя: Рыгор, Батура, Даніла, Міхаль, Халімон, Кастусь. З імі Настуля).

**Даніла.** Ну, пане Яндрыхоўскі! Ты хацеў мець мяне жывым ці мёртвым. Я сам прышоў. Пятнаццаць тысяч у пана ў кішэні застанецца.

**Пан Яндрыхоўскі** (*зняможаны садзіцца на лаве*). Дрыль? Забойца маткі мае?

**Даніла.** Ты забойца тысяч людзей, якія ў тысячу раз вартней за тваю матку.

**Ксёндз** (*дакорліва ківаючы галавой*). Ĭ ты, Батура!

**Батура.** Ĭ я, Батура.

**Ксёндз.** Ніколі не думаў:

**Батура.** Дык сядзь падумай, час маючы.

**Ксёндз.** На сваіх пашоў.

**Батура.** Сваяк знашоўся! Вось твой сваяк. (*Паказвае на Яндрыхоўскага*). А мая радня тут (*паказвае на партызана*).

**Маргун.** Браткі, свае-ж людзі ўсе! Няўжо-ж вы мяне не ведаеце?

**Рыгор.** О, мы цябе ведаем! (*Маргун згінаецца і адыходзіцца*). Дзеж-бо дачушка? Падзякаваць бы ей за вяроўку. (*Аглядае куткі*). Ну, панна млода! Вылазь, скакаць будзем. (*Кацярына

*вылазіць з-пад лавы і, калоцячыся ўсім целам, цісне цца ў куток, дзе ксёндз, Маргун і Яндрыхоўскі).*

(З вуліцы чуваць раскацістае „ура". Партызаны глядзяць у вокны, зрываюць шапкі і таксама крычаць „ура". У хату ўваходзіць Скіба і дзед Бадыль з сукаватаю палкаю. За імі натоўп напаўняе сені, некаторыя працікаюцца ў хату, глядзяць з двара ў вокны. Марылька надбягае да Данілы, туліцца і заглядае яму ў вочы).

**Скіба** (*да партызан*). Добры дзень, таварышы!
**Партызаны.** Добры дзень, таварыш Скіба.
**Скіба** (*абводзячы вачыма сталы, да Дрыля*). Баль спраўляеш?
**Даніла.** Мы на гатовае трапілі. Гэта яны. (*Паказвае на Яндрыхоўскага і іншых*).
**Скіба.** А хто гэта „яны"?
**Даніла.** Вось гэта пан Яндрыхоўскі—можа чулі?
**Скіба** (*да Яндрыхоўскага*). Як-жа гэта вы, пане, улопаліся? Не чакалі нас так хутка?
**Пан Яндрыхоўскі.** Прызнаюся, не чакаў. Наша разведка даносіла...
**Скіба.** Пакуль ваша даносіла, дык наша данесла. (*Да Бадыля*). Праўда, дзед?
**Дзед Бадыль** (*з'едліва смяецца і ківае пальцам на Яндрыхоўскага*). Я вам пакажу, гіцлі!
**Скіба** (*партызанам*). Вядзіце за мной.

(Ксёндз пры гэтых словах падымае вочы на абразы і, склаўшы рукі, шэпча малітву).

**Батура** (*паказваючы на ксяндза*). І гэтага?
**Скіба.** Замятай усіх, там разбярэм.

(Усе накіроўваюцца да дзвярэй. З вуліцы ўрываюцца гукі марша).

**Скіба** (*на момант спыняецца і паказвае рукой у акно*). Палюбуйцеся, пане Яндрыхоўскі! Гэта сіла людзей, якія ведаюць, за што яны змагаюцца.

(Усе выходзяць. Гукі марша ўзмацняюцца).

*КАНЕЦ*

---

*Джамбул*

## ПЕСНЯ ПРА БРАТЭРСТВА

Чуеш, звініць па прасторах стэпоў
Песня абноўленай домры, ізноў
Словы імчацца па дальніх аулах
Палкага сэрца акына Джамбула.

Мінулае ў песні сваёй ўспамінаю,
Стагоддзі звярыныя я праклінаю,
Стагоддзі ў якія ад году у год,
Стагнаў, як зімовыя ночы, народ.

Ї стэп не забудзе нявольніцкі стан,
З усходу на захад прайшоў Чынгіс-хан,
Над стэпам знішчальныя рукі раскінуў,
На месцы аулаў—барханы руінаў
Нукеры слалі усюды няспынна.

Людзей нашых білі, маёмасць знішчалі,
Нашых дзяўчат да сябе забіралі,
Ганьбілі іх і ў пустыні кідалі,
Варожасць адвечную тут распалялі,
Ї змоваю баяў ды бекаў
Сварылі казахаў, кіргізаў, узбекаў.

Пакуль жа варожасць кіпела ў галовах
Статак яны забіралі стэповы,
Багацці джайляў, пожні і воды,
Магілу глыбока капалі народу.

Ды самая грозная, стэпам ліхая
Мяцеліца выла цара Нікалая,
Плыла груганоў незлічоная сіла,
Лажыла найлепшых сыноў у магілу.

Ды стэп не забудзе: Кастрычнік прыйшоў,
Тады мой народ сваю радасць знайшоў,
Ї шчасце краіне стэпоў прынясл і
Ленін і Сталін пракорокі зямлі.

Ад Бухары да вытокаў Іргіза
У дружбе узбекі, казахі, кіргізы,
У дружбе манголы, уйгуры, дунганы,
У дружбе калмыкі, грузіны, армяне,
І ад Каўказа да Бедпак-Дала
Вялікая дружба народаў расла.

Яна расцвіла, як прыгор'і Алтаю,
Вялікая дружба народаў, святая,
І з ёй расквітнела ў гарачых баях,
Радзіма любімая, радасць мая.

Народ мой багаты, шчаслівы, магутны,
Ды толькі мне ворага поступы чутны,
І песні народнага гневу імкнуцца
Адтуль, дзе героі іспанскія б'юцца
З фашысцкаю, воўчаю, чорнаю зграяй,
Адтуль, дзе ў бойках працоўны Кітаю,
Адтуль дзе у апошняй сваёй барацьбе
Народ здабывае свабоду сабе.
І там маё сэрца і песня мая
Разам з братамі ў суровых баях.

---

Хай жа звініць над прасторам стэпоў
Домры маёй мільён галасоў,
Сягоння нясе гэту песню песняр
Табе мой настаўнік і бацька у дар.
Табе, мой радзімы, любімы мой Сталін,
З табой мае стэпы шчаслівымі сталі.

А ў сталінскім садзе, вакол зацвілі
Усе адзінаццаць жамчужын зямлі,
І песні шчаслівыя горда імкнуцца
Аб Сталінскай сонечнай канстытуцыі,
Песні калгасаў, стэпоў і заводаў,
Песні братэрства вялікіх народаў.

*Пераклаў ПЯТРУСЬ БРОЎКА*

*А. С. Пушкін*

# КАЗКА ПРА ЦАРА САЛТАНА, ПРА СЫНА ЯГО СЛАЎНАГА І МАГУТНАГА БАГАТЫРА КНЯЗЯ ГВІДОНА САЛТАНАВІЧА І ПРА ЯГО ДЗІВОСНУЮ ЦАРЭЎНУ ЛЕБЕДЗЬ

Тры дзяўчыны пад акном
Пралі позна вечарком,
„Ах, галубачка сястрыца,—
Вось каб я была царыцай,—
Дык на ўвесь бы свет амаль
Я зрабіла-б пышны баль“.
„А каб я была царыца,—
Кажа так яе сястрыца,—
Дык на ўвесь бы свет адна
Я наткала-б палатна“.
„А каб я была царыца,—
Кажа трэцяя сястрыца,—
Нарадзіла-б для цара
Я тады багатыра“.

Толькі выказаць паспела,
Дзверы скрыпнулі. І смела
У святліцу зайшоў цар,
Тога краю гасудар.
За платамі ўся да слова
Чутна іхняя размова,
Сказ апошняе таму,—
Спадабаўся так яму.
„Добры дзень табе красуня,—
Будзь царыцай прыгажуня,
Нарадзі ты для цара
У верасні багатыра.
Вы-ж галубанькі, сястрыцы,
Выбірайцеся з святліцы,
Выязджайце ўслед за мной,
Услед за мной і за сястрой,
Будзе з вас адна ткачыха,
А другая паварыха“.

Цар з царыцаю ідуць.
Ў палац усе бягуць.
Цар нядоўга сабіраўся,
Ў той вечар павянчаўся.
Ды з царыцай маладой
Балявацць за стол сеў свой.
Потым блізкія і госці
Ў ложак, што з слановай косці,
Улажылі маладых,
Ды пакінулі адных.
Зліцца ў кухні павырыха
І за кроснамі ткачыха,
Ды зайздросцяць бабы ёй—
Царскай жонцы маладой.
А царыца у каханні
Выпаўняе абяцанні—
Зацяжарала яна.

У той час была вайна.
Цар з царыцай развітаўся,
Ды на момант затрымаўся;
Сябе—просіць—даглядай,
Ды мяне з вайны чакай.
Паміж тым, як ён дзесь з войскам
Б'ецца доўга, б'ецца жорстка,
Надыходзіць час радзін:
Сына бог даў ім з аршын.
І царыца над дзіцяткам,
Як арліца над арляткам;
Шле ганца з лістом яна—
Бацьку радасць-навіна.
А ткачыха з павырыхай,
Сваццяй бабай-Бабарыхай
Яе хочуць загубіць
І ганца не прапусціць.
Шлюць яны ганца другога,
Зместу ліст цяпер такога:
„Ў ноч царыца нарадзіла:
Не дачка, не сын—а дзіва,
І не жабу і не мышку—
Невядомага звярышку“.

Як пачуў-жа бацька-цар
Тыя весткі ад ганца,
Пасмутнелі ў гневе вочы
Ён ганца павесіць хоча;
Ды падумаў, пагадаў
І такі загад паслаў:
„Пачакаць майго звароту,
Суд законны будзе потым“.

Едзе з граматай ганец.
Вось дарозе і канец.
А ткачыха з паварыхай
З сваццяй бабай-Бабарыхай
Абабраць хочуць ганца.
І спаіўшы да канца
У суму яго пустую
Кладуць грамату другую.
І прывёз ганец п'яны
Вось такія навіны:
„Цар загадвае баярам,
Часу каб не траціць дарам
І царыцу і прыплод
Кінуць тайна ў бездань вод".
Што-ж рабіць тут: хоць баяры
Спачуваюць гасудару
І царыцы маладой,
Усе-ж ідуць у спальню к ёй,
Абвясціць царову волю,
Ёй і сыну злую долю.
Прачыталі ўслых указ,
І царыцу ў той-жа час
У бочку з сынам пасадзілі,
Засмалілі, пакацілі
І пусцілі ў акіян—
Загадаў так цар Салтан.

У сінім небе зоркі роем,
Мора пеніцца прыбоем;
А па небе хмарка йдзе,
Бочка ў моры тым плыве.
Нібы бедная ўдавіца,
Плача горка ў ёй царыца:
І расце дзіцятка там
Па гадзінам, не па дням.
Дзень мінуў, яна галосіць,
А дзіцятка хвалю просіць.
„Хваля, хваля ты мая,
Воля буйная твая,
Ты плывеш куды захочаш,
Камяні марскія точыш,
Топіш бераг ты зямлі,
Падымаеш караблі—
Не губі ты нашу душу:
Выплесні ты нас на сушу!"
Хваля слухае яго;
Тут да берага свайго
Бочку выплеснула хутка,
І адхлынула ціхутка.
Матка з дзіцем на зямлі,

Небяспекі ўсе прайшлі.
Але з бочкі хто іх выне?
Бог, няўжо ён іх пакіне?
Сын на ножкі моцна стаў
І галоўкай ў дно наддаў,—
Паднаціснуўшы каленцам:
„Як бы тут на двор акенца
Прарабіць?“ Гаворыць ён,
Выпхнуў дно і вышаў вон.

Матка й сын цяпер на волі.
Там бугор у чыстым полі,
Мора сіняе кругом,
Дуб зялёны над бугром.
Сын падумаў: час падбаць,
Ды вячэру падшукаць.
Ломіць ён у дуба сук,
І ў тугі згінае лук.
З крыжыка шнурок шаўковы
Нацягнуў на лук дубовы,
Чарацінку ён зламаў,
Стрэлку востра застругаў,
І пайшоў на край даліны
Пашукаць сабе дзічыны.

Падышоў да мора ён,
Чуе дзесьці нібы стогн...
Мусіць ў моры там не ціха;
Глянуў—бачыць, што за ліха:
Лебедзь б'ецца сярод хваль,
Коршак-жа над ёй амаль.
Ах, гаротная, так плешча,
Каламуту вады хлешча...
Коршак кіпці распусціў,
Дзюбу востра навастрыў:
Ды якраз страла запела,
Ў шыі коршака засела—
Кроў у мора ён праліў,
Лук царэвіч апусціў;
Бачыць: коршак ў моры тоне,
Не птушыным крыкам стогне,
Лебедзь ля яго плыве,
Таго коршака дзяўбе,
Ды крыламі дабівае—
Смерць няўхільна паскарае.
І пасля гаворыць птах
Рускай мовай князю так:
„Ты царэвіч мой збавіцель,
Мой магутны вызваліцель,
Не бядуй, што за мяне,
Цябе голад не міне,

Што страла папала ў мора;
Гэта гора—ды не гора,
Я за ласку адкажу,
Табе потым адслужу.
Ты на свеце жыць пакінуў
Не лябёдку, а дзяўчыну,
Ты забіў не каршака,
А забіў чараўніка.
Век цябе я не забуду;
Я з табою ўсюды буду,
Кінь, царэвіч, сумаваць,
Не бядуй, лажыся спаць“.
Паляцела лебядзіца,
А царэвіч і царыца,
Голад свой перамаглі,
І не еўшы спаць ляглі.
Вось сынок расплюшчыў вочы;
І прагнаўшы мары ночы,
Дзіву даўся: ці не сон?—
Дзіўны горад бачыць ён.
Ды з вялікімі дамамі,
Вакол сцены ўсе з зубцамі,
Зьяннем макаўкі гарэць,
На царквах, манастырах.
Будзіць матку падзівіцца;
Толькі ахнула царыца!
Ён-жа кажа:—бачу я:
Лебедзь цешыцца мая“.
Маці й сын ідуць у горад;
За сцяною ў гэту пору
Аглушальны гул званоў
Загудзеў з усіх бакоў.
К ім народ насустрач валіць,
Хор царкоўны бога хваліць,
У каламажках залатых
Пышны двор страчае іх;
Гулка ўсе іх велічаюць
І царэвіча вянчаюць
Княжай шапкай і старшым
Абіраюць над усім.
І сярод свае сталіцы
З згодай мацеры царыцы,
З таго-ж дня стаў княжыць ён
І назваўся цар Гвідон.

Вецер мора калыхае
І караблік падганяе;
Хваляў рокат і узмах,—
А ён мчыць на парусах.
Карабельшчыкі сышліся,

Дзіву-дзіўнаму даліся,
Дзе вядомы востраў, тут
Проста бачаць нейкі цуд:
Горад новы златаглавы,
Прыстань з моцнаю заставай,
З прыстані гарматы б'юць,
Знак спыніцца падаюць.
Падплылі к заставе госці.
Запрашае князь у госці,
Корміць, поіць, як сваіх
Ды пытаецца у іх:
„Які гандаль ведзяце вы,
Куды зараз плывяце вы?“
Карабельшчыкі ў адказ:
„Па ўсім свеце было нас,
Гандлявалі сабалямі,
Чарнабурымі лісамі:
А нам час дамоў плысці,
На Усход судно вясці.
Міма вострава Буяна,
К царству слаўнага Салтана...
Кажа князь тады купцам:
„Добры шлях, панове, вам,
Па прасторах акіяну
К слаўнаму цару Салтану;
Ад мяне яму паклон“.
Госці едуць, князь Гвідон
З берага сумотным зрокам,
Іх праводзіць бег далёкі.
Глянуў—хваль марскіх паверх,
Лебедзь белая плыве:
„Добры дзень, мой князь чароўны,
Што ты сумны, неспакойны?
Зажурыўся ты чаму?“
Кажа так яна яму.
„Сум-журба мяне з'ядае,
Дзень і ноч не пакідае,
Мара светлая мая:—
Бацьку ўбачыць хочу я“.
Лебедзь кажа: „Вось дык гора!
Ну, дык слухай; можа ў мора
Паляціш за караблём?
Будзь-жа, князь, ты камаром“.
І крыламі замахала,
Воду з шумам распляскала
І апырскала яго
З галавы да ног ўсяго.
Кропкай ён тады зрабіўся,
Камаром ператварыўся,

Паляцеў і запішчаў,
Мігам карабель дагнаў.
Вельмі ціхенька спусціўся,
Ды у шчэлачку забіўся.

Вецер весела шуміць,
Судна весела бяжыць
Міма вострава Буяна,
Ў царства слаўнага Салтана;
Край жаданы—гэта ён
Ім ужо здалёк відзён.
Вось на бераг вышлі госці;
Цар Салтан іх кліча ў госці—
Ўдалец наш загудзеў
І ў палацы паляцеў.
Бачыць: зьяючы у злаце,
Цар Салтан сядзіць ў палаце
Пад каронай залатой;
Сум на твары, неспакой.
А ткачыха з паварыхай
З сваццяй бабай Бабарыхай.
Пры цары яны сядзяць,
Ў вочы царскія глядзяць.
Цар Салтан гасцей саджае
За свой стол, і ў іх пытае:
„Вы ў якой скажэце мне,
Пабывалі старане?
Як за морам, ці шчасліва?
І якое ў свеце дзіва?“
Карабельшчыкі ў адказ:
„Па ўсім свеце было нас.
Жыць за морам дык шчасліва;
Повен свет такога дзіва:
Там на востраве крутым,
Непрывальным, не жылым,
Сярод роўнядзі пустыннай,
Рос дубок сабе адзіны;
А цяпер на ім стаяць—
Светлы горад і палац.
З златаглавымі царквамі,
З церамамі, ды з садамі,
А сядзіць там князь Гвідон,
Ён прыслаў табе паклон“.
Цар Салтан здзівіўся цуду:
„Калі жыў,—ён кажа,—буду,
Дзіва я не прапушчу,
У Гвідона пагашчу.
А ткачыха з паварыхай,
З сваццяй бабай Бабарыхай,
Вядуць змову між сабой,—

Не пусціць на востраў той.
„Ну і смешна з тога дзіва,—
Падміргнуўшы вокам хціва,
Паварыха кажа ім:
— Горад двесь на моры тым!
Ёсць сапраўды ў свеце дзіва,
Што пад елкаю шумлівай
Белка песенькі пяе,
Ды арэшкі ўсё грызе;
Незвычайныя такія,
Шалупінкі залатыя,
А зярняткі—ізумруд;
Вось што цудам там завуць“.
Цар Салтан аж дзіву даўся;
А камар як раззлаваўся,
Па палацу залятаў,
Цётцы ў вока джала даў.
Паварыха пабялела,
Абамлела, акрывела.
Слугі, свацці і сястра
З крыкам ловяць камара.
„Распраклятая ты мошка!
Мы цябе!..“ А ён патрошку,
У акно, ды ціха зноў
Паляцеў сабе дамоў.

Князь ля сіня-мора ходзіць,
З сіня-мора воч не зводзіць;
Глянуў—хваль марскіх паверх
Лебедзь белая плыве.
„Добры дзень, мой князь чароўны!
Што ты сумны, неспакойны?
Зажурыўся ты чаму?“
Кажа так яна яму.
Князь ў адказ: „Журба з'ядае,
Дзень і ноч не пакідае;
Дзіва з дзіваў завясці
Я хачу сабе ў жыцці.
Дзесьці ёсць у лесе елка,
А пад елкай—дзіва белка;
Белка песенькі пяе,
Ды арэшкі ўсё грызе;
Надзвычайныя такія,
Шалупінкі залатыя,
Зерне—чысты ізумруд,
Можа маняць людзі тут?“
Лебедзь зноў апавядае:
„Свет пра белку праўду бае:
Тое дзіва знаю я;
Годзе, князь, душа мая;

Не сумуй, я рада службу
Адслужыць табе у дружбу".
Падбадзёраны пайшоў
Князь Гвідон к сабе дамоў.
Вось ступіў на двор шырокі;
Што-ж, пад ёлкаю высокай
Бачыць белка на двары
Залаты грызе арэх.
Ізумруды ўсё вымае,
Шалупіначкі збірае,
Кучкі роўныя кладзе,
Ды з прысвісткаю пяе
Пры шаноўным ўсім народзе:
„У садку ці ў агародзе".
Дзіву даўся князь Гвідон:
„Ну і дзякуй—кажа ён,—
Вось дык лебедзь—дай ёй божа
Жыць як мне, вясёла, гожа".
Князь для белачкі пасля
Дом будуе з крышталя,
Варту да яго стаўляе
І дзяка ён прымушае
Там арэшкі падлічаць—
Скарб багаты пільнаваць.

Вецер мора калыхае
І караблік падганяе,
Хваляў рокат і узмах,
А ён мчыць на парусах.
Міма вострава у моры,
Дзе стаіць вялікі горад,
З прыстані гарматы б'юць,
Знак спыніцца падаюць.
Падплылі к заставе госці;
Запрашае князь у госці;
Корміць, поіць як сваіх,
Ды пытаецца у іх:
„Які гандаль ведзяце вы?
Куды зараз плывяце вы?"
Карабельшчыкі ў адказ:
„Па ўсім свеце было нас.
Коньмі там мы гандлявалі,
Жарабцоў мы прадавалі,
А нам тэрмін надыйшоў
У далёкі шлях ізноў.
Міма вострава Буяна,
К царству слаўнага Салтана".
Кажа князь тады купцам:
„Добры шлях, панове, вам,
Па прасторах акіяну

К слаўнаму цару Салтану;
Ды скажэце: князь Гвідон
Шле цару ён свой паклон“.
Госці голавы схіляюць
Перад князем.—Ад‘язджаюць...
Князь ідзе да мора й сам;
Бачыць—лебедзь плыве там.
Моліць князь:—душа так прагне,
Парываецца і цягне.
Вось яна ізноў яго
Ўраз апырскала ўсяго.
Ў муху князь ператварыўся,
Паляцеў і апусціўся,
Сеў ён зноў на караблі
Ў шчэлку ўлез, каб не знайшлі.

Вецер весела шуміць,
Судна весела бяжыць.
Міма вострава Буяна,
Ў царства слаўнага Салтана;
Край жаданы—гэта ён
Ім ужо здалёк відзён.
Вось на бераг выйшлі госці;
Цар Салтан іх кліча ў госці,—
Ўдалец наш загудзеў
І ў палацы паляцеў.
Бачыць: зьяючы у злаце,
Цар Салтан сядзіць, ў палаце
Пад карснай залатой—
Сум на твары, неспакой.
А ткачыха з павapыхай,
Ды з крывою Бабарыхай,
Пры цары яны сядзяць,
Злосна жабамі глядзяць.
Цар Салтан гасцей саджае
За свой стол і ў іх пытае:
„Вы ў якой, скажэце мне,
Пабывалі старане?
Як за морам, ці шчасліва,
І якое ў свеце дзіва?“
Карабельшчыкі ў адказ:
„Па ўсім свеце было нас.
А за морам жыць шчасліва;
Повен свет такога дзіва:
Ў моры востраў дзесь ляжыць,
Горад дзіўны там стаіць.
З златаглавымі царквамі;
Дзе палацы, між садамі,
Крышталёвы дом стаіць,
Елачка над ім шуміць.

Ў доме белачка ручная
Ды дзівотная такая!
Белка песенькі пяе,
Ды арэшкі ўсё грызе,
Незвычайныя такія,
Шалупінкі залатыя,
А зярняты,—аж гарапь;
Слугі белачку глядзяць.
Служаць ёй усёю світай,
І прыстаўлен дзяк сярдзіты
Лік арэхаў весці той:
Салютуе войска ёй;
З шалупінак льюць манету
Ды пускаюць ў ход па свету.
Дзеўкі сыплюць ізумруд
У кладоўні, ды пад-спуд;
Ўсе на востраве багаты,
Ўсё палацы, замест хаты:
А сядзіць там князь Гвідон,
Ён прыслаў табе паклон".
Цар Салтан здзівіўся цуду:
„Калі жыў—ён кажа—буду,
Дзіва я не прапушчу,
У Гвідона пагашчу.
А ткачыха з паварыхай,
З сваццяй бабай Бабарыхай
Вядуць змову між сабой,—
Не пусціць на востраў той.
Усміхнуўшыся спадціху,
Кажа так цару ткачыха:
„Дзе-ж тут дзіва тое, дзе?
Што каменчыкі грызе
Белка нейкая, і ў груды
Заграбае ізумруды.
Гэтым цяжка нас здзівіць,
Трэба праўду гаварыць.
Ёсць другое ў свеце дзіва;
Мора ўспеніцца бурліва,
Закіпіць, узніме гнеў,
Ды на бераг шугане
Хваляй морскай, хваляй свежай;
І пакіне на ўзбярэжжы
У лусцэ святлей зары
Трыццаць тры багатыры;
Ўсе прыгожыя такія,
Вяліканы маладыя,
Роўны ўсе, як на падбор,
З імі дзядзька Чарнамор.
Гэта дзіва, вось дык дзіва,
Безумоўна справядліва".

Госці хітрыя аб тым
Не спрачаюцца зусім:
Цар Салтан аж дзіву даўся;
А Гвідон як раззлаваўся
І над цёткай загудзеў,
Ёй на левым воку сеў.
І ткачыха пабялела:
„Ай“ і тут-жа акрывела,
Ўсе крычаць „Лаві, лаві,
Ды даві яго, даві...
Не ўцячэш ад нас ніколі,
Вось табе!“ А князь паволі
Загудзеў праз шыбу зноў—
Палацеў сабе дамоў.

Князь ля сіня-мора ходзіць,
З сіня-мора воч не зводзіць:
Глянуў хваль марскіх паверх,
Лебедзь белая плыве.
„Добры дзень, мой князь цудоўны!
Што ты сумны, неспакойны?
Зажурыўся ты чаму?“
Кажа так яна яму.
Князь Гвідон апавядае:
„Сум-журба мяне з‘ядае,
Дзіва-дзіўнае ў мой край
Перанесці як—парай“.
— „А якое-ж гэта дзіва?“
„Дзесьці ўспеніцца бурліва
Акіян, узніме гнеў
Ды на бераг шугане
Хваляй морскай, хваляй свежай
І пакіне на ўзбярэжжы
У лусцэ святлей зары,—
Трыццаць тры багатыры.
Ды прыгожыя такія,
Вяліканы маладыя,
Роўны ўсе як на падбор,
З імі дзядзька Чарнамор“.
Птушка-лебедзь адказала:
„Вось чаго журба запала?
Не сумуй, душа мая,
Тое дзіва знаю я.
Тыя віцязі марскія
Усе браты мне дарагія,
Сум пакінь, дадому йдзі,
Ды прымай гасцей, глядзі“.

Князь пайшоў, забыў пра гора,
Сеў на вежы, і на мора
Стаў глядзець ён: мора ўраз

Усхадзілася ў той час—
Хваляй морскай, хваляй свежай...
Бачыць ён на ўзбярэжжы
Трыццаць тры багатыры,
У лусцэ святлей зары.
Віцязі ідуць па двое,—
З серабрыстай сівізною,
Дзядзька спераду ідзе,
Іх да горада вядзе.
З вежы князь Гвідон збягае,
Дарагіх гаслей страчае,
Збегся ўвесь народ на двор,
Кажа князю Чарнамор:
„Лебедзь нас к табе паслала,
І наказам загадала
Слаўны горад вартаваць,
І дазорам наглядаць.
І штодзённа мы ад сёння,
З вод глыбокага бяздоння,
Будзем разам выплываць,
Ля высокіх сцен стаяць.
Дык убачымся мы скора,
А цяпер нам час у мора,
Цяжка дыхаць на зямлі“,
І дамоў яны пайшлі.

Вецер мора калыхае
І караблік падганяе.
Хваляў рокат і узмах,
А ён мчыць на парусах.
Міма вострава у моры,
Дзе вялікі ўзняўся горад;
З прыстані гарматы б‘юць
Знак спыніцца падаюць.
Прыплылі к заставе госці,
Цар Гвідон іх кліча ў госці,
Корміць, поіць як сваіх
І пытаецца у іх:
„Які гандаль ведзяце вы?
Куды зараз плывяце вы?
Карабельшчыкі ў адказ:
„Па ўсім свеце было нас.
Мы цяпер вязлі з сабою
Срэбра, золата і зброю.
А ўжо тэрмін надыйшоў
Нам у шлях далёкі зноў,
Міма вострава Буяна,
К царству слаўнага Салтана“.
Кажа князь тады купцам:
„Добры шлях, панове, вам

Ды па моры, акіяну
К слаўнаму цару Салтану,
Ды скажыце, князь Гвідон
Шле цару ён свой паклон".
Госці голавы схіляюць
Перад князем.—Ад'язджаюць...
Князь ідзе да мора й сам,
Бачыць—лебедзь плыве там.
Моліць князь: душа так прагне,
Парываецца і цягне...
Вось ізноў яна яго
Ўраз апырскала ўсяго.
Тут ён вельмі ўжо змяншыўся,
І ў шмеля ператварыўся,
Загудзеў і паляцеў,
На карабль ціхутка сеў.
На карму ён апусціўся
І у шчылінку забіўся.

Вецер весела шуміць,
Судна весела бяжыць,
Міма вострава Буяна,
К слаўнаму цару Салтану.
Край знаёмы—гэта ён,
Ім ужо здалёк відзён.
Вось на бераг выйшлі госці;
Цар Салтан іх кліча ў госці:
Ўдалец наш загудзеў
І ў палацы паляцеў.
Бачыць: зьяючы у злаце
Цар Салтан сядзіць ў палаце
Пад каронай залатой,—
Сум на твары, неспакой.
А ткачыха з паварыхай,
Сваццяй бабай Бабарыхай,
Пры цары яны сядзяць,
Чатырма ўсе тры глядзяць.
Цар Салтан гасцей саджае
За свой стол і ў іх пытае:
„Вы ў якой скажыце мне
Пабывалі старане?
Як за морам, ці шчасліва?
І якое ў свеце дзіва?"
Карабельшчыкі ў адказ:
„Па ўсім свеце было нас.
Жыць за морам дык шчасліва:
Ў свеце вось такое дзіва;
Ў моры востраў дзесь ляжыць,
Горад дзіўны там стаіць;
Кожны дзень там бачна дзіва:

Мора ўспеніцца бурліва,
Закіпіць, узніме гнеў,
Ды на бераг шугане,
Расплясьнецца хваляй свежай;
І пакіне на ўзбярэжжы
Трыццаць тры багатыры
У лусцэ святлей зары,
Ўсе прыгожыя такія,
Вяліканы маладыя,
Роўны ўсе як на падбор;
Стары дзядзька Чарнамор.
З імі з мора ён выходзіць
І папарна іх выводзіць
Тую выспу пільнаваць,
І дазорам наглядаць.
Больш няма надзейнай варты,
І харобрай, і ўпартай.
А сядзіць там князь Гвідон:
Ён прыслаў табе паклон".
Цар Салтан здзівіўся цуду:
„Калі жыў—ён кажа—буду,
Дзіва я не прапушчу,
У Гвідона пагашчу.
А ткачыха й паварыха
Ні-гугу—а Бабарыха
Хцівы зноў дае адказ:
„Гэтым не, не здзівіш нас?
Людзі з мора там выходзяць
І сабе папарна ходзяць.
Можа праўда, мо, хлусня,
Дзіва тут не бачу я.
Мала ёсць на свеце дзіва?
Чутка вось ідзе праўдзіва:
Ёсць царэўна, што казаць,
Нельга позірк адарваць.
Днём свет божы зацямняе,
Ноччу зямлю асвятляе,
Месяц пад касой блішчыць,
Зорка у ілбу гарыць.
І вялікасна і жвава
Пахаджае нібы пава;
А як гутарку вядзе,
Нібы рэчка плаўна йдзе.
І кажу я справядліва,
Гэта дзіва ўжо, дык дзіва".
Госці з розумам маўчаць;
Што спрачацца, што крычаць?!
Дзіву цар Салтан даецца,
А царэвіч хоць злуецца,
Ды шкадуе ён вачэй

У старой бабулькі тэй,
Загудзеў ён, закружыўся,
Ды на нос ёй апусціўся.
Як ужаліць багатыр,
Ўсхапіўся там вадыр.
Ды ізноў пайшла трывога:
„Ой ратуйце, дзеля бога!
Калавур! лаві, лаві,
Ды даві яго, даві...
Не уцячэш ад нас ніколі,
Пачакай!..“ а шмель паволі,
Выляцеў праз шыбу зноў.
І памчаў сабе дамоў.

Князь ля сіня-мора ходзіць,
З сіня мора воч не зводзіць;
Глянуў—хваль марскіх паверх
Лебедзь белая плыве.
„Добры дзень, мой князь цудоўны!
Што ты сумны, неспакойны?
Зажурыўся ты чаму?“—
Кажа так яна яму.
Князь Гвідон апавядае:
„Сум-журба мяне з'ядае:
Людзі жэняцця, гляджу,—
Нежанаты я хаджу“.
„А каго-ж ты на прыкмеце
Маеш князь?“—„Ды вось на свеце,
Ёсць царэўна, што-й казаць,
Нельга позірк адарваць.
Днём свет божы зацямняе,
Землю ноччу асвятляе,
Месяц пад касой блішчыць,
Зорка у ілбу гарыць.
І вялікасна і жвава
Пахаджае нібы пава.
А як гутарку вядзе,
Нібы плынь па рэчцы йдзе.
Мо' хлусню народ мне бае?“
У страху князь адказ чакае.
Лебедзь змоўкла. Ды аднак
Памаўчаўшы, кажа так:
„Ёсць такая чараўніца,
Жонка ўсё-ж не рукавіца:
З белай ручкі не страсеш,
Ды за пояс не заткнеш.
Услужыць табе я рада,
Толькі вось што: добра ладам
Ты падумай, пагадай,
А пасля, не наракай.“

Князь Гвідон пачаў бажыцца
Што пара яму жаніцца;
Што аб гэтым аб усім
Добра думаў ён зусім.
Што з душой кахання поўнай
За царэўнаю цудоўнай
Пеша пойдзе ён адзін
Хоць за трыдзевяць краін.
Лебедзь ўзрушана глыбока:
„Не, навошта йсці далёка?
Ведай доля тут твая,
Бо царэўна—гэта я“.
І сказаўшы лебедзь-бела
Над вадою паляцела,
І на бераг той круты
Апусцілася ў кусты.
Усё пер‘е абтрапала
І царэўнай ў момант стала:
Месяц пад касой блішчыць,
Зорка у ілбу гарыць,
І вялікасна і жвава,
Пахаджае нібы пава,
А як гутарку вядзе,
Нібы рэчка плаўна йдзе.
Князь царэўну абдымае,
К грудзям белым прыціскае,
І вядзе хутчэй яе
Ён да маткі да свае.
Стаў прасіць ён упрашаці:
„Ты, царыца, мая маці!
Жонку выбраў я сабе,
Дочку слушную табе.
І мы просім дазваления
Матчынага бласлаўлення,
Просім дзетак блаславіць,
У каханні, згодзе жыць.“
Тады маці па закону,
Узяўшы з покуця ікону
Слёзна дзетак блаславіць:
„Дай-жа божа ў шчасці жыць“.
Князь нядоўга тут збіраўся;
Ён з царэўнай павянчаўся,
Сталі жыць, ды пажываць,
Ды прыплода ўсё чакаць.

Вецер мора калыхае,
І караблік падганяе;
Хваляў рокат і узмах—
А ён мчыць на парусах.
Міма вострава у моры,

Дзе вялікі ўзняўся горад:
З прыстані гарматы б'юць,
Знак спыніцца падаюць.
Прыплылі к заставе госці,
Запрашае князь у госці,
Корміць, поіць як сваіх
Ды пытаецца у іх:
„Які гандаль ведзяце вы?
Куды зараз плывяце вы?
Карабельшчыкі ў адказ:
„Па ўсім свеце было нас.
Гандлявалі мы не дарам,
Недазволеным таварам,
А нам тэрмін надышоў
У далёкі шлях ізноў,
Міма вострава Буяна,
К царству слаўнага Салтана“:
Кажа князь тады купцам:
„Добры шлях панове вам.
Ды па мору акіяну,
К слаўнаму цару Салтану;
І напомніце яму
Гасудару вы сваму:
Ён у госці абяцаўся
І дагэтуль не сабраўся—
Шлю яму я свой паклон“.
Госці едуць, князь Гвідон
Дома ў гэты раз застаўся,
З жонкаю не развітаўся.

Вецер весела шуміць,
Судна весела бяжыць
Міма вострава Буяна,
К царству слаўнага Салтана;
Край знаёмы—гэта ён,
Ім ужо здалёк відзён.
Вось на бераг вышлі госці,
Цар Салтан іх кліча ў госці.
У палацы йдуць купцы;
Бачаць цар там у вянцы;
А ткачыха з паварыхай,
З сваццяй бабай Бабарыхай,
Ля свайго цара сядзяць,
Чатырма ўсе тры глядзяць.
Цар Салтан гасцей саджае
За свой стол і ў іх пытае:
„Госці вы стала майго,
Дзе вы ездзілі, чаго?
А за морам як жывецца?
Навіны якія ў свеце?“

Карабельшчыкі ў адказ:
„Па ўсім свеце было нас.
А за морам жыць шчасліва.
Ёсць такое ў свеце дзіва:
У моры востраў там ляжыць,
Горад светлы там стаіць;
З златаглавымі царквамі;
Дзе палацы, між садамі,
Крышталёвы дом стаіць,
Елачка над ім шуміць.
Белка ў ім жыве ручная,
Ды цудоўніца такая,
Белка песенькі пяе,
Ды арэшкі ўсё грызе.
Незвычайныя такія,
Шалупінкі залатыя,
А зерняткі—аж гарацьі
Слугі белачку глядзяць.
Там яшчэ другое дзіва:
Мора ўспеніцца бурліва,
Закіпіць, узніме гнеў,
Ды на бераг шугане,
Расплясненца хваляй свежай...
І пакіне на ўзбярэжжы
Трыццаць тры багатыры,
У лусцэ святлей зары.
Усе прыгожыя такія,
Вяліканы маладыя,
Роўны ўсе як на падбор,
З імі дзядзька Чарнамор.
І няма надзейней варты,
Больш харобрай, больш упартай:
Жонка ў князя, трэ‘ сказаць,
Нельга позірк адарваць.
Днём свет божы зацямняе,
Ноччу землю асвятляе,
Зорка у ілбе гарыць.
Месяц пад касой блішчыць.
Князь Гвідон там уладарыць,
Шчыра кожны яго славіць;
Ён прыслаў табе паклон
На цябе злуецца ён.
К нам у госці абяцаўся,
І дагэтуль не сабраўся“.

Цар ужо не утрымаў:
„Флот падаць ён загадаў.
А ткачыха з паварыхай,
Сваццяй бабай Бабарыхай,
Вядуць змову між сабой,

Не пусціць у горад той.
Ды Салтан і не зважае
І якраз іх суцішае:
„Што Я? Цар вам ці дзіця?—
Раз сказаў, паеду я!“—
Ён нагой са злосці тупнуў,
Вышаў і дзвярыма стукнуў.

Пад акном Гвідон сядзіць,
І на мора ўсё глядзіць,
Не шуміць яно, не плешча,
Толькі ледзь яно трапеча,
І ў блакіце усплылі
У аддалях караблі.
Цераз роўнядзь акіяна
Едзе флот цара Салтана.
Князь тады раптоўна ўстаў
І гучліва закрычаў:
„Маці мая дарагая.
Ты, князёўна маладая!
Паглядзеце вы туды,
Едзе бацька наш сюды“.
Флот да вострава падходзіць,
Князь Гвідон трубу наводзіць:
Цар на палубе стаіць
І ў трубу на іх глядзіць,
З ім ткачыха з паварыхай,
З сваццяй бабай Бабарыхай
Іх здзіўляе надзвычай
Незнаёмы гэты край.
Вось з гарматаў запалілі,
На званіцах зазванілі,
К мору сам ідзе Гвідон;
Там цара страчае ён
З паварыхай і ткачыхай,
З сваццяй бабай Бабарыхай.
Князь у горад іх вядзе,
Разам з імі моўчкі йдзе
У палац ён сам з гасцямі,
Бачыць, ў латах каля брамы,
У шырокім тым двары
Трыццаць тры багатыры,
Ўсе прыгожыя такія,
Вяліканы маладыя,
Роўны ўсе як на падбор,
З імі дзядзька Чарнамор.
Цар ступіў у двор шырокі;
Там пад елкаю высокай
Белка песенькі пяе,
Залаты арэх грызе,

Ізумрудзікі вымае,
І ў мяшочак апускае,
І засеяны двор той
Шалупінкай залатой.

Госці далей аглядаюць:
Пра царэўну праўду баюць;
Месяц пад касой блішчыць,
Зорка у ілбу гарыць,
І вялікасна і жвава
Пахаджае, нібы пава;
І свякроў сваю вядзе:
Цар глядзіць—і пазнае...
„Што я бачу? Ці здаецца?
Можа маніць маё сэрца?“
Аж заняўся ў грудзях дух;
Свет ад слёз яго патух.
Абдымае ён царыцу,
І сынка і маладзіцу,
І пайшоў вясёлы баль
На сусвет увесь амаль.
А ткачыха з паварыхай,
Сваццяй бабай Бабарыхай,
Пахаваліся ў куткі;
Іх і там знайшлі такі.
Давялося ім прызнацца,
Павініцца, разрыдацца.
З радасці Салтан траіх
Адпусціў да хаты іх.
Спаць вялі пасля Салтана,
Ён спяваў, хістаўся п‘яна;
Я там быў: мёд, піва піў—
Толькі вусы памачыў.

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

---

*Н. Шпанаў*

# ДВАНАЦЦАЦЬ ГАДЗІН ВАЙНЫ

*Раман*

„У прымяненні да Чырвонай арміі стаханаўскі рух ёсць перш за ўсё масавы пад'ём новых, лепшых, умелых і адважных людзей, соцыялістычна выхаваных, прагна жадаючых усямерна ўзмацніць абарону свае радзімы, асядлаўшых усю многастайную новую баявую тэхніку, бяручых у сваёй зброі ўсё, што яна можа даць, бесперапынна ўдасканальваючых метады і прыёмы яе скарыстання з тым, каб з найменшай затратай сіл і сродкаў дабіцца найбольшага эфекта, найбольшай прадукцыйнасці ў баі з ворагам, калі ён пасмее напасці на нас"

*Варашылаў.* „За магутны стаханаўскі рух у краіне і Чырвонай арміі".

## Людзі

Сафар з апаскай уціснуў сваё вялізнае цела ў вузкія дзверы. Твар яго выяўляў страх: як-бы неасцярожным рухам не разбурыць лагерны барак. Капітан Касых мог па вартасці ацаніць гэтыя намаганні, ён ведаў, якія цудоўныя мускулы схаваны пад яго фрэнчам.

Сафар выдатны лётчык і камандзір. Ён шмат працуе над сабой. З усёй адданасцю любячы авіяцыю, ён некалькі іранічна ставіцца да ўсяго, што не падыходзіць пад паняцце бамбардыроўшчыка. Заўсёды спакойны і вытрыманы, Сафар не церпіць аднаго: спроб давесці, што ў паветры можа быць што-небудзь больш карыснае, чым харошы бамбардыроўшчык дальняга дзеяння.

Яшчэ будучы малодшым лётчыкам, ён пачаў падбіраць выразкі з авіяцыйных часопісаў. Сабралася калекцыя самых розных пунктаў гледжання на прымяненне і перспектывы развіцця паветраных сіл. Са здзіўляючай праніклівасцю гэты чалавек, які некалькі гадоў назад цягаў мяшкі ў бакінскім парту, аналізуе прачытанае. Ён лёгка выкрывае ўсякую фальш, вынайдзеную дасціпнымі зарубежнымі разумнікамі, якія ніколі не лёталі інакш як у сне.

Але Сафар сам яшчэ недастаткова верыць у грунтоўнасць сваіх ведаў, у сілу свайго розуму, у сваю здольнасць успрыймаць усё жывое і сапраўды каштоўнае, што ёсць у сучасных поглядах на

скарыстанне яго любімай зброі—самалёта. Пройдзе яшчэ крыху часу і вялізнае валявое імкненне Сафара да ауладання авіяцыйнай навукай вывядзе яго ў першыя рады. Пры вялікай сіле інтуіцыі, пры наяўнасці грунтоўнага ведання справы, у Сафара ёсць яшчэ адна каштоўная рыса: ён гатоў тысячу разоў праверыць самога сябе. Ён можа гадзінамі слухаць другіх, не падаючы выгляду, што яму ўсё ўжо вядома, узважана ім, перадумана.

Убачыўшы пад пахаю ў Сафара пачак кляёнчатых сшыткаў і папак, я зразумеў, што ён прышоў вырашыць нейкае сумненне. У гэтыя сшыткі ён цярпліва ўпісваў усё, што заслугоўвала абмеркавання і прадумвання: і непаслухмянае алгебраічнае ўраўнанне, і спрэчны тэзіс даклада.

Сапраўды, Сафар адразу загаварыў гучным і ўсхваляваным голасам:

— Ха, разумееш, Сандро, — бамбардыроўшчык безабаронны! Бамбардыроўшчык—верная ахвяра знішчальніка, як галубка ў лапах каршуна. Ты разумееш?

— Нічога не разумею.

— Учора на дыспуце палкоўнік Рунаў чытаў адыходную бамбардыроўшчыкам.

— Пахаваў?

— Закапаў, разумееш!

— Шкода, што я позна з горада прыехаў.

— Я, разумееш, таксама шкадую, што цябе не было. Ты сам ведаеш, я супярэчыць адразу не ўмею. Мне падумаць трэба. А ты-б яму грыву расчасаў.

— Гэта заўсёды паспеецца.

— Такіх, як Рунаў, на месцы расшыфроўваць трэба. Колькі шкоды яго тэорыйкі могуць нарабіць? Моладзь дэмабілізуецца такімі гаворкамі: усё роўна, бач, знішчаць у першай-жа бойцы.

Сафар хваляваўся не на жарт.

— Я дастаў стэнаграму даклада. Глядзі, да чаго дагаварыўся Рунаў:

„Не будучы сам па сабе здольным да актыўнага бою, да навязвання бою супрацiўніку, з прычыны параўнаўча малой хуткасці і манеўранасці, ізаляваны цяжкі самалёт з'яўляецца амаль што вернай ахвярай адзіночнага знішчальніка, нават, калі хуткасць апошняга не на многа большая, ужо не кажучы пра групавую атаку самалётаў паветранага бою.

Акрамя арганічнай манеўрана-скараснай переваґі, знішчальнік мае і агнявую перавагу перад найбольш магутна ўзброеным караблём. Для блізкіх дыстанцый бою больш эфектыўным будзе агонь кулямётаў, дзякуючы скарастрэльнасці да паўтары тысячы стрэлаў у мінуту. Для дальняй-жа стральбы патрэбна гармата. Такім чынам, карабель павінен мець гэтыя абодва роды зброі. Але цяжка сабе ўявіць, каб нават самы дасканалы бамбардыроўшчык мог несці на сабе дубліраванае ўзбраенне ва ўсіх сваіх агнявых пунктах. Выбар пазіцыі і найбольш выгаднай зброі для кожнага данага моманту бою, знаходзіцца ў руках знішчальніка. Усё гэта дае магчымасць сцвярджаць, што бамбардыроўшчык з'яўляецца

ў паветраным баю амаль базабаронным: ён асуджаны быць ахвярай знішчальнікаў".

— Вось, брат, як: асуджаны!—шматзначна паўтарыў Сафар.

Як чалавек экспансіўн[illegible]гка паддаваўся знешняй лагічнасці доказаў. Але Касых запярэч[illegible].

— Яшчэ разок узбройся алоўкам. Цяпер мы ў гэтым разбяромся. Я думаю, што сучасныя хуткасці палёту далі скораснаму бамбардыроўшчыку пэўную перавагу перад знішчальнікам. Бамбардыроўшчык-жа не збіраецца нападаць на знішчальніка. Атакаваць хоча знішчальнік, значыць манеўраваць павінен іменна ён. Хай на тых-жа тэхнічных хуткасцях, пра якія гаварылася, знішчальнік на сустрэчным курсе атакуе бамбардыроўшчыка. І хай бамбардыроўшчык пры гэтым зменіць свой курс хаця-б на дваццаць градусаў. А сучасны бамбардыроўшчык,—скорасная і манеўраная машына,—зрабіць гэта можа лёгка і хутка. Знішчальнік адразу страціць магчымасць скарыстаць ранейшую наводку. Узяць новы кут прыцэльвання ён таксама ўжо не паспее. Пры хуткасці ўзаемнага руху 250—100 м/сек. знішчальнік проста праскочыць міма бамбардыроўшчыка, не паспеўшы зрабіць ніводнага стрэла. Ён апынецца далёка за ім і над ім.

Касых напісаў на паперцы старую схему атакі, калі знішчальнік яшчэ не меў такой вялізнай хуткасці, як цяпер, але меў вялікую перавагу перад бамбардыроўшчыкам і мог на працягу аднаго, двух кіламетраў паўтарыць некалькі атак, кружачыся наўкола неўвароткай ахвяры як неадчэпны камар. Пасля ён паказаў Сафару новую схему, калі для паўтарэння атакі знішчальнік вымушан выходзіць з першай атакі, не давёўшы яе да канца. Інакш ён наогул страціць магчымасць атакаваць скорасны бамбардыроўшчык і будзе траціць час толькі на дагон.

Сафар падняў на сябра павесялеўшыя вочы:

— Я ведаў, Сандро, ты ўмееш агрызацца. Але я таксама навучуся, абавязкова навучуся.

— Будзь спакайнейшым у спрэчцы, не прымай усё так блізка да сэрца, і пярэчанні знойдуцца самі.

— Можа гэта і правільна, Сандро. Але я пакуль не магу: ва мне злосці надта багата. Не прывык я да такіх спрэчак... спакойных. Калі ты спрачаешся, то...—Сафар пагразіў кулаком.—Ладна, навучуся.

— Не, не, наконт зброі палкоўнік Рунаў не праў: колькаснае ўзмацненне ўзбраення знішчальніка, інтэнсіўнасць агню—не адно і тое-ж. Чым больш кулямётаў, або гармат ты насадзіш у машыну, тым менш зарадаў ты зможаш даць кожнай агнявой адзінцы. Ты-ж не можаш перагружаць знішчальнік, інакш ён страціць свае асноўныя якасці—гарызантальную хуткасць, хуткапад'ёмнасць, манеўранасць. Таму, даючы ў рукі лётчыка-знішчальніка, калі можна так сказаць, „шмат дулаў", ты сапраўды робіш яго агонь у адзінку часу вельмі моцным, але затое скарачаеш час, на працягу якога ён можа страляць. Чым больш у яго на барту дулаў, тым з большаю асцярогаю ён вымушан імі карыстацца, каб у крытычны момант не астацца „сухім". Тут, браток мой, таксама атрымліва-

юцца ножніцы, якія не так проста звесці. Адносна забойнасці і прыцэльнасці агню, у літаральным разуменні, Рунаў праў: забойнасць гарматы нельга параўноўваць з забойнасцю кулямёта, а прыцэльнасць нерухомай зброі з турэльнай. Але Рунаў змоўчаў пра адну далёка не апошнюю акалічнасць: якую шкоду можа зрабіць агонь бамбардыроўшчыку? Адзіночная куля ў нежыццёвую частку машыны, як крыллі, наогул не будзе ім заўважана. Нават калі знарад пападзе ў крыло і сарве метр абшыўкі, гэта не выкліча неабходнасці садзіцца. Хай 'куля або знарад папалі ў адзін матор. Бамбардыроўшчык паляціць на астатніх двух або трох і будзе пры гэтым здольны да бою. Калі ўдалы стрэл трапіць у каго-небудзь з экіпажа—скажам, стралка, ну што-ж, на адзін агнявы пункт менш. У лётчыка? За штурвал возьмецца другі лётчык. Машына будзе няўхільна ісці да мэты. Пры гэтым адно пападанне не можа зрабіць бамбардыроўшчыку вялікай шкоды, бо людзі і абсталяванне ў цяжкім самалёце размешчаны на адносна вялікай адлегласці. Зусім іншае на знішчальніку: адна куля можа пранізаць, скажам, бензінавы бак і ўлажыць самога лётчыка. Або знарад, разарваўшы матор, амаль няўхільна раніць або заб'е лётчыка. Калі гэта і не здарыцца, то ва ўсякім выпадку прыдзецца сесці—матор-жа толькі адзін. Калі будзе пашкоджан вінт, то гармата, якая страляе праз рэдуктар, выбывае. Ды і наогул адзін удалы знарад можа нарабіць у маленькім, цесным знішчальніку столькі шкоды, што другога і не патрэбна будзе. Нават пападанне ў крыло прымусіць тут-жа ісці на пасадку. Дык на чым-жа баку перавага? Як бачыш, у значнай частцы сваіх развažанняў Рунаў не праў, але... але ў тым сім я з палкоўнікам Рунавым згодзен.

— Ты?—Сафар анямеў.

— Правільна тое, што ва ўмовах сучаснага бою бамбардыроўшчыку прыдзецца цяжка. Але няправільна ўсё астатняе, і асабліва няправільна гэта ў адносінах да скараснога бамбардыроўшчыка сярэдняга танажу.

— З гэтым і я згодзен. А я ўжо думаў, што ты гатоў пахаваць нашых прыгажуноў.

— За каго-ж ты мяне лічыш? Я ўжо сказаў: з фактараў яўнай перавагі хуткасць перараджаецца ў цэлы рад цяжкасцей, узнікаючых перад лётчыкам-знішчальнікам.

Не буду гаварыць пра цяжкасці фізіялагічнага парадку. Дапусцім, што мы так падабралі асабісты склад скарасных машын і так яго натрэніравалі, што ён будзе лётаць пры якіх хочаш умовах. Дапусцім, і ўсё-ж астаюцца цяжкасці тэхнічнага парадку. Вернемся да зброі. На першы погляд можа паказацца, што знішчальнік цяпер узброен значна лепш, чым у часе сусветнай вайны. А ці так гэта? Хай хуткастрэльнасць кулямётаў узрасла з шасцісот да тысячы двухсот і нават да паўтары тысячы стрэлаў у мінуту. Але-ж тады, падыходзячы да атакуемага самалёта з хуткасцю ў дзвесце, дзвесце пяцьдзесят кілометраў у гадзіну і пачынаючы агонь з тых-жа трохсот метраў, лётчык мог яго весці да дыстанцыі ў сорак—пяцьдзесят метраў, а некаторыя смелякі падыходзілі і на пятнаццаць—дваццаць метраў, не баючыся сутычкі. За гэты

час яны спраўляліся выпусціць з кожнага кулямёта паўсотні патронаў. У іх было на гэта чатыры—пяць секунд. А цяпер? Зблізіўшыся на чатырыста—пяцьсот метраў, г. зн. на параўнальна добрую дыстанцыю агню, трэба выходзіць з атакі, бо інакш можаш уліпнуць у атакуемага супраціўніка. На пралёт адлегласці паміж шасцю і чатырма стамі метраў у лётчыка-знішчальніка ёсць усяго паўтары-дзве секунды. Толькі кулямёт пачне працаваць, як ужо трэба адпускаць гашэтку. Выляцець з дула паспелі ўсяго якіх-небудзь дваццаць куль. І гэта пры ўдвая ўзросшай хуткастрэльнасці!

Разам з тым, як Касых гаварыў, твар Сафара прасвятляўся. Усміхаючыся, ён расказаў апошні довад учарашняга дакладчыка.

— Рунаў гаворыць, быццам знішчальнік заўсёды будзе мець перавагу па вышыні перад усякім іншым тыпам самалёта. Быццам, перавага яго паталка пакідае за ім ініцыятыву ў выбары часу і пазіцыі бою. Гэта сцверджанне Рунава здаецца мне няправільным, устарэлым.

Каб канчаткова разагнаць сумненні ўражлівага сябра, Касых сказаў:

— І гэта таксама няправільна: крывыя высотнасці баявых машын з цягам часу не разыходзяцца, а сыходзяцца. Розніца паталкоў робіцца адносна меншай. У часы імперыялістычнай вайны паталок бамбардыроўшчыка быў на 50 процантаў менш за паталок знішчальніка, а сёння гэта розніца складае ўжо ўсяго 25 процантаў. Як бачыш, нават тэхнічная перавага знішчальніка робіцца з кожным днём усё меншай. Я асабліва падкрэсліваю гэта слова—„тэхнічная“, бо фактычная перавага па вышыні на сёнешні дзень роўна нулю. Практычны баявы паталок усіх відаў авіяцыі далёка адстаў ад тэхнічных магчымасцей машын. У нас любяць гаварыць, што баявыя вышыні лімітуюцца маторам, але на самай справе задыхаецца не матор, а чалавек. З дрэнным дыханнем матора, аказваецца лягчэй змагацца, чым з няздольнасцю чалавека працаваць на вялікай вышыні.

— Гэта правільна. Яшчэ-ж зусім нядаўна, робячы машыны, якія-б лезлі на чатырнаццаць тысяч метраў, не давалі сабе клопату падумаць, каб у такой машыне чалавеку было добра і зручна працаваць. Кабіна, скафандр—не галоўнае, глупства! Я ўжо не кажу пра якія-небудзь акуляры.

— Гэта ад маштабаў, Сафар. Акуляры дробязь—каму была ахвота ламаць над імі галаву?!

У гэты момант пастукалі ў перагародку і пачуўся голас капітана Гразы:

— Касуля, не спіш? Навіны.

Праз хвіліну Граза ўвайшоў:

— Навіны, браткі, надзвычайныя навіны! Імперскі пасол зноў клянецца ў любві да Савецкага Саюза і абяцае мір усяму свету. Як вам падабаецца?

Сафар панура прамармытаў:

— Зусім не падабаецца. Гэта значыць—спі апрануты, як пажарнік.

— Дарэчы,—сказаў Касых Гразе,—як знішчальнік, ты лепш за другіх можаш вырашыць сумненні Сафара...

— Сафар і сумненні!—рассмяяўся Граза.—Дзіўнае з'явішча...

— Довады Рунава, быццам бы знішчальнікі сталі цяпер абсалютнымі ўладарамі паветра, сапсавалі нашаму сябру настрой.

Падумаўшы, Граза сказаў:

— Бачыш, Сафар, я знішчальнік, я люблю сваю справу і веру ў яе. Але гэта не значыць, што я закрываю вочы на яе цяжкасці. Як лётчык-знішчальнік, я найбольш аптымістычна стаўлюся да рэзультатаў паядынку з бамбардыроўшчыкам. Я ўпэўнен, што нарэшце яго саб'ю. З цяжкасцямі, з напружаннем усіх фізічных сіл, усяе хітрасці, усіх ведаў, але саб'ю. Павінен збіць. Але я не згодзен з Рунавым у лёгкасці яго вываду. Рунаў праў толькі ў той частцы свайго дакладу, якая зусім не новая і пры тым выдумана не ім. Нашы патрабаванні да сучаснага бамбардыроўшчыка, яго хуткасць павінна быць як мага бліжэй да хуткасці яго супраціўніка, г. зн. знішчальніка. У нас няма практычнага вопыту ў гэтым кірунку, але і таго, што дала барацьба іспанскага народу за сваю незалежнасць, дастаткова, каб выказаць зусім пэўныя меркаванні. Ахвярай скараснога і манеўранага знішчальніка робіцца ўсякі ціхаходны бамбардыроўшчык, незалежна ад яго агнявога ўзбраення. Варта паглядзець гісторыю гэтай барацьбы і ты ўбачыш, якія гекатомбы славутых „Юнкерсаў" панаварочвалі рэспубліканскія знішчальнікі, хаця „Юнкерсы", вядома, не лёталі з голымі рукамі. Але як толькі мяцежнікі выпусцілі ў ход скарасныя італьянскія „Савойі", барацьба з імі адразу зрабілася цяжэйшай. Пры наяўнасці знішчальнай аховы яны нават маглі выходзіць кідаць бомбы ўдзень—чаго не маглі сабе ні пры якіх умовах дазволіць „Юнкерсы". Мне могуць запярэчыць, што вопыт грамадзянскай вайны ў Іспаніі ўстарэў, што мы вельмі далёка пайшлі наперад у параўнанні з тэхнікай таго часу. У пэўнай меры гэта правільна, але ёсць некаторыя палажэнні, для якіх такі вопыт не траціць сілы. І адным з гэтых палажэнняў з'яўляецца бясспрэчны вывад: зменшыць скарасныя нажніцы паміж знішчальнікам і бамбардыроўшчыкам, вось асноўнае патрабаванне да канструктараў.

Касых з цікавасцю сачыў за Сафарам. Разам з тым, як Граза пераходзіў да апалагетыкі лёгкага самалёта, рухавы твар Сафара выяўляў усё большы непакой. Відаць, сочачы за думкаю Гразы, ён стараўся падшукаць пярэчанні на карысць блізкіх яго сэрцу машын сярэдняга класа. А Граза, са звычайнай для яго лёгкасцю і пераканаўчасцю меркаванняў, працягваў:

— Для бамбардыровачнага самалёта хуткасць з'яўляецца найнадзейнейшай абаронай ад агню зенітнай артылерыі. Не меншае значэнне мае ў паветраным баю і манеўранасць. Чым меншая розніца ў гэтых уласцівасцях паміж знішчальнікам і бамбардыроўшчыкам, тым больш шансаў у апошняга на выратаванне, а магчыма і на перамогу. Гэта значыць, што бамбардыроўшчык павінен быць як мага больш лёгкім, я-б сказаў нават асабліва „лёгкім" самалётам. Два такія „асабліва лёгкія" бамбардыроўшчыкі могуць падняць столькі-ж бомб, колькі нясе пры далёкім рэйдзе

сучасны цяжкі карабель. Яны без цяжкасці пройдуць адлегласць, аддзяляючую іх ад мэты. Але пры гэтым неаспрэчная перавага гэтых новых бамбардыроўшчыкаў перад вялікім караблём будзе заключацца ў тым, што яны, скінуўшы бомбы, зробяцца лёгкімі, манеўранымі, баяздольнымі крэйсерамі. Значыць, толькі на шляху да мэты баявая магутнасць такіх самалётаў можа быць ніжэй за магутнасць супрацiўніка. На зваротным маршруце, калі супрацiўнік усімі сіламі будзе старацца не даць магчымасці скінуўшым бомбы самалётам вярнуцца ў сваё распалажэнне, калі ён кінецца іх праследваць з „карнай“ мэтай, іменна тады такі—асабліва лёгкі—бамбардыроўшчык будзе найбольш магутны. Скінуўшы груз, ды яшчэ і вызваліўшыся ад палавіны гаручага, ён сам ператварыўся ў баяздольны звыш-знішчальнік. Тут ужо ён можа не толькі абараняцца, але і актыўна нападаць.

Сафар ажывіўся:

— Ты разумееш, гэта аказваецца вельмі проста: бярэцца добры крэйсер і адпраўляецца кідаць бомбы...

— Не так проста, Сафар, калі ты возьмеш звычайны крэйсер, з дальнасцю палёту, скажам, у 1000 кілометраў і павялічыш процантаў на трыццаць яго нагрузку, то ён перш за ўсё панізіць дальнасць свайго палёту кілометраў на 300, а гэта ўжо нікуды не варта. Які-ж гэта бамбардыроўшчык з дальнасцю дзеяння ў 700 кілометраў? Прыходзіцца падумаць пра аб‘екты, якія знаходзяцца за лініяй фронта на 1200—1500 кілометраў. Разумееш? Значыць—трэба гаварыць пра нешта іншае. Патрэбна спецыяльная канструкцыя самалёта.

— Перш за ўсё меншая ўласная вага.

— Правільна, Сафар. Меншая вага канструкцыі. За лік чаго гэта можна дасягнуць?

— На нашых прыгажунах гэта дасягнута ўжываннем звышлёгкіх сплаваў магнія і берылія—у камбінацыі з высокалегіраванымі сталямі—раз; устаноўкай паратурбінных рухавікоў—два... Ты разумееш, калі я яшчэ амбалам быў,—задуменна і нават неяк лятуценна сказаў Сафар,—усе гаварылі: пара? Аджыўшая справа! Параход—гэта мінулае.

Унутранае згаранне—вось дзе перспектывы. Я тады мала ў такіх рэчах разумеў, а пасля, як стаў вучыцца, зноў тое самае чую: паравая машына—старажытнасць. Бензінавы матор, дызель—куды лепей. А вось цяпер, глядзі-тка, бабулька паравая машына зноў прышла і матору ачко наперад дае.

Граза згадзіўся:

— Мы як варвары абыходзімся з гаручым. Нашы маторы ўнутранага згарання, таксама як і нашы паравыя рухавікі, гэта толькі далёкі намёк на тое, чым будуць карыстацца праз які дзесятак гадоў. Важна не толькі ўтылізаваць таннае паліва, але і ўтылізаваць яго поўнасцю.

— Гэта правільна. Калі давесці каэфіцыент карыснага дзеяння рухавіка хаця-б да 60—70 процантаў, я на тым-жа запасе паліва здолею праляцець далей, або на той-жа дальнасці замяню палову гаручага бомбамі.

— Як бачыш, над гэтым варта падумаць...

Сафар даў заўвагу:

— Выходзіць, хуткасць—усё. А некаторыя кажуць, што граніца хуткасці ўжо дасягнута.

— Мой малодшы брат кажа, што інжынеры павінны будуць паставіць лётчыка ў такія ўмовы, каб палёт з хуткасцю, хаця-б гуку, быў фізічна магчымы.

— Чаму іменна гуку?—здзівіўся Сафар.

Граза засмяяўся.

— Гэта думка хлапчука. Аднойчы ён мне кажа: „Ваенным самалётам неабходна лётаць з хуткасцю хаця-б 333 метры ў секунду, не меней“. Калі я спытаў, чаму іменна 333, ён адказаў: „хуткасць гуку—332 метры ў секунду, значыць самалёт, які ляціць хаця-б на адзін метр хутчэй, будзе даходзіць да цябе раней, чым ты пачуеш, што ён набліжаецца, гэта вельмі важна для ваеннай машыны“.

— Да такой хуткасці яшчэ далёка.

— Баюся, бліжэй чым мы думаем. У адзіночных машынах мы маем ужо хуткасць каля 900 кілометраў. Рост хуткасці ішоў вось так:—Граза начарціў на падваконніку крывую,—працягнуўшы гэтую лінію, мы атрымаем хуткасць гуку ў бліжэйшыя гады.

— Тваімі губамі, ды мёд піць.

— Так, калі-б справа ішла пра што-небудзь іншае, а не пра вайну. А то мёд атрымліваецца даволі горкім.

Сафар ускочыў.

— Не згодзен, разумееш? Пакуль мы не звернем шыю гэтым сукіным сынам, я хочу біцца.

— Але на шчасце,—сказаў Касых,—здаецца, біцца ўсё-ж пакуль не будуць, калі тыя, каго ты так ласкава завеш сукінымі сынамі, не палезуць першыя. Хай яны гавораць што хочуць, а час працуе на нас.

Сафар сціснуў кулакі так, што пабялелі костачкі:

— Шкода, не я распараджаюся гісторыяй, а то біліся-б. Без бойкі справы не прыдуць у парадак. Некаторым з нас трэба аддаць сваё жыццё, каб усё стала на сваё месца. Я гатоў. Яны каннібалы, ім трэба мая кроў. Хай бяруць, але гэта ім будзе каштаваць зусім не так танна, як яны думаюць. Разумееш?

Граза спакойна:

— Саюз патрабуе ад цябе жыццё толькі пры адной умове: калі яго нельга выратаваць.

— Ты думаеш, я гатовы кідацца сваім жыццём направа і налева? Гэта лепшае, што ў мяне ёсць—жыццё. Гэта-ж не толькі я сам, але і ўсё маё патомства, разумееш? Гэта—будучыня цэлага роду Сафараў. Але я аддаю яе—бяры, мая радзіма, бяры для вялікай тваёй будучыні.

Граза ўсё так-жа спакойна:

— Другі на маім месцы, хто не ведае цябе так добра, мог-бы з тваіх слоў зразумець, што ты хочаш бойкі ва што-б там ні было, бойкі дзеля бойкі, геройства дзеля геройства. Але ты быў-бы

вельмі дрэнным абаронцам радзімы, калі палез-бы пад кулю толькі для таго, каб памерці. Гэта будзе сумазбродствам...

— А, я сумазброд? Я сумазброд? Ты надта многа разумееш у жыцці! Нічога ты не разумееш. Нічога! Гэта кажу табе я, Сафар. Я ведаю жыццё, сапраўднае жыццё, тое, якое ідзе, якое прышло ўжо. Я табе сказаў: люблю яго. Вельмі, да канца люблю. Але, калі трэба выбіраць—маё жыццё, ці жыццё майго народу, мае краіны, я кажу: бярыце. І калі я гэта сказаў, калі я так вырашыў, я жыццём не даражу. Тады я пра яго перастаю думаць.

— У нас на гэта розныя погляды: ты перастаеш думаць пра жыццё, а я думаю. І я вельмі ўдзячны краіне, правадырам, за тое, што яны пра яго таксама думаюць, шануюць яго.

— З такімі сухімі мазгамі, як у цябе, нельга быць лётчыкам. Яны ў цябе сухія, зусім сухія, разумееш?

— Іменна з такімі, толькі з такімі. А вось з тваімі сапраўды нельга: яны ў цябе распараныя, нікуды не варты. Я-б табе дараваў за твой неабдуманы пал, калі-б ты быў равеснікам Кастрычніка, калі-б царызм не нацёр табе мазалёў на карку. Тады табе не было-б з чым параўноўваць тое, што адбываецца ў краіне. Тады ты яшчэ меў-бы права не ведаць, ад чыіх лап павінен абараняць сваю радзіму, свой народ, той самы род Сафараў, з усёй яго будучыняй, пра якую сам толькі што гаварыў. Але мы з табой добра гэта ведаем і нам нельга кідацца сваім жыццём. Ды хіба я не маю права жыць ужо таму, што абараняю самае надзвычайнае, самае дзівоснае, самае цудоўнае, што калі-небудзь ведала гісторыя—СССР. З гэтымі ж чатырма літарамі звязана ўяўленне аб тым, што ўчора яшчэ здавалася нашым народам неажыццявімай марай, цудоўнай казкай. Мне хочацца жыць ад аднае гордасці, што я сын гэтай надзвычайнай, казачнай краіны—Расіі. Я сын народу, які даў свету Леніна. Ты гэта разумееш? Ад аднае гордасці за гэты цудоўны народ, які крочыць у будучыню, можна пашкадаваць, што чалавек не няўміручы, а ты: памерці абавязкова! Ты падумай толькі пра свой народ, пра сваю краіну. Успомні, якога сына нарадзіла твая зямля, Каўказ! Хіба сыны гэтай краіны не маюць права на лепшае, самае прыгожае жыццё на зямлі? А?

У Сафара сціскаліся сківіцы. Ён не знаходзіў слоў, каб выказаць нешта, што падступала ў яго да горла.

Спяшаючыся, сабраўшы сшыткі, ён пайшоў.

Пра што-ж яны спрачаліся? Для Касых было зусім ясна, што яны думаюць адно і тое-ж. Як прыкра, калі ў людзей нехапае слоў, нехапае ўменне гаварыць, каб ясна і лагічна выказаць свае думкі. Яны ледзь не паспрачаліся з-за таго, што з розных канцоў падыходзяць да аднаго і таго-ж: жыццё—лепшае, што ў іх ёсць, але і адзін і другі без усякага хістання, аддадуць яго па першаму закліку Радзімы, за яе незалежнасць, за шчасце яе народаў, за яе цудоўную будучыню, за цудоўнае цяперашняе.

Граза надзвычайны чалавек—вельмі спакойны, разумны, вытрыманы.

А які цудоўны хлапец Сафар. Але для лётчыка бамбардыровачнай авіяцыі ў ім занадта многа тэмпераменту. Тут патрэбен спакой.

З такім характарам, як у Сафара, цяжка не ўвязацца ў бой па дарозе да мэты, а гэта ўжо вялікая рызыка не давесці заданне да канца. Нагружаная машына амаль заўсёды будзе слабей за супрацоўніка.

Граза таксама сабраўся быў ісці, калі пад акном пачуліся цяжкія крокі. Вярнуўся Сафар.

— Сандро, ты ведаеш, што я хачу?

Капітану Касых хацелася спаць і, каб адчапіцца ад Сафара, ён адказаў:

— Не ведаю, ды цяпер і ведаць не хачу.

— Шкада, Сандро. Я пра вельмі важнае. Я рэкорда хачу.

— Ты таму і вярнуўся, каб гэта сказаць?

— А хіба дрэнна прысці сказаць сябру пра сваё вялікае жаданне. Ты скажаш—гэта дрэнна?

— Гэта не дрэнна, але я спаць хачу, Сафар.

— Які ты санлівы, Сандро. А адзін сапраўдны сябра ведаеш, што мне сказаў?

— Не ведаю, Сафар.

— Ён сказаў: рабі рэкорд, Гіго. Рэкорды нам патрэбны. Рэкорды—значыць, людзі рэкордныя, а рэкордныя людзі, сам разумееш, неабходны нашай краіне. Краіна надзвычайная, рэкорды павінны быць таксама надзвычайныя...

— І людзі, якія ставяць рэкорды, таксама павінны быць надзвычайнымі. Напрыклад, лётчык Сафар...

Сафар пакрыўдзіўся:

— Эх, Сандро, Сандро, я ад усяе душы, а ты...

Ён выцягнуў з акна свае шырокія плечы і сказаў:

— Значыць, ты думаеш—я не магу быць рэкордным чалавекам?

— Гледзячы ў чым, Сафар. Калі ў падыманні гір, то пэўна можаш.

Касых адразу-ж пашкадаваў, што так сказаў. Сафар не разумеў такіх жартаў. Твар гіганта зрабіўся панурым. Ён так сердаваў: твар каменны, а кулакі сціскаюцца для ўдара, важкія, як кувалды.

— Табе трэба вучыцца, Сафар.

Ён моўчкі адвярнуўся. Сяброўства не дазваляла яму сказаць капітану Касых тое, што, пэўна, хацелася.

— Я хачу сказаць: вучыцца разумець жарты, Сафар.

— Не хачу разумець жартаў, калі размова сур'ёзная. Я хачу, каб усе рэкорды былі нашы. Хуткасць наша—Тучын, вышыня наша—Граза, а я хачу дальнасць браць.

— Бяры дальнасць, Сафар, гэта добра.

— Ты сур'ёзна?

— Вельмі сур'ёзна.

— Для гэтага трэба шмат вучыцца. Лётаць вучыцца. Апранацца вучыцца. Есці вучыцца, адпачываць вучыцца. Жыць вучыцца трэба. Працаваць вучыцца трэба. Ты мяне разумееш?

— Вучыся, Сафар.

Ён усміхнуўся проста і адкрыта.

— Гэта будзе добра.

— Здарава будзе, Сафар. Бяры дальнасць і... і ідзі спаць.
Але Сафар рашуча ўсеўся на падваконніку:
— А! Не кажы: спаць! Я сёння такі асаблівы.
— А я, брат, спаць хачу.
— Можна для добрага таварыша крыху прыцерпець. Я табе раскажу адну гісторую...
Стала зусім цёмна. Касых так хацелася спаць, што ён нават паленаваўся выключыць святло. Не памятаў, што расказваў Сафар— ён заснуў пад яго гаворку. Праз дрымоту адчуў, што ў твар ударыў прамень яркага святла. Касых расплюшчыў вочы. У пакоі было відна ад аўтамабільных фар, што свяцілі ў вокны. Пачуўся грудны голас дзяўчыны:
— Дома?
Алеся ўвайшла, з бацькам—камдывам Багульным. Касых і Багульны даўно ведалі адзін аднаго—яшчэ з грамадзянскай вайны. У сібірскай тайзе Багульны на вачах Касых і ажаніўся. Гэта была незвычайная жаніцьба—каржакаватьі цюхцяй з украінскіх кавалёў Тарас Багульны і высокая бландынка—Дзюкло. Былая гувернатка ў доме нейкага сібірскага сатрапа, яна ўсёй палкасцю свайго французскага сэрца ненавідзела сваіх былых гаспадароў. У гэтым яна сыходзілася з новым сваім супругам—камандзірам партызанскага атрада. Касых не ведаў, адкуль гэта нянавісць Дзюкло, але не раз і не два бачыў, як яна на справе выяўляла яе. Дзюкло (яна так і асталася Дзюкло да самай смерці), ні на крок не астаючыся ў тайзе ад Багульнага, прайшла з ім праз усе баі ў сібірскіх стэпах і ў тайзе Прыамур'я (скончыла жыццё ў японскай контрразведцы). З твару Алеся была ў матку: бландынка з точанымі рысамі і пяшчотным румянцам на шчаках. З фігуры яна была ў бацьку: гэткі маленькі каваль у спадніцы—ёмкая, моцна сшытая, шырокая ў плячах. Яна крыкнула з парогу:
— Дзядзька сібірак, тату па вас сумуе.
Багульны засмяяўся.
— Не крыві душой, Алёнак. Не давай ёй веры, сібірак: я, вядома, вельмі рад цябе бачыць, але зацягнула мяне сюды яна. Памры, а едзь да сібірака, калі добрыя людзі спаць кладуцца.
Праз некалькі хвілін Алеся зазірнула ў акно.
— Тату, ты нічога не маеш: мы на тваёй машыне з'едзім у горад?
— А я дамоў пешшу?
— Я праз гадзіну па цябе заеду.
Багульны махнуў рукой. Алеся знікла. З ёю зніклі Сафар і Граза.
Багульны сядзеў пахмуры.
— Ты нездаволены?—запытаў Касых.—Рана ці позна, трэба-ж.
— Я не пра тое. Дзяўчына такая, што на сяле ёй бы ўжо два разы раджаць трэба. А скажы ты мне, што яна ад мяне не адчэпіцца?
— Бацька ты ёй?
Багульны ціскануў плячом.
— На якога біса яе да мяне прынесла?

— Кажы ясней, Тарас. Не майстар я разгадваць з паўслова. Багульны здзіўлена паглядзеў на Касых:

— Хіба ты не ведаеш? Аленка да мяне ў дывізію перавялася: урачом галоўнага атрада.

Касых не ведаў, што сказаць. Нарэшце, выціснуў з сябе:

— Ужо скакала?

— Трыццаць два разы... Ты ведаеш мяне. У мяне іх без малага чатыры тысячы—хлопцаў маіх. Усе як дзеці мне. За ўсіх хвараю, але... тут не вытрымліваю. Ведаю: і парашуты надзейныя, і скакаць навучылася і ўсё такое, а вось... не магу прывыкнуць. Як яна на крыло выйдзе, дык у мяне вось тут... абрываецца.

— Старэеш, Тарас.

Багульны, смеючыся, правёў далоняю па сівaward шчаціне галавы:

— Якое там! Пра гэта рана. Тут відаць іншае. Я і сам думаў: ці не нервы толькі?

— І ў цябе знайшліся?

— Біс іх ведае... Да гэтага часу не было, але можа гэта яно і ёсць... нервы. З аднаго боку я, вядома, рад, дзяўчына на вачах. А з другога—не ўсё-ж вучэнне ды трэніроўкі, дойдзе і да справы. Перадавы атрад! Будзьце ласкавы з усімі сваімі санітарнымі пажыткамі на парасонах.

— А сама яна якога погляду адносна гэтага?

— Проста гарыць.

— Значыць добра.

— Мне, ведаеш, нават няёмка. Раней у нас з перадавым атрадам лекпом, ды два санітары скакалі, а яна бузіла, бузіла—у акругу пісала, дамаглася таго, што пад санчастку цэлы самалёт далі. Там у яе цяпер усё, што трэба. Нават сабакі санітарныя з медыкаментамі і тыя не баяцца скакаць.

— І нічога?

— Сабакі? Хоць-бы што. Ды вось другія атрады нездаволены: у іх урачы таксама скакаць хочуць, таксама сабак ім давай, таксама цэлую машыну вылучай. А камандзіры супроць: нам машыны пад байцоў патрэбны. Без урачоў, бач, пражывем.

— Можа яны і ў правах, га?

Ён рашуча стукнуў рабром далоні па сталу:

— Не, не ў правах. Яны псіхалогію не ўлічваюць. Манеўры адно, а ў бой ісці яшчэ нікому не даводзілася. Я думаю, дзяўчына ў правах: калі баец ведае, што аб ім клапоцяцца, дык ён не толькі ў бой весялей ідзе, але і скакаць весялей будзе.

Багульны ажывіўся. Тэма была для яго занадта блізкая: ён першы фармаваў калісьці дэсантны парашутны атрад, а цяпер—камдыў. Гэта была яго блізкая, родная справа.

Багульны задуменна паглядзеў на цёмнае акно.

— Сорамна сказаць, але я на бойку гляджу, як на апраўданне свайго жыцця. Не будзе вайны і мая функцыя—абарона краіны астанецца нявыкананай. Мне ўсё неяк крыху сорамна: ваенны я, ромбы нашу, ордэны маю, а чым я за гэта аддам? Тым, што я некалькі тысяч добрых спецыялістаў з арміі выпусціў? Яны да

мяне сасункамі жоўтаротымі прыходзяць, а я іх назад у краіну першакласнымі матарыстамі і майстрамі выпускаю. Гэта, вядома, таксама важна, але падобна на тое, быццам я не камандзір дывізіі, а дырэктар школы, ці што. І вось мне ўвесь час крыху сорамна перад краінай, усё здаецца, што хто-небудзь возьме ды і папытаецца: ты, стары чорт, што-ж ваенным завешся, а дома на пячы ляжыш? Я сам сябе з артылерыйскім знарадам параўноўваю: загатовіць то яго загатовілі, грошай на яго колькі патрацілі, а вайны і не здарылася. Заіржавеў знарад, устарэў узорам, разрадзяць яго, абалонку ў мартэн, як кавалак простага жалеза. А жыццё-ж ідзе. І не давядзецца мне пажыць мірным чалавекам пасля вайны за выратаванне чалавецтва ад войн.

Ён патарабаніў пальцамі па шклу.

— Ты як наконт гэтага, сібірак?

— Вушы вянуць цябе слухаць. Нават і той знарад твой сваю справу зрабіў. Працаўнік ведаў пра тое, што ён у поўнай гатоўнасці на складзе ляжыць і гэта выратавала краіну ад вайны. Нават не скарыстаны, знарад зрабіў сваю справу. А табе грэх скардзіцца. Нябось партызанскія раны няма-няма ды і даюць пра сябе знаць?

— Усё не тое, сібірак. Каб скруціць ім галаву раз і назаўсёды, трэба іншае: тое, што мы робім цяпер. Рукі чэшуцца паспрабаваць.

— Ды што ты ўсё пра адно: рукі чэшуцца, рукі чэшуцца. У Сафара вунь таксама кулачышчы пачалі часацца.

— Табе не зразумець, сібірачок. Усюды і заўсёды адна думка: калі ўдараць? Што ўдараць—ясна, як божы дзень. Выйсця ў іх няма. Вар'яцкі дом. Для іх адтэрміноўка пагібелі—у вайне. Гэта разумее ўсякі. Дык лепш ужо адразу, цяпер, чым вось так чакаць. Ты-ж разумееш, не тое страшна, што ўдараць—дамо адпор, а тое, што на нервах іграюць: чакай, бач, чакай, а мы... стукнуць-бы самім разок ды і ўсё, назаўжды пакончыць з гэтай справай.

— Не, ужо лепш пачакаць.

— Эх, мілы, я хіба не разумею? Гэта-ж кроў, кроў народу, наша кроў. Ахвяр—шмат ахвяр з абодвух бакоў. Хіба я не разумею гэтага.

— Вайна будзе страшнай. Агонь, сталь, хімія, электрычнасць.

— Не буду спрачацца. Тэхніка знішчэння ў іх на вышыні. У гэтым яны майстры. Ім і кнігі ў рукі. Не дарма яны маюць шматвяковы вопыт знішчэння да сябе падобных. На гэтым будавалася ўся іхная роля паноў. Не авалодай яны гэтым вопытам, падручнікі гісторыі выглядалі-б інакш. Але чым яны могуць пахваліцца, апрача тэхнікі? Якой бы тэхнічнай ні была наступная вайна, вырашаць яе будзе ўсеткі чалавек. У вайне будуць браць удзел мільёны людзей. Ёсць у іх столькі адданых салдатаў? Няма. Ты гэта і сам ведаеш. Але нават калі на секунду дапусціць магчымасць, быццам у іх там усё як трэба, і яны сапраўды такія моцныя, якімі хочуць здавацца, дык яно-ж чым далей, тым больш ахвяр яны возьмуць. Гэта-ж сволач дзень і ноч вострыць нож. Чым вайстрэй ён будзе, тым даражэй нам абыйдзецца вырваць яго з іхных рук.

— А ці не дапускаеш ты магчымасці, што гэты нож яны адзін аднаму могуць пад лапатку... Уначы, у завулку, га?

— Пакуль сонца ўзыйдзе, раса вочы выесць.

— А калі ўсёткі ўзыйдзе?

— Не, яго за вушы выцягнуць трэба.

— Адным словам, хочацца біцца?

Багульны, нібы саромячыся, схіліў пасівелую галаву.

— Грэшны, хочацца.

На дарозе пачулася сірэна. Увайшла Алеся.

— Нагаварыліся?

Багульны прыжмурыўся:

— Мы то нагаварыліся...

Алеся не збянтэжылася.

— І мы таксама. Да хаты паедзем.

— Я вось гляджу: хто цябе такую... скакунню парасонавую замуж возьме.

Алеся трасянула галавой.

— Бяруць ды яшчэ хваляць.

— Замуж выйдзеш—не да парасонаў будзе. Будучы муханёк пэўна...

Яна перабіла:

— „Будучы“ кажа, што калі я хачу па сапраўднаму ў дэсанце працаваць, дык без зацяжных не абыйсціся. Дакладнасці без гэтага не будзе.

Багульны здзіўлена пераглянуўся з Касых.

— Не хлусіш?—кінуў ён дачцы.

— Ён кажа, што і вы ўсе, калі хочаце біць пэўна, павінны асвоіць зацяжны, як ранішняе ўмыванне. Так каб на апошніх пяцістах парашут—а да таго зацяжка. Куляй да зямлі, пасадка ў пятачок.

Багульны павесялеў.

— Ты ўсё гэта не выдумала?

— Ты нічога не будзеш мець супроць? Мы паслязаўтра ў загс заедзем. Заўтра свята авіяцыі, няма калі, а...

— Так...—мог толькі сказаць Багульны.

Касых уставіў:

— Усё наладжваецца.

— Камень з сэрца,—весела сказаў Багульны.—Гэта-ж я чаму... усё такое? Нервы гэтыя самыя? Думаю—пайшла дзяўчына не па той лініі. А твой як быццам сапраўдным чалавекам аказваецца, га? Ну там дзеці пойдуць, дык вы ўсе пра парасоны думаць будзеце, га? Але, паміж іншым, можа-б ты сказала бацьку хто ён, мой зяцёк, чы той, чы гэты? Не разбяруся я...

Алеся пачырванела і, весела пляснуўшы Касых па руцэ, пацягнула бацьку да дзвярэй.

Касых пагасіў святло і доўга глядзеў услед аўтамабілю.

2

„Савецкі Саюз не бачыць падстаў мяняць сваю палітыку, якая была, ёсць і будзе палітыкай міру“.

*М. М. Літвінаў.*

(Прамова на Надзвычайным VIII з'ездзе Советаў 28/XI—36 г.

## Абставіны

К таму часу, калі адбывалася апісаная размова, г. зн. к сярэдзіне жніўня становішча ў Еўропе здавалася безвыходным. Атмасфера была яшчэ больш няпэўная, чым у жніўні мінулага года, калі Grand Fleet адмірала Джонса ўвайшоў у міжземныя воды і блакіраваў афрыканскія камунікацыі рымлян. Усе памятаюць, якое ўражанне зрабіла тады нечаканая вестка пра тое, што паміж Албіонлэндам і Пятай Імперыяй існуе шматгадовы патаемны дагавор. Рымскі дыктатар, які трымаў каля мільёна салдат у Абісініі, аказаўся перад пагрозай утаржэння матарызаванай арміі свайго больш маладога паўночнага калегі. Ён вымушаны быў без усякіх агаворак згадзіцца на правядзенне славутага аншлюса. Рэйд Grand Fleet каштаваў Рыму возера Тана і ўсяе вобласці, што знаходзіцца паміж гэтым вадаёмам і егіпецкім Суданам...

Усё гэта здавалася дзіцячай гульнёй у параўнанні з трагедыяй, што навісла над Еўропай праз год.

Правадыры Пятай Імперыі нават не спрабавалі хаваць свае агрэсіўныя намеры ў дачыненні да маладой Славенскай рэспублікі, якая перашкаджала завяршэнню іхных планаў панавання над усёй Сярэдняй Еўропай і далейшаму прасоўванню па Дунаю. Пазіцыя Альбіонлэнда аставалася традыцыйна-невыразнай. Не адважваючыся спадзявацца на ўсё яшчэ не скончаную „лінію Важыно“, урад Франконіі хістаўся і не выяўляў сваіх намераў. Маленькі славенскі народ рызыкаваў астацца адзін на адзін з узброенай да зубоў Імперыяй.

Тым больш бліскучай здавалася перамога савецкай дыпламатыі, якая дамаглася далучэння Пятай Імперыі да пакта аб ненападзе, заключанага усходне-еўрапейскімі дзяржавамі. 13 жніўня дыктатар Імперыі паставіў свой подпіс на дагаворы. Рэгенту Паспалітаніі маршалу Пшэглонду-Высоцкаму нічога не аставалася, як на дзень пазней зрабіць тое-ж ад імя сваёй дзяржавы.

Народы Заходняй Еўропы яшчэ раз атрымалі доказ адданасці прынцыпам гуманнасці прызнанага барацьбіта за мір—Савецкага Саюза. У Франконіі дэманстрацыя давер'я да Саюза Советаў вылілася ў магутны рух рабочых мас і працоўнай інтэлігенцыі супроць вайны і фашызма.

Але 15 жніўня хваля разгубленасці пракацілася па Еўропе. У ноч з 14-га на 15-е уся сетка аўтастрад Імперыі і аўтастрад Паспалітаніі, якія змыкаліся з першымі, была закрыта для прыватнага руху. Карэспандэнтам замежных газет удалося выявіць, што па

аўтастрадах у кірунку з усходу на захад ідуць няспынныя масы аўтамабіляў з войскамі.

Раніцой 15-га былі прыпынены ўсе палёты самалётаў іншых краін над тэрыторыяй Імперыі. Пасажыры паветраных экспрэсаў на мяжы перасядалі ў паязды. У месцах скрыжавання чыгунак з аўтамабільнымі дарогамі шторы на вокнах вагонаў апускаліся спецыяльнай аховай, якая не пакідала паяздоў з моманту адыходу ад прымежных станцый.

Еўрапейскія палітыкі баяліся думаць пра разгадку гэтых перавозак. Большасць урадаў употай спадзяваліся на тое, што падзеі разгарацца толькі на ўсходзе Еўропы. Але сапраўднасць ашукала ўсе спадзяванні: за суткі 15—16 жніўня мільённая армія Паспалітаніі была перакінута сіламі маторнага парка Імперыі да усходняй мяжы Франконіі.

У трэці раз за два тыдні погляды Еўропы накіраваліся на ўсход.

Доўгія чаргі стаялі каля газетных кіоскаў. Зверстаныя нумары газет нерухома ляжалі ў машынах з квадратам пустога месца пасярод першай паласы: чакалі паведамленняў з Масквы. Разносчыкі спалі каля варот друкарняў. У гэтую трывожную ноч на ўсім кантыненце не было радыёслухача, які хоць-бы на хвіліну выключыў свой прыёмнік. Пасля дванаццаці гадзін пакутлівай сцішанасці, загрымелі рупары радыё: „Рашэнне Крэмля адбылося. Паслу Франконіі ў Маскве дадзены запэўненні ў тым, што СССР астанецца верным прынятым на сябе перад Франконскім народам абавязацельствам узаемнай дапамогі“.

Па вуліцах Лютэцыі жанчыны неслі ўпрыгожаныя кветкамі партрэты совецкіх правадыроў. Кароткае радыё з Масквы давала жанчынам надзею на тое, што паўтары мільёнаў франконцаў, што стаялі на лініі Важыно, пазбегнуць крывавага кашмару, што навіс над імі.

Але ў гэтую-ж жнівеньскую ноч у мярцвяным святле пражэктараў па вуліцах многіх еўрапейскіх гарадоў, грукочучы сталью гусеніц, паўзлі танкі; шапацелі шынамі бясконцыя калоны машын вайны. З пляцформ грузавікоў пахмура пазіралі салдаты пяхоты. І тут-жа па тратуарах ішлі працэсіі з высока ўзнятымі транспарантамі: „Мы не хочам вайны“.

Еўропа не хацела вайны і ішла ваяваць.

На плошчах Лютэцыі стаялі маўклівыя натоўпы.

На пляцу Рэспублікі, узабраўшыся на цокаль статуі барадатага караля, у натоўп крычаў легіянер з „ваенных крыжоў“. Малойчык з падбрытай палоскай вусоў на верхняй губе, у крагах і куртцы, у берэце, па заліхвацку ссунутым на вуха, крычаў пра надыходзячы час расплаты за палітыку габінета народнага фронта. І нельга было зразумець, да чаго ён заклікае. Ці да таго, каб з урадам адстойваць незалежнасць Франконіі, або да таго, каб разам з імперцамі павярнуць зброю супроць народнага фронта. Малойчык крычаў, трымаючыся за бронзавую нагу каралеўскага каня.

Да п'едэстала прабралася растрапаная старая. Учапіўшыся ў фарсістую крагу аратара, яна ўзняла лямант:

— Ты не заплаціў мне за дзве пары такіх краг. Як пачнецца вайна, я на твой доўг не куплю і шчэпаці кофе. Гэта добрая свіная кожа...

Легіянер ударыў яе нагой у твар. Помнік у момант акружылі ланцужком гэткія-ж бравыя суб'екты, у гэткіх-жа абцягнутых куртках, з гэткімі-ж па заліхвацку ссунутымі на вуха берэтамі. Яны безуважліва, як паграмушкамі на карнавале, траслі рэвальверамі.

І на пляцу Міру, перад манументальным, як антычны храм, будынкам банка стаяў натоўп. Гэткі-ж шчыльны, сур'ёзны. Перад ім, на пляцформе грузавіка дваццаць напаўголых дзевак у фрыгійскіх калпаках з нацыянальнымі какардамі паказвалі жывую карціну „Бацькаўшчына". Каля грузавіка шарэнгай стаялі малайцы з „ваенных крыжоў".

Натоўп маўчаў. Яго не цікавілі ні голыя дзяўчаты, ні „ваенныя крыжы". Усе пазіралі на цяжкія дзверы банка, якія ахоўваліся паліцэйскімі.

А на ўскраінах у цемнаце рабочых прадмесцяў чуцен быў цокат капытоў кавалерыйскіх раз'ездаў. Святло было пагашана. Ускраіны былі абвешчаны на асобым становішчы...

Праз дзве гадзіны пасля першага паведамлення прышло другое:

Пасол Імперыі ў Маскве граф Рацье апублікаваў заяву:

„Еўропа выяўляе занадта вялікую нервознасць. Няма прычын траціць надзею, што мір будзе захаваны, калі іншыя краіны праявяць неабходную вытрымку. Няхай я, прысутнічаючы тут, у сэрцы Савецкага Саюза, буду заложнікам святасці дадзенай намі клятвы: Імперыя першая не парушыць нічыёй мяжы".

У экстранным выпуску адной з Франконскіх газет, памечаным 0 г. 30 хв. 17 жніўня, вядомы дыпламатычны карэспандэнт пісаў:

„... Еўропе, якая кідаецца ў перадсмяротных сударгах, цяжка паверыць таму, што ўсё абстаіць так, як трэба. Нас хочуць запэўніць, быццам варта толькі захаваць крыху спакою і старая ўстане з одра пасвяжэлай і добрай. Мы разумеем, што не дагаварыў граф Рацье: „Спакой, спакой. Неабходна аперацыя. Не бойцеся нашага нажа і вы паздаравееце.

Пан Рацье, дазвольце сказаць з поўнай адкрытасцю: у нашых руках ланцэт хірурга занадта падобны на нож мясніка. Гэта не падабаецца Еўропе пры ўсёй яе прывычцы да крывепусканняў..."

Другая лева-буржуазная газета пісала:

„Які-б ні быў сапраўдны сэнс урачыстай клятвы пана Рацье, яна дадзена. Дадзена ад імя васьмідзесяці мільёнаў чалавек, што насяляюць Пятую Імперыю. Імперыя не парушыць першая межаў. Мы не сумняваемся, што за гэтай заявай хаваецца нейкая новая камбінацыя; можа правакацыя, беспрыкладная па цынічнасці і нечуваная па маштабу. Але што ні рыхтавалася-б, на ўсё патрэбен час. Ён у нашым становішчы даражэй за ўсё. Калі ёсць час, ёсць і надзея ўнікнуць вынікаў прыпадку крывавага вар'яцтва, што ахапіла кіраўнікоў цэнтральнай Еўропы. Запёршыся паміж сцяной хітрасці на поўначы і бар'ерам труслівай сквапнасці з поўдня, мы з новай надзеяй накіроўваем погляды на ўсход. Сонца ўзыходзіць на ўсходзе, паны".

У артыкуле былі цікавыя дадзеныя; іх варта падаць:

„... Паверым на адну хвіліну ўрадам, так званых, вялікіх еўрапейскіх дзяржаў, нібы ў страю іхных паветраных флотаў на сёнешні дзень лічыцца ўсяго толькі 9500 бамбардыроўшчыкаў з сярэдняй грузапад'ёмнасцю ўсяго ў 1200 кілограм кожны. Простая арыфметыка скажа нам, што адзінаццаць з паловай мільёнаў кілограм выбуховых матэрый можа абрушыцца на галовы мірных еўрапейцаў у першы-ж дзень генеральнай схваткі, што насоўваецца на нас. Гэта з той колькасці бамбардыроўшчыкаў, якую нават не лічаць патрэбным утойваць. Калі мы возьмем больш рэальную лічбу, калі мы падвоім іхны лік, калі мы возьмем на ўвагу, што апрача самалётаў, паводле даных лігі нацый, арміі тых-жа дзяржаў маюць:

18 тысяч танкаў;
62 тысячы гармат;
542 тысячы кулямётаў;
38 тысяч мінамётаў;
6 тысяч агнямётаў;
$6^1/_2$ мільёнаў тон атрутных матэрый.

Можа вы, мае любыя землякі, мірныя грамадзяне, паны, чыноўнікі, ранцье, банкіры, хатнія гаспадыні, крамнікі, інваліды, ліцэісты, сенатары, члены палат, чэмпіёны бокса і танцаў, якія маюць у кішэні пасведчанні пра вызваленне ад прызыва, уявіце, што вае гэта не датычыцца. Няпраўда, паны, вам, у першую чаргу вам, прызначана ўсё, што можа ўзняць сучасны самалёт бамбардыроўшчык і дацягнуць на глыбіню тысячы, а то і двух тысяч кілометраў за лінію, так званага, фронта.

Можа вас не датычацца гарматы і кулямёты, мінамёты і агнямёты?

Можа вы думаеце, што іхнай дальнабойнасці не хопіць на тое, каб ператварыць у тухлую гавядзіну вашых бацькоў, братоў, сыноў, палюбоўнікаў, мужоў, крэдытораў і даўжнікоў, каб зрабіць з іх галавешкі, каб адарваць рукі і ногі, каб разматваць іхныя кішкі, размазваць іхныя мазгі па каменні і паліваць іхнай крывёю зямлю?

Дарэмна!

А $6^1/_2$ мільёнаў тон АМ*), для каго яны? Каб зрабіць небоездольнымі арміі ўсяе Еўропы, досыць адной дзесятай часткі гэтай колькасці. Астатняе прызначаецца вам, мае дарагія сябры! Вам, што жывуць за тысячу кілометраў ад лініі акопаў, прызначаны паветраныя бомбы, начыненыя АМ самых рознастайных якасцей і баявых уласцівасцей. Вы хочаце ведаць гэтыя ўласцівасці.

АМ высокай канцэнтрацыі, якімі начыняюцца авіяцыйныя бомбы, каб скідаць у гарады, заражаюць месцы пападанняў на шмат гадзін. Было-б наіўным самаашукваннем выабражаць, што ўсё насельніцтва нашых буйных гарадоў можа знайсці абарону ў грамадскіх сховішчах. Іх наўрад ці хопіць на $10^0/_0$ з вас, ласкавыя паны і ласкавыя васпані. Вы надзенеце супроцьгазавыя маскі. Але, па-першае, многія з сучасных баявых АМ дзейнічаюць не толькі на ды-

*) Атрутных матэрый.

хальную сістэму. Старычок іпрыт, прыменены немцамі яшчэ ў 1915 г., дзейнічае на ўсё цела. Таксама як іпрыт, на ўсю паверхню цела, на ўсю дыхальную сістэму і слізістыя абалонкі, дзейнічае люізіт. З такіх-жа „старых“, часоў сусветнай вайны, мы ведаем фосген—ён душыць чалавека. Значнай папулярнасцю ў каманд-вання карысталіся: хлорацэнтрафенон, адамсіт—гэта раздраняючыя матэрыі. Яны дзейнічаюць на слізістыя абалонкі ворганаў зроку і абаняння. Харош і бромбензілцыянід—ён асляпляе нават у вельмі слабай канцэнтрацыі.

Сінільная кіслата забівае ў момант. Відаць, генералы палічаць яе найбольш гуманнай баявой матэрыяй. Хаця ў ваенных адносна гэтага свой, зусім своеасаблівы пункт гледжання. Яны, напрыклад, таму лічаць хімічную зброю найбольш гуманнай, што АМ выклікалі смерць усяго толькі ў 4,5% выпадкаў атручвання, тады як, напрыклад, ад агнястрэльных ран уміpала 24%. Упускаецца толькі адно: амаль 100% тых атручаных газамі, што асталіся жывымі, зрабіліся калекамі. Хаця, нават калі-б нам і ўдалося дабрацца да іхнага забраніраванага сэрца, гэта нічым не дапаможа. Яны паціснуць плячыма і адкажуць вам словамі з кніжкі паважанага нямецкага маёра Зольдэна*):

„... У цяперашні час больш чым калі, вайна азначае барацьбу за існаванне. Сучасная-ж барацьба за існаванне нацый не прызнае ніякіх абмежаванняў з боку дагавораў і параграфаў, як не прызнае і ніякіх маральных указанняў. І калі нават цяпер, пасля страшэнных перажыванняў апошняй вайны, нацыі упрыгожваюць сябе знакам удзячнасці, гуманнасці, то надыходзячая вайна ператворыць усё гэта ў ліст паперы, які нічога не варты...“

Або словамі генерала Фрайс з кніжкі „Хімічная вайна“:

„На працягу 1914-18 гг. атрутныя матэрыі аказаліся адным з лепшых баявых сродкаў. Гэтага зусім дастаткова, каб лічыць, што хімічная зброя заўсёды будзе прымяняцца... Папяровыя дагавары і згоды не маюць сілы ануляваць гэты факт“...

Або, урэшце, з „Будучай вайны“ генерала Сікорскага:

„Такія германскія вучоныя і тэхнікі, як праф. Гансліан і Бергенсдорф, рашуча падтрымліваемыя коламі Трэцяй Імперыі, сцвярджаюць, што хімічная зброя з'яўляецца адной з галоўнейшых, што маюцца ў распараджэнні сучаснай стратэгіі і што магутнасць германскай хімічнай прамысловасці павінна забяспечыць Германіі не толькі звычайную перавагу над больш слабымі нацыямі, але і ўладу над светам“.

Калі мы ўлічым усё гэта, панове, мы страцім усякую здольнасць уявіць сабе, хоць-бы вельмі аддалена, што чакае нас у першы дзень вайны, але затое зразумеем, што словы імперскага пасланіка Рацье не варты ніводнага су. Не яго друзлым рукам спыніць лавіну вайны, што коціцца на свет. Так, панове, суграмадзяне, мы з вамі можа і не хочам вайны, але... вайна ўсёткі будзе.

*) *Зольдэн*—„Чалавек і вайна будучага“.

У снятле будучай катастрофы, дазвольце мне, дарагія чытачы, затрымаць вас яшчэ адной даведкай: амерыканскі статыстык і эканаміст, паважаны містэр Сцюарт Чэйз, склаў такую таблічку:

**Вынікі сусветнай вайны:**

| | |
|---|---|
| Забітыя (зарэгістраваныя) . . . . . | — 9 998 771 чал. |
| Цяжка параненыя . . . . . . . . . | — 6 295 512 „ |
| Лёгка параненыя . . . . . . . . . . . | — 14 002 039 „ |
| Згінулі без вестак (у тым ліку разарваныя знарадамі і палонныя) . . | — 5 983 600 „ |
| Эпідэмія інфлуэнцы, што ўзнікла ў выніку вайны, узяла у 1918 г. . | — 10 000 000 „ |

Сорак шэсць мільёнаў чалавечых ахвяр.

Военныя аўтарытэты сучаснасці ацэньваюць эфектыўнасць зброі ў будучай вайне ўтрая супроць зброі эпохі той вайны. Іншымі словамі, у выніку надыходзячай вайны мы будзем мець, прыкладам:

**Паўтараста мільёнаў ахвяр.**

Каб пакрыць такі выдатак чалавечай крыві, трэба было-б зьнішчыць цалкам, да апошняга дзіцяці дзве такіх краіны, як Пятая Імперыя“...

3

„Есць на свеце людзі і на Захадзе і на Усходзе, якія адкрыта выказваюць сваю нянавісць да нас і ліхаманкава рыхтуюць супроць нас удар. Мы павінны быць заўжды напагатове“.

*Варашылаў.* (З прамовы 17 лістапада 1935 г.).

17 г. 00 хв. 18/VIII

Граза—капітан Павел Раманавіч Граза,—выскачыў з-пад душа і моцна расцёрся махнатым ручніком. Ручнік быў асаблівы, шорсткі, як тарка. Пасля яго скура палала, цела рабілася свежым і маладым. Гэта ранішняе адчуванне, даўно зрабіўшыся прывычным, кожны раз выдавала прыемна новым. З таго часу, як Граза заняўся высотнай трэніроўкай і старанна прытрымліваўся спецыяльнага рэжыма ва ўсім распарадку свайго дня, ён па-новаму адчуваў сябе, неяк асабліва поўна адчуваў сваё цела. Першы час было цяжкавата трымацца строгага раскладу. Але пасля выявілася, што ўсякую работу, адпачынак, сон, харчаванне—усё можна было дакладна размеркаваць па гадзінах і хвілінах. Для пачатку трэба было ўставаць з такім разлікам, каб, з аднаго боку, справіцца ўсё зрабіць, з другога—не стаміцца да палётаў. Шмат прышлося папрацаваць над арганізацыяй харчавання. Добрае снеданне давалася ў знакі ў палёце болем у страўніку. Граза спрабаваў зусім не есці—яшчэ горш: на вялікай вышыні голад узмацняўся да рэзі. Урэшце Граза знайшоў патрэбную порцыю: раніцою досыць шклянкі какао. Пры такой норме з страўнікам усё было як трэба і сам Граза быў у палёце спакойны. Гадзіны ў чатыры страўнік даваў

напамінак пра ежу. К пяці апетыт убіраўся ў сілу. У шэсць Граза сядаў за стол. У выніку страўнік працаваў, як матор. Ці варта казаць, што віно Граза адкінуў. Яно было не толькі лішнім, але проста шкодным. Лётчык праверыў гэта на сабе: неяк з вечара выпіў бутэльку віна. Раніцою пайшоў у баракамеру *), на „вышыні" яму стала не па сабе. Не, не, далоў віно! Увогуле ён строга вытрымліваў рэжым. І вось дзіўна: тое, што спачатку здавалася вельмі цяжкім—жыць размерана, нармальна—на справе аказвалася не толькі досыць простым, але нават прыемным.

Куды цяжэй было ў пачатку з самалётам. Граза пачаў высотную работу яшчэ да таго, як на ўзбраенне паступілі цяперашнія машыны. Даводзілася зубамі вырываць кожны лішні метр вышыні. Тэарытычным паталком гэтых знішчальнікаў былі дванаццаць тысяч метраў, а ў сапраўднасці ніхто больш за адзінаццаць з паловай не выціскаў. Але Граза быў упэўнен, што можна ўзняцца вышэй. Каб дамагчыся свайго, ён хацеў быў тое-сёе перарабіць у сваім самалёце, але начальства запярэчыла: машына страявая і рабіць над ёй вопыты не выпадае. Далі замест яе Гразе звышштатны знішчальнік, які лічыўся ў часці трэніровачным. З гэтай машынай Гразе далі дазвол рабіць што заўгодна. Мала-па-малу, ён абадраў машыну так, што калі-б у яе хто-небудзь зірнуў—не пазнаў бы. Пачаў з вялікага, а дайшоў да дэталяў па дваццаць-трыццаць грам. І што самае цікавае: выявілася, што без большай часткі дэталяў, якія здымаў Граза, можна добра абыйсціся. Здавалася-б педалі, як без іх ляцець? А Граза і іх выцягнуў. Ручку кіравання на палове адпіліў. Нібы нават зручнейшай зрабілася. Граза не раз дзівіўся, прарабляючы гэтыя вопыты: чаму раней ніхто такімі дробязямі не заняўся.

Так, паступова робячы лягчэйшай машыну, Граза давёў яе да таго, што без малага адзін шкілет астаўся. Затое яна лезла ўжо на трынаццаць тысяч, гэта значыць, вышэй за разлічаны тэарытычны паталок. Але Гразе гэтага было мала. Ён добра памятаў запавет: „Лётаць вышэй за ўсіх". Італьянцы забраліся ўжо на 14 тысяч; за імі лезлі французы. Лётаць вышэй за ўсіх. Гэта зрабілася мэтай жыцця, сэнсам існавання. Граза спрабаваў зрабіць лягчэйшай машыну за кошт кісларограднай гаспадаркі—пакінуў адзін балон, але вышыня тут-жа балюча дала яму па руках. У адным з палётаў здарылася так, што гарлавіна балона абмерзла і Граза астаўся без кіслароду. Гэта адразу-ж дало сябе знаць на фізічным стане лётчыка: з'явілася галавакружэнне, стукала ў скронях. А калі Граза зразумеў прычыну гэтага і вырашыў спыніць палёт, было ўжо позна—ён страціў прытомнасць. Самалёт, якім ніхто не кіраваў, пачаў падаць і ўвайшоў у штопар. Калі Граза ачнуўся, першым невыразным вобразам, што ўвайшоў у свядомасць, быў альтыметр. Цыферблат быў велізарны, ён займаў увесь свет, велізарная стрэлка хутка ішла ўлева да нуля. Ёй аставалася прайсці тры тысячы метраў. Гэта азначала, што самалёт, якім ніхто не кіраваў,

---

*) Герметычнае сталёвае памяшканне, у якім шляхам выпампоўвання паветра можна разрэдзіць адпаведна пэўнай вышыні ў атмасферы.

ужо знізіўся на сем тысяч метраў. Значна раней, чым гэта думка ўвайшла ў яшчэ не зусім апрытомнены мозг Гразы, яго рукі і ногі адвольна прарабілі гаму рухаў, каб вывесці машыну з штопара. Гэта быў рэфлекс, а не свядомае дзеянне. Мышцы скарочваліся, следуючы беспамылковым загадам мазговых цэнтраў. Гэтыя загады прыходзілі да іх апроч свядомасці Гразы. Далёка не адразу ён уразумеў тое, што адбылося і доўга яшчэ, седзячы зусім расслабленым у кабіне прыземленага самалёта, ён намагаўся ўпарадкаваць свае ўражанні, каб дакладна прааналізаваць вопыт гэтага палёту.

Урок ён не забыў і зрабіў з яго цвёрдыя высновы: эканоміць у вазе на чым заўгодна, але апрача кіслароднай гаспадаркі. Хаця вопыт адвучыў яго ад эканоміі яшчэ ў адным: вопратцы. Як ні даражыў ён грамамі, але на вопратку ён гатовы быў ахвяраваць нават лішні кілограм, абы толькі не абмаражвацца. Граза паставіў сабе задачу дасягнуць пятнаццаці тысяч метраў. Гэта значыла, што трэба падрыхтавацца да тэмпературы ў 55—60 градусаў ніжэй нуля. Каб можна было працаваць у такой тэмпературы, трэба было добра апранацца.

Выявілася таксама, што недастаткова забяспечыць беспярапыннае паступленне кіслароду. Канструкцыя маскі патрабавала дапрацоўкі. Пытанне стаяла нават больш рэзка: для палётаў на вялікай вышыні—маска наогул не годная. Яе трэба было замяніць скафандрам, г. зн. вопраткай, якая-б добра ізалявала ўсё цела лётчыка ад знадворнай атмасферы. Скафандр істотна адрозніваецца ад звычайнай маскі тым, што шляхам нагнятання ў яго паветра (з неабходнай колькасцю кіслароду) можна стварыць ціск, неабходны для ўстаранення з'яў хваравітасці, якія з'яўляюцца ў выніку кіслароднага галадання і паніжанага ціску. Граза на сабе адчуў ужо і такія непрыемныя з'явы, як моцныя болі ў суставах і значнае выпучванне кішэчніка. Доўга працаваць у такім стане было немысліма. А кіраванне машынай і тым больш вядзенне бою патрабуюць вялікай затраты энергіі на працягу доўгага часу. Усё гэта канчаткова прыводзіла лётчыкаў-высотнікаў да думкі, што палёты на вялікую вышыню патрабуюць стварэння надзейных скафандраў. І наступнай стадыяй асваення вышыні, якую давялося прайсці Гразе, былі палёты ў скафандры. Нельга сказаць, каб першыя канструкцыі гэтай абараняючай вопраткі яго задаволілі. Да вялікай і без таго вагі цёплай вопраткі дадавалася яшчэ вага грубой тканi, якая не прапускала паветра. На вялікай вышыні, калі вонкавы ціск паніжаўся, скафандр раздуваўся і замінаў у рухах. У „суставах" тады яго амаль нельга было сагнуць. Шмат клопатаў было і з тым, што пацела пярэдняе шкло ў масцы, якая закрывала галаву.

Але ўсе гэтыя непаладкі былі ў мінулым. Даўно ўжо Граза дасягнуў пятнаццаці тысяч метраў. Італьянцы і перавысіўшыя іх французы асталіся ззаду. Амаль паўгода трымаў міжнародны рэкорд капітан Граза, пакуль англічанін не набраў лішніх трыста метраў.

З дня на дзень рыхтаваўся цяпер Граза, каб пабіць рэкорд англічаніна. Кожны дзесятак метраў даваўся вельмі цяжка. Хаця ў Гразы была цяпер ужо не старэнькая заштатная машына, а новы,

куды больш дасканалы самалёт, лётчыку даводзілася ісці на ўсякія выдумкі, каб і тут з'эканоміць некалькі грамаў на канструкцыі, на абсталяванні, гаручым, масле. Ён дайшоў да таго, што перамантыраваў нават матор. Здавалася-б, гэта частка абсталявання прадумана ў кожнай дэталі, тут разлічаны кожны болцік. Але і тут ён знаходзіў нейкія забытыя драбніцы, якія ўдавалася выдаляць, мяняць—гэта давала іншы раз сто, а то і дзесяць грам вольнай вагі. Граза і за іх хапаўся з прагнасцю.

Урэшце, вышыня 15300 метраў—сусветны рэкорд англічаніна—была дасягнута. Перш чым ляцець вышэй, Граза метадычна, цярпліва, з дня на дзень замацоўваў гэту ступень, правяраючы машыну, абсталяванне і самога сябе. Сёння, 18-га жніўня на свяце авіяцыі ён павінен быў у прысутнасці некалькіх дзесяткаў тысяч людзей стартаваць у новы высотны палёт, каб пабіць сусветны рэкорд. Граза быў спакойны. Ён непарушна верыў у тое, што пастаўленая яму задача будзе выканана. Пры гэтым ён быў вельмі далёкі ад азарту і рэкардсменства. Ён глядзеў на гэту справу, як на патрэбную штодзённую работу лётчыка знішчальніка, для якога асваенне вышыні таксама неабходна, як авалоданне хуткасцю або вышэйшым пілатажам. Ён быў толькі адным з перадавых, разведчыкам на гэтым важнейшым фронце, тым, хто павінен разам з некалькімі піонерамі—высотнікамі асвоіць шляхі ў верхнія пласты атмасферы, асвоіць іх так, каб па яго слядах туды ўпэўнена накіраваліся ўжо многія—цэлымі звеннямі, атрадамі, эскадрыллямі.

Па той увазе, якая аддавалася яго рабоце кіраўніцтвам, па клопатах аб ім самім, Граза мог меркаваць пра важнасць задачы. Астаючыся радавым камандзірам знішчальніка, ён ведаў цану сабе і сваёй справе. Ён быў задаволены цяперашнім і спакойна глядзеў у будучае, упэўнены ў сваіх сілах...

Граза размешваў лыжачкай асадкі какао, як раптам у прыхожай пачулася нейкае драпанне. Ён ціхенька падыйшоў да дзвярэй і расчыніў іх. Узлезшы на маленькі стульчык расчырванелая маленькая дзяўчынка спрабавала дацягнуцца да званка. Дзяўчынка была пульхная, кругленькая, як румяная булачка. Граза падхапіў яе на рукі:

— Галачка! Што ты тут робіш?

— У колькі гадзін ты паедзеш на палёт?

— Праз поўгадзіны.

— Ну вось, я так і ведала! А мама ўсё яшчэ спіць.

— Дай маме паспаць, сёння выходны.

— Тата ўжо даўно паехаў. Ён сказаў, што ты нас падвязеш да аэрадрома.

— Тады будзі маму.

Галачка, забыўшыся пра свой цацкавы стульчык, пабегла да суседніх дзвярэй. Там жыў палкоўнік Старун—камандзір разведвальнай брыгады асобага корпуса. Галачка—яго дачка.

У асобе Галачкі педантычны і не надта абыходлівы Граза меў заўзятую прыхільніцу. Дзяўчынка лепш за дарослых ведала ўсё, што мела дачыненне да яго поспехаў. Яна амаль кожны дзень

перш чым легчы спаць, з'яўлялася да яго з сваёю маці, Кацярынай Іванаўнай, даведацца, як прайшоў дзень.

Праз поўгадзіны, калі Граза выйшаў на лесніцу, Галачка стаяла ў дзвярах і, убачыўшы прыяцеля, закрычала:

— Мама! Мамачка, паехалі!

Не гледзячы на досыць ранні час, горад выглядаў па святочнаму. Гразе раз-па-разу даводзілася спыняцца на перакрыжаваннях вуліц, каб прапусціць калоны, што рухаліся да аэрадрома.

Прайшлі асоавіяхімаўцы, варашылаўскія стралкі. Бясконцай вужакай бела-блакітных маек ішлі спартсмены. За імі—дзяўчаты ў блакітных камбінезонах парашутыстак. На плячах парашутысткі пранеслі загарэлую сяброўку з лозунгам у руцэ:

„СКАКАЙЦЕ, ДЗЯЎЧАТЫ“

Ужо на самай ускраіне, перад выездам з гораду Граза абагнаў калону піонераў-мадэлістаў. Маленькія мадэлі самалётаў складваліся ў словы:

ЛЁТАЦЬ ВЫШЭЙ ЗА ЎСІХ
ДАЛЕЙ ЗА ЎСІХ,
ХУТЧЭЙ ЗА ЎСІХ.

Люстраны асфальт шасэ адкідваў блікі тысяч веласіпедаў і аўтамабіляў. З песнямі і музыкай горад ішоў да аэрадрома.

Бабінае лета было ў самай сіле. Па сіні жнівеньскага неба беглі рэдкія разарваныя воблачкі. Лагоднае сонца песціла мураву аэрадрома. Зверху зялёны авал яго выдаваў устаўленым у шырокую бісерную раму. Стотысячная маса людзей, стаіўшы дыханне, сачыла за праграмай свята.

Свята прайшло добра. Над натоўпам вісеў несціханны пляск апладысментаў, нібы лётчыкі, якім яны прызначаліся, маглі штонебудзь чуць праз гуд сваіх матораў. Асабліва заўзята запляскалі, калі рэпрадуктары абвясцілі, што стартуе для высотнага палёта лётчык Граза. У першым раду, каля беласнежнага ланцужка міліцыянераў, седзячы на даху аўтамабіля, біла ў ладкі Галачка.

— Пляскайце, пляскайце,—сярдзіта крычала яна суседзям, якія апусцілі рукі.

Толькі, калі белы самалёт Гразы знік з вачэй, яна ўціхамірылася. Скора пачуліся расчараваныя пытанні:

— І гэта ўсё?

— А што-ж далей? Дзе-ж вышыня?

— Значыць мы не ўбачым яго на паталку?

А Граза не заўважаў як ідзе час. Яго ўвага была прыкавана да прыбораў. Усё ішло добра. Ніякіх новых адчуванняў ён не чакаў, усё было адчута, пераадчута.

Зямля ўжо даўно ператварылася ў картон з цмянымі фарбамі, агорнутымі блакітнай дымкай. Рэдкія воблачкі блішчэлі далёка ўнізе. З'яўлялася звыклае адчуванне крывізны земнай паверхні. Уяўленне пра зямлю, як плоскасць, знікала кожны раз, як ён пераходзіў за мяжу дванаццаці-трынаццаці тысяч метраў.

На вышыні каля чатырнаццаці тысяч, калі самалёт пачаў узнімацца вельмі павольна, Граза адчуў, што рэжа вышэй калена і баліць ніжэй яго. Здавалася, левую нагу ўціснулі ў вельмі вузкі бот, з занадта доўгай халявай. Відаць, надзяючы мехавую панчоху, Граза занадта моцна зацісную раменчык. А ён з уласнага вопыта ведаў, што ўсякае зацісканне, нават незаўважнае на зямлі, на вышыні дае сябе знаць вельмі моцна. Бывала, калі ў высотны палёт ён хадзіў яшчэ з акулярамі, крыху тужэйшая, чым трэба гумка на вялікай вышыні сціскала галаву жалезным абручом.

Граза хацеў нагнуцца, каб перасунуць рэмень пад скафандрам, але для гэтага яму трэба было зрабіць значнае намаганне: ткань скафандра, напоўненага кіслародам, зрабілася жалезна-цвёрдай. Ад гэтай спробы ў яго закружылася ў галаве. Ён вырашыў пасядзець спакойна, але тут-жа дала аб сабе знаць нага. Трэба было выбіраць паміж нясцерпным болем і галавакружэннем. Апошняе магло ад неасцярожнага руху перайсці ў непрытомнасць. А гэта азначала сарваць палёт. Даводзілася змірыцца з болем у назе. А з кожнай хвілінай боль мацнеў. Грáзе здавалася, што нага распухла да памераў бервяна; вось-вось лопне скура.

Стрэлцы альтыметра аставалася прайсці яшчэ сто метраў да англійскага паталка, калі Граза адчуў, што ў яго ўжо няма сілы змагацца з болем. Нага цякла. Гарачыня расцякалася па бядру. Яна ўзнімалася вышэй і вышэй.

Стрэлка альтыметра паднімалася да прыкрасці павольна. Яна ледзь-ледзь перапаўзла 15300 і нехаця рушыла далей праз белыя рыскі дзяленняў. Здавалася, яна не адлічвае дзесяткі метраў вышыні, а агнявой рысай адзначае боль, які ўзнімаўся ўсё вышэй. Каб крык не патрабаваў затраты энергіі, Граза пачаў-бы шукаць у ім палёгкі. Але і крычаць было небяспечна—сілы патрэбны, каб кіраваць самалётам.

А машына, відаць, падыходзіла да паталка. Усё менш упэўненым рабіўся палёт. Самы асцярожны, ледзь заўважны рух рулёў прымушаў самалёт правальвацца. Абедзве ступені нагнятальніка ледзь падтрымлівалі работу матора на цярпімым узроўні.

Граза амаль узрадаваўся, калі ўрэшце адчуў добра знаёмыя сімптомы паталка. Далей машына не палезе. Стрэлка альтыметра, вібрыруючы, спынілася на паказанні: „15800“. Граза з палёгкаю перавёў самалёт на плануючы палёт...

Зямля з нецярплівасцю чакала яго пасадкі. Сафар, як актывіст корпуснага аэраклуба, выконваў абавязкі абвяшчальніка. Ён ужо не раз узнімаўся на вышку, каб супакоіць гледачоў, якія непакоіліся пра лёс Гразы. Большасць чакала, што высотнік свечкай узнімецца на незлічоныя тысячы метраў і тут-жа, махнуўшы рукой з паталка, вернецца назад. Сафар з задавальненнем тлумачыў публіцы, як адбываецца высотны палёт. Ён адчуваў сябе імяніннікам, нібы сам быў вінавайцаю ўрачыстасці.

Калі ўрэшце Сафар атрымаў магчымасць абвясціць, што самалёт Гразы ўжо відаць, прывітанні гледачоў заглушылі рэпрадуктары.

Прызямліўшыся, Граза не здолеў вылезці з машыны. Нага

анямела, на яе нельга было ступіць. Падхоплены пад пашкі сябрамі, ён апроч уласнай волі, аказаўся на вышыні перад мікрафонам.

Сафар радасна крычаў у рупар праз галаву Гразы:

— Увага, таварышы, адну хвіліну. Таварыш Граза што-небудзь скажа. Дайце яму апамятацца. У яго ў левай назе іголкі. Але гэта не перашкодзіць. Ён зусім рэкордны чалавек.

Натоўп апладыраваў і Сафару. Моладзь з захапленнем крычала ура, хаця ніхто яшчэ не ведаў, на якую вышыню ўзняўся Граза.

Усё сціхла, калі Граза ўзняў руку.

— Таварышы... Сёнешні палёт—яшчэ адзін урок нам, лётчыкам-высотнікам. Я ўжо не памятаю колькі разоў я лётаў, але відаць, сапраўдная мудрасць закладзена ў пасловіцы: „Век жыві, век вучыся“. Здаецца, няма ўжо нічога такога, чаго-б я не ведаў у высотнай рабоце, а вось каб яшчэ крыху, дык сёнешні палёт быў-бы сарваны з-за такой драбніцы, як завельмі туга зацiснуты раменчык. Праўду кажуць, што ў нашай справе няма дробязей. Сёння я пераканаўся, што дасягнутая намі вышыня ў пятнаццаць, пятнаццаць з невялікім тысяч метраў з'яўляецца разумнай граніцай для самалётаў з адкрытымі кабінамі. Лётаць у такіх умовах настолькі цяжка, што ніякая работа для лётчыка немагчыма. Мне здаецца, што далейшае асваенне вышыні, як для грамадзянскага транспарта, так і для ваенных мэт трэба рабіць у самалётах з герметычна закрытай кабінай. Скафандр толькі напалову вырашае пытанне. Герметычна закрытая кабіна не вымудры. Яна патрэбна, вельмі патрэбна для таго, каб на вышыні можна было працаваць гэтак-жа спакойна, лётаць гэтак-жа ўпэўнена, як мы лётаем каля паверхні зямлі...

Натоўп з напружанай увагай слухаў, што казаў лётчык. Але яму не ўдалося дагаварыць. Паміж парэнчамі вышкі з'явілася галава Галачкі і мікрафон выразна кінуў у натоўп яе звонкі галасок.

— Няўжо вы гэтага не ведаеце? А гэткія вялікія... Дзядзя Граза стаміўся і ён хоча дахаты...

Бура авацый страсянула паветра. Граза, ветліва махнуўшы рукой і падхапіўшы Галачку, сыйшоў з вышкі насустрач спалоханай Кацярыне Іванаўне. Але словы папроку застылі на вуснах мацi. Граза спыніўся ўражаны: над аэрадромам адразу стала ціха. Гулка, выразна, так, што было чутно як дыхае дыктар, рэпрадуктары разносілі над натоўпам:

... Сёння 18 жніўня, у семнаццаць гадзін буйныя злучэнні імперцаў пераляцелі совецкую мяжу. Праціўніка сустрэлі часці нашых паветраных сіл. Скідаючы бомбы, дзе папала, праціўнік павярнуў да сваёй мяжы..."

Народ сцішыўся. Стаў выразна чуваць працавіты грукат лябёдак, адпускаўшых два прывязных аэрастаты з падвешаным да іх велізарным транспарантам:

*Мы стаім за мір і адстойваем справу міра. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны.*

Гул раз'ятранага акіяна, завыванні буры былі-б нічым у параўнанні з магутным гоманам, што ўзняўся над натоўпам. Абурэнне народу, заклік да барацьбы, упэўненасць у сваёй сіле былі ў гэтым голасе.

Раптам у шум і воклічы ўварваўся яшчэ больш магутны гуд матора. Над натоўпам імчаўся знішчальнік. Ён вырабляў замысла-ватыя фігуры, павароты. За ім аставаўся густы дымны след. Самалёт зрабіў разварот, узняўся вышэй. Там дзе ён праімчаўся, узнікла агромністае слова:

СТАЛІН

Слова шырэла, расло. Яно прайшло над сцішаным натоўпам, велічна праплыло над горадам і пайшло далей.

Зрабілася яшчэ цішэй. Стары рабочы, што стаяў побач з Кацярынай Іванаўнай, узлез на падушкі яе аўтамабіля і паказаў рукой на надпіс, што знікаў на ўсходзе:

— Мы пераможам!

І было гэтак ціха на велізарным полі, што ўсе сто тысяч чалавек пачулі яго голас і крыкнулі старому:

— Пераможам!

4

„Вайна цяпер будзе, таварышы, вельмі грозная, вельмі жорсткая, з ужываннем самых страшных, нябачаных дагэтуль нідзе і ніколі ў свеце сродкаў. І можаце сабе ўявіць, калі гэтая барацьба разыграецца на тэрыторыі нашай краіны, разбурэнне будзе ва ўсіх раёнах жахлівае. Таму мы так павінны рыхтавацца і не толькі мы, Рабоча-Сялянская Чырвоная армія, але і вы, усе працоўныя, так павінны сябе выхоўваць, так арганізоўваць абарону нашай радзімы, што калі праціўнік паявіцца, біць яго абавязкова на яго тэрыторыі". *Варашылаў.*

(Прамова 16 верасня 1935 г. на мітынгу ў Кіеве).

17 г. 45 хв.—19 г. 00 хв.
18/VIII

## З нататак фельдмаёра Бунк

Я вельмі добра памятаю гэты момант. Час набліжаўся да восемнаццаці гадзін. Да генерала з'явіўся з дакладам начальнік штаба. Па чырвонаму ўспацеламу твару Вронскага*) я ўбачыў, што з нечым нядобра. Але тое, што я пачуў, перавысіла ўсе чаканні. Так добра задуманы і дасканала падрыхтаваны нечаканы ўдар не даў ніякіх вынікаў. Я да гэтага часу не разумею, як гэта магло атрымацца: большэвікі сустрэлі нас амаль каля мяжы. Самы элементарны падлік сведчыць, што на выяўленне нашых часцей у паветры, перадачу паведамленняў ад перадавых пастоў да аэрадромаў і ўзлёт самалётаў (нават калі-б яны былі ў поўнай баявой гатоўнасці) большэвікам патрабавалася не менш за 8—12 хвілін. За гэты час нашы галаўныя часці ўжо маглі-б заляцець на 45—70 кі-

*) Генерал-маёр фон Вронскі начштаба паветранага флота Пятай Імперыі.

лометраў углыб варожай тэрыторыі. А ў сапраўднасці мы былі сустрэнуты знішчальнымі часцямі аховы на глыбіні ад 2 х да 4-х кілометраў. Значыць, калі мы падыходзілі да мяжы, яны ўжо былі ў паветры і чакалі нас. Яны ведалі пра наш вылет. Значыць, нам здрадзілі. Інакш гэта вытлумачыць нельга. Зрабіць гэта маглі толькі нашы напышлівыя саюзнічкі паспалітанцы. Відаць, камандаванне і паліцыя недастаткова добра ачысцілі тэрыторыю Паспалітаніі і які-небудзь кароткахвалявік-аматар зрабіў сваю чорную справу. Я не думаю, каб на гэта мог пайсці хто-небудзь з імперцаў, хоць-бы ён быў тройчы рабочым. Толькі паспалітанец *)...

На гэты раз мы не паслалі разведку, каб не выявіць сябе, і таму ўвесь замысел загінуў. Ніводзін з трохсот бамбардыроўшчыкаў, пасланых для закупаркі большэвіцкіх аэрадромаў, не дасягнуў мэты. З шасцісот тысяч кілаграм імперыта **) у часе праследвання большэвікамі бамбардыроўшчыкі скідвалі, для аблягчэння, свае бомбы куды папала над тэрыторыяй нашых саюзнікаў.

Я бачыў старога Брулова***) ва ўсякім настроі, але нават не падазраваў, каб ён мог так хутка змяняць колер твару. Лоб яго спацеў. Я хацеў быў падаць шклянку вады, але Брулоў адкінуў яе.

Пасля даклада Вронскага, Брулоў думаў не больш за мінуту. Не павяртаючыся, крыкнуў:

— Загад!

Я ледзь спраўляўся стэнаграфаваць: „Усім злучэнням, што ўваходзяць у другую змешаную эскадру, быць гатовымі да вылёту ў 21 г. сёння 18 жніўня. У паветра вывесці не менш шасцісот бамбардыровачных машын з усімі суправаджаючымі часцямі...

Брулоў на секунду задумаўся і рашуча працягваў:

— Трэцяй зводнай эскадры быць гатовай да вылёта ў 22 гадзіны...

Тут яго перабіў Вронскі.

— Тэрміны гатоўнасці павінны быць перагледжаны, праціўнік можа нас апярэдзіць. Мы пераканаліся ўжо, што стаханаўскія...

Але мой стары не захацеў далей слухаць:

— Ваююць салдаты, а не стаханаўцы.—Ён зірнуў на гадзіннік.— Я даю вам менш трох гадзін, каб падрыхтаваць да вылёту паўтары тысячы цяжкіх машын. Апярэдзіць нас не могуць. Гэта вышэй за чалавечыя сілы.

Вронскі з уедлівасцю даў заўвагу:

---

*) Здагадка фельд-маёра Бунк была памылковая. Налёт імперцаў быў адбіты дзякуючы таму, што совецкія пагранічныя пасты ВНОС былі забяспечаны ўдасканаленымі слухальнымі прыборамі высокай адчувальнасці. Яшчэ да таго, як праціўнік пераляцеў совецкую мяжу, дзяжурныя часці ВПС даведаліся пра набліжэнне вялікай колькасці самалётаў і адразу-ж узняліся з сваіх аэрадромаў. Імперцы ашукаліся ў нечаканасці свайго ўдара яшчэ і таму, што заместа 8—12 хвілін, патрэбных на ўстанаўленне факта нападу пагранпастамі і перадачу трывогі на аэрадромы, нашы пагранчасці і радыёслужба выканалі гэту задачу за 2 хв. 25 сек. Такім чынам, толькі дзякуючы высокай тэхніцы аховы і пільнасці пагранічнікаў, намеры ворага былі папярэджаны.

**) Імперыт—выбуховая матэрыя вялікай руйнуючай сілы. Імперцы ў 1937 г. начынялі ім свае бомбы.

***) Камандуючы паветраным флотам Пятай Імперыі генерал кавалерыі Герман фон Брулоў.

— Мы маем справу з большэвікамі.

Брулоў ужо зусім непрыязна:

— У вас ёсць падставы думаць, што я памыляюся?

— Здаровы розум, ваша прэвасхадзіцельства...

— Генерал, я прашу... *падстаў*. Разумееце—*падстаў*! Разведка дала што-небудзь новае?

— Паветраная разведка аддае ўсе сілы, каб высветліць абставіны, але церпіць дарэмныя страты. Дабрацца куды трэба—не ўдаецца.

— Я настолькі паважаю праціўніка, каб не думаць, што ён адчыніць перад намі дзверы. Няўжо вы ніколі не служылі ў конніцы, генерал?

— Я не люблю нічога ўстарэлага, ваша прэвасхадзіцельства.

— У гэтага „ўстарэлага“ рода войск вам варта было б павучыцца: ён умеў весці разведку заўсёды—пускалі яго ці не пускалі.

— Іншыя часы, ваша прэвасхадзіцельства.

Брулоў перабіў:

— Значыць, нічога новага? Рэальным астаецца толькі іхны план разгортвання, што ляжыць перад намі? Тады я ўсёткі даю пераваду начы. Параўнайце тэрміны і вы ўбачыце, што яны не справяцца падняцца ў паветра, як будуць змецены з твару зямлі,—упарта паўтарыў Брулоў і працягваў дыктаваць.

Вронскі настойваў на сваім: тэрміны вылёту павінны быць скарочаны. Брулоў дыктаваў, не слухаючы яго. Калі праект загада быў гатовы, ён звязаўся па простаму проваду з стаўкай дыктатара. Дыктатар не падыйшоў да апарата.

Брулоў зноў зачырванеўся, але, стрымліваючы сябе, далажыў свой праект і пярэчанні Вронскага дзяжурнаму генералу. Стары неймаверна нерваваўся на працягу тых пятнаццаці хвілін, у якія раздумвала стаўка.

Праз чвэртку гадзіны прышоў адказ: загад зацвярджаецца, з перанясеннем усіх тэрмінаў на гадзіну раней. Гэта было некаторай уступкай генштабісцкаму аўтарытэту Вронскага, хаця і значна меншай, чым ён хацеў.

Агульнай задачай першай з вылятаўшых эскадр было выправіць тое, што не было зроблена днём—знішчыць паветраныя сілы праціўніка на яго аэрадромах. Наступная эскадра атрымала заданне знішчыць некаторыя транспартныя магістралі і вузлы. Гэтым павінна было быць паралізавана разгортванне наземнай арміі большэвікоў.

У заключэнне Брулоў загадаў Вронскаму:

— К поўначы вы распрацуеце дакладнае заданне па знішчэнню не менш трох асноўных палітычных цэнтраў, што знаходзяцца на глыбіні да тысячы кілометраў за савецкай граніцай.

Начальнік штаба яшчэ раз нерашуча сказаў:

— Тэрміны, тэрміны, пан генерал. У мяне ёсць усе падставы думаць, што...

Брулоў раз'юшыўся:

— У вас і без навучанняў ёсць што рабіць, генерал. А тое, чаго вы хочаце—фізічна нельга выканаць.

* * *

З цяжкасцямі прабраўшыся на машыне да варот аэраклуба, капітан Касых у аб'езд горада імчаўся проста на галоўны аэрадром корпуса. Там ён застаў Сафара і рэшту лётчыкаў. Суседнія часці рыхтаваліся на поўны ход. Ішла баявая зарадка машын: залівалася баявое гаручае, нарыхтоўвалі гарматы і кулямёты. Кіслародныя брыкеты закладваліся ў крыллевыя касеты *).

Палітработнікі, пад кіраўніцтвам камісараў часцей абыходзілі машыны. Яны заглядалі ў палётныя аптэчкі—ці ўсё на месцы. Ці ёсць прадпісаныя настаўленнем медыкаменты і перавязачныя матэрыялы. Ці загатоўлены прэпараты супроць абмаражвання. Яны, не саромячыся, адчынялі асабістыя чамаданы лётчыкаў, бамбардыраў, механікаў. Туды, дзе нехапала шакаладу, яны клалі пліткі „Кола“. Незапоўненыя тэрмасы накіроўваліся на кухню для заліўкі гарачым какао. Не адрываючы людзей ад работы, яны совалі ім у кішэні лімоны, тут-жа заадно правяраючы, ці надзета цёплая бялізна, ці не згубіў хто спяшаючыся цёплыя пальчаткі, ці спраўныя кіслародныя маскі.

Жанчыны—жонкі камандзіраў працавалі ў аэрадромнай сталоўцы. Гарачыя снеданні ўпакоўваліся ў тэрмакаробкі і накіроўваліся на ўсе машыны па ліку людзей. Твары жанчын былі вонкава спакойныя.

Касых правяраў падрыхтоўку сваёй часці, калі яго выклікалі ў штаб дывізіі. Там ён атрымаў загад: здаць камандванне эскадрыльяй і не марудзячы з'явіцца ў штаб корпуса. Ён прыкамандыроўваўся да камкора.

Капітан Касых павінен быў-бы радавацца такому прызначэнню: перад ім пройдзе ўся аперацыя. Ён будзе ў самым цэнтры кіраўніцтва. Але цяжка было расставацца з часцю. Эскадрылья—адна з лепшых. Асабліва не хацелася-б пакідаць Сафара. Ці здолее намеснік капітана накіраваць яго тэмперамент куды трэба?

Аднак раздумваць няма калі. Касых на хаду развітаўся з Сафарам. Той, збянтэжана ўсміхаючыся, папрасіў:

— Можа, Сандро, у штабе ўбачыш каго-небудзь з дэсантнікаў... Перадай прывітанне...

Хацелася выскачыць з машыны і абняць гэтага вялікага, дужага хлопца. Але аўтамабіль крануўся з месца. Сафар астаўся за воблакам пылу. Касых не дачуў нават, што ён сказаў на развітанне.

Па дарозе ён узяў з сабой Гразу. Той таксама спяшаўся на цэнтральны аэрадром. Яго знішчальная эскадрылья была вылучана ў асобны рэзерв штаба фронта. Скоса пазіраючы на сябра, Касых любаваўся яго спакойнасцю.

Вылязаючы з аўтамабіля, Граза дзелавіта кінуў:

— Калі стрэнешся з кім-небудзь з дэсантнай дывізіі, перадай прывітанне... Багульным.

Хаця галава капітана Касых і была занята зусім іншым, але ўсё-ж прамільгнула думка: „Цяпер я разумею, чаму Сафар так

*) Для забеспячэння кіслародных дыхальных прыбораў на вышыні.

злуецца, як убачыць Гразу. Але пра каго-ж з іх Алеся гаварыла ўчора з бацькам".

Камкора Халюціна капітан Касых застаў ужо ў штабе перад экранам камутатара. Твары выкліканых камандзіраў паяўляліся ў цмяным шкле апарата. Перад вялікім экранам перадатчыка сувязіст умацаваў карту з расчырчаным маршрутам.

Камкор каротка расглумачыў абставіны і ахарактарызаваў агульную задачу паветраных сіл. Пасля таго, як быў адбіты першы напад праціўніка, яна зводзілася да найхутчэйшага нападу на яго тэрыторыю. Трэба было перашкодзіць разгортванню наземных сіл ворага. Ініцыятыва нападу (хоць першая спроба і была адбіта) пакуль што знаходзілася ў руках праціўніка. Аставалася з такой хуткасцю разгарнуць сваю авіяцыю, каб контрудар быў нечаканым. Гэта можна было зрабіць толькі скарыстаўшы тэрміны вылету і канцэнтравання. Магчыма, што не гледзячы на сакрэтнасць, тэрміны, прадугледжаныя нашымі планамі, вядомы праціўніку. Таму ён, падрыхтоўваючы свой другі налёт і мяркуючы адбіць наш напад, будзе арыентавацца на гэтыя тэрміны, крыху іх скараціўшы. Інакш кажучы, мы павінны апярэдзіць саміх сябе ў два-тры разы.

— Таму,—сказаў камкор,—я буду вам зараз называць тэрміны, значна больш кароткія, чым тыя, што прадугледжаны баявым раскладам. Можа будзе здавацца, што яны занадта напружаныя, але выканаць іх мы павінны. На наш асобы корпус кладзецца вельмі важная задача... Дальныя скарасныя бамбардыроўшчыкі трэба скарыстаць з усёй магчымай эфектыўнасцю. Ударыць трэба па такіх тылах, якія лічацца недасягальнымі.

Для гэтага:

У 19 гад. 00 штурмавыя часці вылятаюць для атакі знішчальных аэрадромаў праціўніка, што знаходзяцца на шляху следвання нашых галоўных сіл.

У 19 гад. 10 вылятаюць лёгкія бамбардыроўшчыкі пад аховай мінімальнага ліку знішчальнікаў. Ім належыць знішчыць матэрыяльную частку праціўніка на аэрадромах, атакаваных штурмавікамі. Адначасова вылятае корпусная разведка.

У 19 гад. 20 вылятаюць галоўныя сілы корпуса ў трох групах.

1-ая група ў складзе ста дваццаці СБД.

2-ая група ў складзе шасцідзесяці СБД.

3-ая група ў складзе трохсот шасцідзесяці СБД.

Групы ідуць агульным курсам на горад Кракау *). Мэта—прыцягнуць сюды ўвагу праціўніка. Калі імперскае камандванне і не будзе намагацца абараніць сталіцу сваіх саюзнікаў, мы толькі выйграем. Гэтым з першага-ж дня будуць створаны нелады ў радах саюзнікаў.

Над горадам Любяцін корпус ідзе новым курсам—проста на Пулен **). Праціўнік збярэ ўсе сілы па шляху следвання корпуса—

*) Горад Кракау—сталіца Паспалітаніі, знаходзіцца за 650 клм. за лініяй дзяржаўнай граніцы СССР.

**) Горад Пулен—сталіца Пятай Імперыі, знаходзіцца за 1220 клм. ад лініі дзяржаўнай граніцы СССР.

сваю сталіцу ён дарма не аддасць. Гэта корпусу і патрэбна. За Любяціным перш чым корпус наткнецца на супраціўленне непасрэднай абароны цэнтра, групы разыйдуцца: першая будзе ісці ў тым-жа кірунку на Пулен. Ёй давядзецца прыняць на сябе ўдар, нарыхтаваны для ўсяго корпуса.

Задача яе простая, але не лёгкая—адцягнуць на сябе сілы праціўніка. Чым больш доўга ёй удасца ствараць уражанне, што яна з'яўляецца авангардам галоўных сіл, тым лепш для корпуса, для яго асноўнай задачы.

Першая група нясе толькі невялікую колькасць дробных бомб для дэманстрацыі. Увесь танаж скарыстоўваецца пад агняпрыпасы абарончага ўзбраення. Адначасова з сваёй асноўнай задачай, на ўсім шляху сумеснага следвання гэта калона нясе крэйсерскую ахову галоўных сіл.

— Цяпер пра галоўныя сілы,—заканчваючы тлумачэнні, сказаў Халюцін.—За Любяціным другая і трэцяя калоны рэзка мяняюць кірунак на паўднёва-заходні,—вось так. Гэта дае нам шанс на некаторую спрытнасць манеўра, хаця к таму часу мы падыйдзем да імперскай мяжы, нас, вядома, ужо ўбачаць. Але чаго-б гэта нам ні каштавала, мы павінны прабіцца да горада Форт *). Гэта кацел, які жывіць тэхнічную базу імперскай арміі. Наша задача—пазбавіць іхную армію—тэхнічнага рэзерва. Для іх—тэхніка ўсё. Людзі ў іх прышыты да тэхнікі і без машын нічога зрабіць не здолеюць.

Непасрэдная задача корпуса зводзілася да наступнага: другая група ў складзе 60 машын бамбардыруе Грэблю Правадыра. Паспяховая бамбардыроўка забяспечыць затапленне ўсяго раёна Форта. Але павінны сябе перастрахаваць. Трыста шэсцьдзесят машын трэцяй калоны бамбардыруюць галоўныя ваенна-прамысловыя аб'екты Форта, вось па гэтаму плану. Асабліва звяртаю вашу ўвагу на гэты план. Ён абавязковы для вас. Мы імкнемся, наколькі гэта будзе магчыма, к таму, каб знішчаны былі толькі прамысловыя раёны Форта. Наколькі ўдасца, трэба пазбегнуць ахвяр сярод грамадзянскага насельніцтва. Мы разлічваем на тое, што ў раёнах, на якія будзе напад, жанчыны і дзеці паспеюць схавацца ў сховішчы, ім, вядома, дадуць першыя месцы. Мы з імі не ваюем. Абарончая абстаноўка праціўніка відаць з гэтай зводкі. Непасрэдную разведку мы павінны забяспечыць сабе самі. Я не хачу ісці на аперацыю з завязанымі вачамі, але выяўляць кірунак свайго руху занадта ранняй пасылкай разведкі таксама было-б шкодна. Не мне вам гаварыць, што праціўнік вельмі моцны і рухавы. Гэта не паспалітанцы. Улічыце кожную драбніцу.

Камкор паглядзеў на гадзіннік:

— Да вылету разведкі асталося крыху больш за поўгадзіну. Я назваў вельмі жорсткія тэрміны. Часці справяцца?

— Не сумняваюся,—адчаканіў камандзір разведвальнай брыгады палкоўнік Старун.

---

*) Горад Форт—(1620 клм. ад граніцы СССР) буйнейшы ваенн-прамысловы цэнтр Пятай Імперыі. У ім навокал яго канцэнтравалася вытворчасць раду важнейшых аб'ектаў ваенна-тэхнічнага забеспячэння.

Яго квадрат у экране пагас.

За 16 хвілін да вызначанага камкорам тэрміну вылета штурмавікоў пагаслі ўсе экраны апрача аднаго, што адлюстроўваў твар толькі што прызначанага камандзіра першай калоны. Гэта быў адзін з самых маладых, але і найбольш здольных камандзіраў дывізій у корпусе камбрыг Брэдзіс. Спакойны, развяжлівы, ён не губляўся ў самых цяжкіх абставінах, быў чалавекам жалезнай волі і незвычайнага напору. Усе ведалі пра сімпатыі камкора да Брэдзіса. Капітан Касых бачыў, што цяпер, паставіўшы свайго ўлюбенца ў найбольш цяжкае месца, камкор хоча на лішнюю хвіліну затрымаць яго каля экрана. І сапраўды, закончыўшы ўказанні, Халюцін з асаблівай лагоднасцю запытаў у Брэдзіса:

— Ты пэўны ў сабе, Ян Яныч? Табе дасталася гарачае месца. Шансаў на зварот не дужа шмат.

— Ну, што ты?—спакойна ўсміхнуўся Брэдзіс.—Я буду тут раней за цябе. У мяне ваўтузяніны будзе менш. Дазволіш быць вольным?

— Бывай,—сказаў Халюцін.—Перадай камандзірам, што на гэты раз больш, чым калі ад кожнага з іх залежыць ажыццяўленне нашымі ВПС варашылаўскага запавета: біцца за перамогу малай крывёю. Трэба выбіць зброю з рук ворага, або знішчыць яго.

— Я думаю, зробім,—кінуў Брэдзіс і ў экране з'явілася яго круглая, гладка стрыжаная патыліца.

Экран пагас.

5

„Толькі пасля таго, як пролетарыят абяззброіць буржуазію, ён будзе мець магчымасць не здраджваючы сваёй сусветна-гістарычнай задачы, выкінуць на злом усякую наогул зброю, і пролетарыят, несумненна, зробіць гэта, але толькі тады, ніякім чынам не раней." *Ленін.*

(Пра лозунг „раззброення". Збор твораў. 3 выд., т. XIX, ст. 316.)

Шматлікія прадказанні мірнага часу пра хуткае разгортванне дзеянняў у маючай быць вайне, робяць цяпер ураджанне да смешнага павольных разваг.

У 16 г. 57 хв. 18 жніўня пагранічныя пасты ВНОС выявілі набліжэнне праціўніка.

У 17 гадзін першыя самалёты імперцаў пераляцелі мяжу СССР.

У 17 гадзін 01 хв. пачаўся паветраны бой.

У 17 гадзін 30 хв. апошні варожы самалёт першай хвалі пакінуў межы Саюза.

У 17 гадзін 34 хв. савецкія знішчальнікі прарвалі ахову праціўніка і ўвайшлі ў яго размяшчэнне.

У 18 гадзін 20 хв. пасля дасканалай высотнай разведкі, якая паведаміла свае назіранні з адлегласці больш за пяцьсот кілометраў, першыя злучэнні бальшавікоў вылецелі бамбардыраваць транспартныя вузлы і аэрадромы базіравання паветранага флота праціўніка.

У 18 гадзін 45 хв. вылецелі апошнія часці, прызначаныя для гэтых аперацый.

У 19 гадзін узняліся першыя штурмавікі з аэрадромаў асобага корпуса. Лятучы лагчынамі, далінамі рэк, прагалінамі ў лясах, часам на вышыні не больш за дзесяць-дванаццаць метраў, штурмавікі да апошняй хвіліны захоўвалі скрытнасць свайго руху. Уся ўвага супроцьпаветранай абароны праціўніка сканцэнтравалася на лёгкіх бамбардыроўшчыках, што ішлі з дзесяціхвілінным інтэрвалам за штурмавікамі на вышынні каля шасці тысяч метраў. Калі лёгкабамбардыровачныя злучэнні толькі яшчэ ўваходзілі ў зону дзеяння зенітных батарэй праціўніка, аэрадромы яго знішчальнай авіяцыі раптоўна былі атакаваны штурмавікамі. У той жа час разведвальная брыгада асобага корпуса, пад камандай палкоўніка Старуна, на вялікай вышыні прабралася ў тыл праціўніка.

Знішчальнікі праціўніка ў гэтым раёне мелі заданне падрыхтаваць аперацыі для сваіх бамбардыроўшчыкаў. Іхны вылет быў прызначаны на гадзіну пазней таго моманту, калі іх заспелі на зямлі савецкія штурмавікі.

Першыя штурмавікі, што ішлі на брэючым палёце і якіх не магла абстрэльваць зенітная артылерыя, закідалі аэрадромы фугаснымі бомбамі замаруджанага дзеяння. Узрывальнікі бомб ставіліся з такім разлікам, каб разрывы адбываліся ў тэрміны ад хвіліны да гадзіны і нават да двух. На ўвесь час дзеяння гэтых бомб лётнае поле было недаступным для выпраўлення пашкоджанняў, зробленых выбухамі, не кажучы пра палёты.

Наступнай чарзе штурмавікоў было ўжо цяжэй. Аэрадромныя каманды апамяталіся і кінуліся да зенітных кулямётаў. Штурмавікі былі сустрэнуты агнём. Тады яны пусцілі дымавую заслону. Хоць заслона перашкаджала ім бамбіць аэрадром, але затое яна не дазваляла кулямётчыкам весці абстрэл. Апрача таго трывалыя астравы дыму стварылі добрабачную мішэнь лёгкабамбардыровачных часцей, што ішлі за штурмавікамі. Ангары праціўніка падупалі бамбардыроўцы запальваючымі бомбамі. Бамбілі з пікіравання *) на вельмі вялікіх хуткасцях. Процант пападанняў быў зусім здавальняючым, не гледзячы на добрую работу ПВА праціўніка. Больш за пяцьдзесят процантаў яго самалётаў было знішчана на зямлі, перш чым яны паспелі ўзняцца ў паветра.

Лётны склад часцей, якіх атакавалі, выявіў мужнасць. Афіцэры кідаліся да машын, не гледзячы на разрывы бомб і кулямётны агонь штурмавікоў. Яны выцягвалі самалёты з ангараў, якія гарэлі. Знішчальнікі спрабавалі рабіць разбег па ўскапанаму бомбамі полю, насустрач непрагляднай дымавой заслоне і няспынным бляскам разрываў. Адны тут-жа перакульваліся ў ямах, другія падлялі, ускінутыя разрывамі бомбаў і падалі грудам палаючых абломкаў. Было відаць як у тумане заслоны там і тут палалі

*) Пры вялікай хуткасці і вышыні палёта, старыя метады бамбавання страцілі ўсякі шанс на пападанне. Бомбы кідалі з пікіравання, што падвысіла трапнасць на 25—30%.

зьнішчальнікі, у якіх папалі запальваючыя кулі. І ўсёткі некаторым афіцэрам удалося ўзьляцець. З мужнасцю безразважлівай роспачы і злосці, не трымаючыся ўжо ніякага плана, без строю, яны ўступілі ў адзінкавы бой з совецкімі самалётамі. Але гэта адвага толькі пашкодзіла іхнай уласнай абароне. Паасобныя спробы дэзарганізаваных смельчакоў не маглі быць сур'ёзнай перашкодай рабоце большэвікоў, але прымусілі спыніць агонь іхнай уласнай зенітнай артылерыі і кулямётаў.

Праз дваццаць хвілін пасля з'яўлення першага штурмавіка, над зонай месцазнаходжання зьнішчальных аэрадромаў паспалітанцаў з'явіліся галоўныя сілы асобага корпуса. Афіцэры-паспалітанцы маглі толькі ад бяссільнай злосці патрасаць кулакамі, пасылаючы праклянцці большэвікам, якія іх ашукалі. Хаця не менш праклянццяў сыпалася і на галаву імперскага камандвання, якое дало сябе ўвесці ў зман. З вялікімі намаганнямі утрымалі некаторых афіцэраў ад бяссэнсных спроб праследвання пераважаючых сіл большэвікоў. Трэба было перш за ўсё сабраць тое, што асталося ад разгрому і стварыць боездольныя часці. Але стала зразумелым, што гэтыя часці будуць дрэннай зброяй у руках імперскага камандвання. Іскра непрыязні і крыўды, што тлелася і да таго, перарастала ў агонь палымнеючай нянавісці. Маладое паспалітанскае афіцэрства патрабавала самастойнасці для сваіх ваеначальнікаў. Яно не хацела падпарадкоўвацца чужакам, якія глядзелі на іх зверху ўніз, як на быдла...

К 20 гадзінам замыкаючыя часці асобага корпуса прайшлі над зонай зьнішчальнай авіяцыі паспалітанцаў. Расцягнуўшыся па фронту амаль на 10 кілометраў, эшаланіравання да 15 кілометраў углыб, групы корпуса без бою ішлі на вышыні сямі тысяч метраў.

Тут, бадай, будзе да рэчы спыніць увагу чытачоў на некаторых асаблівасцях самалётаў тыпу СБД, што ўваходзілі ў склад галоўных сіл асобага корпуса. Канструкцыя СБД мела некаторыя прынцыповыя адрозненні ад схемы бамбардыроўшчыкаў, што ўстанавілася к таму часу ў паветраных сілах Еўропы і Амерыкі. Галоўнай адрозніваючай рысай самалёта СБД з'яўлялася прымяненне на імпаратурбіннай сілавой устаноўкі.

К таму часу 86 процантаў усіх авіяцыйных сродкаў свету былі забяспечаны бензінавымі рухавікамі, звычайнага чатырохтактнага цыкла. Толькі 14 процантаў мелі на барту нафтавыя рухавікі дызельнага або напаўдызельнага тыпа, з запальваннем ад свячы, або самазапальваннем сумесі. З гэтых 14 процантаў адзінаццаць належалі імперцам і два амерыканцам. У Пятай Імперыі найбольш паслядоўна і тэхнічна дасканала праводзіліся вопыты стварэння авіяцыйнага дызеля. Нельга сказаць, каб толькі гэта краіна мела патрэбу ў вызваленні свайго паветранага флоту ад „бензінавай залежнасці". Амаль у такім-жа становішчы былі Франконія, у якой не было сваёй нафты, Італія, Славенія. Але ніхто так не змагаўся за эмансіпацыю ваенных паветраных сіл і за забеспячэнне іх рухавіком, які мог-бы працаваць на грубых сартах апалу, як імперцы. Гэта барацьба разгортвалася спачатку па лініі асваення цяжкіх адгонаў нафты... Пасля страўнік матора пачаў прыстасоўвацца да

паглынання каменнавугальных смол і вадкіх сінтэтычных апалаў. Трэцяй падзеяй, гэтай планамернай вайны з бензінам, якая праводзілася вельмі добра, было ўкараненне ўзрыўных рухавікоў, здольных працаваць на бяспопельным каменнавугальным пылу.

Працэс вызвалення ад бензінавага матора к часу пачатку ваенных дзеянняў быў скончаны ва ўсёй імперскай авіяцыі. Найбольш пражэрныя тыпы самалётаў-бамбардыроўшчыкаў былі пераведзены на сінтэтычнае гаручае, якім хімічная прамысловасць магла забяспечваць выключна за кошт унутраных рэсурсаў. Калі лічыць правільнымі дадзеныя імперскага камандавання пра тое, што к моманту канфлікта ў радах яго бамбардыровачнай авіяцыі знаходзілася ўсяго 2400 машын, з сумарнай магутнасцю матораў у 7.200.000 конскіх сіл, то кожная гадзіна палёта бамбардыроўшчыкаў брала-бы з мабілізацыйных запасаў Імперыі 1.440 тон нафты. Успомнім, што сярэдняя сутачная работа бамбардыроўшчыкаў у першыя дні вайны дасягнула небывалай лічбы ў 9 гадзін і мы атрымаем сутачныя выдаткі ў 13.000 тон цяжкога апалу. Тысяча цыстэрн нафты ў суткі на адны бамбардыроўшчыкі.

Дзякуючы пераводу бамбардыроўшчыкаў на апалы, што не з'яўляюцца адгонамі нафты, запасы апошняй маглі быць скарыстаны для авіяцыі знішчальнікаў, на якую трэба было выдаткоўваць усяго 5.000 тон.

Па зусім іншай прынцыповай лініі развіцця сілавой установкі цяжкіх самалётаў пайшлі совецкія канструктары. Група маладых інжынераў — вучняў акадэміка Ямпольскага удала скарыстала цэнтралізаваную сілавую ўстаноўку на самалёце вялікага танажу.

Стаў зусім ясным шлях развіцця такога роду паветраных суднаў. Смелы пераход на доўгія валы перадач зрабіў магчымым адмаўленне ад установкі на самалёце многіх матораў. Можна было перайсці да цэнтральнай сілавой установкі вялікай магутнасці і перадаваць яе энергію вінтам, аднесеным на любую адлегласць у крылле. Гэта давала тую перавагу, што магчыма было ўхіліцца шкоднага ўплыву вінтоў адзін на аднаго. Для іх можна было, апрача таго, выбіраць найбольш выгодныя месцы і з пункту гледжання падвышэння кіравальнасці і аэрадынамічнай якасці машыны. Аставалася знайсці такі рухавік, які пры невялікай адноснай вазе дазволіў-бы сканцэнтраваць высокую магутнасць і быў-бы дастаткова кампактным.

Выйсцем з'явілася паравая турбіна.

Гэта прынцыповая змена ў гаспадарцы рухавіка самалёта дазволіла пераглядзець і яго канструкцыйную схему. Аэрадынаміка машыны значна палепшылася. Пра лоб мы ўжо гаварылі: ён сышоў да мінімума, які патрабуецца ўмовамі прымянення самалёта. Для баявых машын ён вызначаўся памерам чалавека.

Апошняй вельмі важнай перавагай паравой установкі з'яўлялася магчымасць скарыстання ў топцы цяжкага нафтавага паліва падвышанай цёплатворнай здольнасці, дасягаемай шляхам дадавання некаторых хімічных матэрый.

Самалёт СБД, дзякуючы зручнаму і кампактнаму размяшчэнню

сілавога агрэгата і рухачоў *), набываў падвышаную боездольнасць Гэта абумоўлівалася з аднаго боку тым, што кожны з агнявых пунктаў атрымаў значна большы абстрэл, з другога—наяўнасцю на барту СБД такой магутнай крыніцы энергіі, як генератар пары. Уся работа па перамяшчэнню кулямётаў і гармат была ўскладзена на серваматоры, што атрымлівалі энергію ад цэнтральнай дынамо. Дзякуючы генератару ўсё абсталяванне магло быць перагледжана. Было рэканструявана і артылерыйскае ўзбраенне СБД.

Кампактнасць сілавой групы дазволіла ажыццявіць яшчэ і тое, што было не па сіле раней: браніраваць найбольш адказныя агрэгаты. Эканомнасць турбін дазволіла павялічыць дальнасць палёту. Гэта былі першыя машыны ў сусветнай практыцы па дыяпазону хуткасці.

К моманту вайны матэрыяльная частка была ўжо зусім асвоена асабістым складам асобага корпуса. Ён выйшаў у палёт зусім упэўнены, што дасканала валодае новым відам паветранай зброі. Ніхто не мог сумнявацца, што шэсцьсот тон бомб, узнятых у паветра другой і трэцяй калонамі корпуса, будуць скарыстаны па простаму прызначэнню—спрыяць ліквідацыі вайны.

*(Працяг у наступным нумары)*

*) Рухачом называецца прылада, ператвараючая энергію рухавіка ў рух. У паравоза рухачом з'яўляецца вядучае кола, у трактара гусеніца, у самалёта прапелер.

*Алесь Жаўрук*

# РАЗВІТАННЕ

Ільє Бенісовічу

Схоплен шэраг тапаліны
Адвячоркавым агнём.
Чамадан і мандаліна
Перавязаны рамнём.

Мы праходзім ціхім садам,
Тым выдатным садам,
дзе
Паўз цяністыя прысады
Сцежка к Гогалю вядзе.

Дай мне рукі
ў гэты сумны
Час растанку і тугі,
Аднакашнік мой задумны,
Мой таварыш дарагі.

Часу хопіць балагурам—
Не спазніцца-б к цягніку,—
Дай прысядзем,
Перакурым,
Зажурыўшыся крыху.

Колькі год з табой дружылі—
Скрозь жылі, як сваякі!—
Разыходзяцца сцяжыны
Зноў ў розныя бакі.

Па слабодках,
Па пасёлках,
Па грымотах,
Па цішы,
Пад хмурынкай,
Пад вясёлкай
Пойдуць два таварышы.

Ты-ж, брат, з Нікапаля
толкам
Хоць паштоўкі мне пішы!

Як працуеш, паважаны,
З кім сябруеш, голуб мой,
Як бахчы і баклажаны
Ў той мясцовасці тваёй?

Мо сумуеш па дзяўчыне ?—
Усё таварышу давер:
Ў нашай сонечнай айчыне
Дружба моцная жыве.

Зімнім вечарам як-небудзь
Прыгадай, віхрасты мой,
Красавік,
Маскву
і неба
Ў гэты момант над Масквой.

Першамайскія парады,
Халадок надземных зон,
Мармуровыя каскады,
Строі белыя калон.

Інстытуцкую чытальню,
Бег напружаны дэкад.
Дзень чыталі,
Ноч чыталі—
Рыхтавалі дыямат.

Ліпкай зеленню вясновай
Лапушыліся сады.
Як нам Ліда Іванова
Усміхалася тады!..

... Ад Ухты да Таганрога,
Да Чыцінскіх дальніх брам—
Слава скромным педагогам,
Аднакашнікам-сябрам!

Будзе некалі гадзіна—
Супраць хіжых груганоў
За шчаслівую радзіму
Мора ўздымецца сыноў.

Ў эшалонах з Украіны
Я здалёк яшчэ,
братан,
Ўраз пазнаю мандаліну
І фанерны чамадан.

Ты мяне абнімеш мужна,
Пацалуеш тры разы:
— Ну, стары,
праверыць дружбу
Надыйшлі ніяк часы.

І ў пярэднюю фалангу,
Ўсхваляваныя,
тады
Два сябры на правым флангу
Стануць поруч, як заўжды.

Масква, 1937 г.

---

*Я. Журба*

## ПРОВАДЫ

Вясна сцёрла вільготныя плямы,
Песню новую зноўку пяе.
Распасцёр красавік над палямі
Яснацветныя шаты свае.
Запалала барвянае ранне
Над абмытаю сонцам зямлёй—
Апранулася ў яркае з'янне
Даль шырокіх калгасных палёў.
Стэпам-морам зялёным пад гаем
Разляглася купчастая рунь.
А над ёй жаўрукі распяваюць,
Дзён вясновых вітаюць зару...

* * *

Сёння вестка ляціць з „Авангарда"*)
Пра вялікае свята ізноў.
У калгасе ўрачыстасць і радасць
Запляліся ў дзівосны вянок.
Шлях у зелень прыбралі дзяўчаты,
Гул бадзёры ля клуба расце,
І з калгаснай гасціннасцю хаты
Сустракаюць жаданых гасцей...
Гэта сёння да самага рання
Бляск электрыкі яркай не згас.
Тут Георгій акружан пашанай—
Яму провады ладзіць калгас.

* * *

Вось устаў старшыня—ў гэты момант
Змоўкла музыка, гоман заглух.
— Працаваў ты ў калгасе нястомна,
Дарагі наш таварыш і друг.
Тваім шчырым узняты парывам,

*) „Авангард" — прыгранічны калгас, дзе працаваў намеснікам старшыні Георгій Чэрных.

Калгас славай грыміць на ўвесь край:
Працадзень тут багаты на дзіва,
З года ў год ідзе ўгору ураджай.
Табой пільнасць калгасная ўзнята
Да аховы граніц-рубяжоў.
Ужо даюць нам калгасныя хаты
Варашылаўскіх меткіх стралкоў.
Ты натхніў нас упарта змагацца;
Не забудзем бацькоў мы тваіх,
Гэтым летам збудуем, між працай,
Мы выгодную хату для іх.
Ёсць не мала ў краіне калгасаў,
Што ўзрасцілі герояў-сыноў.
І ніхто наш запал не загасіць—
Рыхтаваць нашых слаўных байцоў!
Няхай знае фашызм, звер шалёны,
Што магутны размах не спыніць:
Змагары слаўнай рацi Чырвонай
Стаяць цвёрда на варце граніц!
Вартуй чуйна савецкія межы,
Дзе загінуў герой Валенцін.
А мы тут, на заходнім прымежжы,
Будзем пільнымі ўсе, як адзін!..

* * *

І сказаў у адказ на прамову
Ўсхваляваны Георгій Чэрных:
— Мяне ўзрушылі палкія словы,
І запалі мне ў сэрца яны.
Я надзвычай шчаслівы сягоння—
Я іду на далёкі рубеж.
Не забуду калгасныя гоні,
Што так вольна красуюць без меж.
Я прайшоў тут вялікую школу:
Хопіць сілы і волі ў мяне
Цвёрда споўніць наказ комсамола,—
Няма лепшае радасці мне!
За магутнасць Савецкай краіны
І за росквіт шчаслівых гадоў
Я аддам, з усёй любасцю сына,
Свае сілы, сваю маладосць.
Калі-ж будзе патрэбнасць у гэтым—
І жыццё маладое аддам
За радзіму сваю, за Советы,
Гэта будзе апошні мой дар.
Непарушны Советаў граніцы,
Не баімся варожых мы сіл,
І не ўдасца ліхім навальніцам
Комунізма зару пагасіць!..

* * *

Сталы яркнуць святочнай акрасай—
Беласнежныя скрозь абрусы.
Хлеб пшанічны, як сонца, узняўся.
І вітаннем гучаць галасы...
Рань вясновая з пышнага саду
Ўжо даўно пазірае ў акно.
У калгасе ўрачыстасць і радасць
Запляліся ў дзівосны вянок.

. . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Я ўслаўляю савецкіх герояў
І адданасць і шчырасць Чэрных.
Гэты гімн—майго сэрца прамова—
Хай раскажа сусвету пра іх.
Няхай спеў пра герояў шыбае
Лёгкакрылым палётам арлоў.
Я хачу, каб у сонечным краі
На геройства быў кожны гатоў—
За любоў да Савецкай радзімы,
Дзе жыццё расквітнела, як май,
І да партыі нашай любімай,
Што ўзняла так цудоўна наш край;
За любоў да таго, хто няспынна
Люд працоўны да шчасця вядзе,
Чыё імя гарыць над краінай
Ярчэй сонца у чэрвеньскі дзень,
Чыя слава над светам лунае,
Чыя мудрасць здзіўляе ўвесь свет!..
Геній Сталінскі шчыра ўслаўляю,
Яму шлю ўсхваляваны прывет!

Красавік 1937 г.

*Усевалад Краўчанка*

# КАМЕННЫЯ ВАЛЫ

Легенду пра Каменныя валы мне расказалі яшчэ з год таму назад. Але толькі цяпер, выбраўшы вольны дзень, я парашыў наведаць тое поле, на якім скамянеў бязбожны ратай разам з сваімі валамі. Гаротны селянін, як апавядае легенда, выехаў араць у поле на першы дзень „вялікадня“ і за гэта ў час, калі селянін палуднаваў, яго так сурова пакарала „божая рука“. Скамянеў не толькі селянін і валы, але і сабачка, які прысутнічаў пры гэтым надзвычайным па нахабнасці „святатацтве“ і гаршкі, у якіх хаваўся полудзень атэіста.

Поле гэтае знаходзілася за дзесяць-дванаццаць кілометраў ад нашай вёскі, непадалёку ад вялікага прырэчнага сяла з буйным інтэрнацыянальным калгасам. Падрабязна распытаўшы як ісці, я захапіў з сабою фотаапарат і раніцою, ледзь узышло сонца, рушыў у дарогу. Ісці было свежа, лёгка, прыгожая ліпеньская раніца скрадвала дарогу, і я сам не прымеціў, як ужо апынуўся за восем кілометраў ад сваёй вёскі, на скрыжаванні трох дарог, каля магілы двух братоў партызан, павешаных белагвардзейцамі ў дваццатым годзе ў час адступлення. Адсюль я павярнуў управа, перасек невялікі лес і выйшаў на край поля. Недзе на гэтым полі і павінны былі ляжаць тыя Каменныя валы.

Ведаючы, што яны знаходзяцца на невялікім узгорку, я парашыў проста наўздагад баразною перасекці поле. Перайшоў гэтае поле раз, завярнуўся—перасек у другім напрамку, але ні валоў ні ўзгорка нідзе не было відаць. Далёка на ўскраіне лесу я ўбачыў статак кароў, як відаць з суседняга сяла, і, каб болей не блытаць, я парашыў пайсці туды і распытаць дарогу ў пастухоў.

Шустры невялікі сабака моцным брэхам першым сустрэў мяне. Але яго зараз-жа пазвалі.

— Шарык, ляж! Шарык...

Насцярожана падкурчыўшы хвост, Шарык паслухмяна пабег назад. Каля альховага карча, схаваўшыся ад сонца, сядзелі двое: лысы, без шапкі, каранасты дзед і малады, гадоў дзевятнаццацідваццаці, юнак з кнігаю ў руках. Побач з дзедам ляжала тоўстая, уся ў суках, кавенька, шырокія сухія плечы яго аблягаў рамень, на якім вісела металёвая біклага для вады. Дзед сядзеў да мяне спіною, але калі я наблізіўся да іх і прывітаўся, ён павярнуўся і я ўбачыў яго твар загарэлы, абветраны, як і лысіна, якую бачна было яшчэ здалёк. Шэрыя вочы дзеда строга пазіралі на мяне.

Не паспеў я сказаць пра прычыну свайго да іх прыходу, як дзед рэзка, без цэрэмоній, спытаў:

— А чаго ты там не бачыў ля тых валоў?

Давялося растлумачыць вытокі маёй цікавасці, моў, чуў лягенду і хачу пабываць на месцы, дзе здарылася такая незвычайная трагедыя з чалавекам. Але дзед падышоў да пытання проста:

— Ходзяць... Толькі сцежку ў жыце пратапталі.

На дапамогу мне прышоў юнак. Ён устаў, паклаўшы разгорнутую кнігу на траву, і адвёў мяне ўбок. Цяпер я ўбачыў камсамольскі значок на яго выцвілым пінжаку.

— Пойдзеце спачатку вось так,—пачаў ён расказваць мне, паказваючы пры гэтым рукамі,—потым павернеце сцежкаю на поле, а затым, вунь, бачыце хвойку і збоку курганчык?—дык гэта-ж і ёсць валы.

Я падзякаваў хлапцу і хацеў ужо ісці, як мяне пазваў дзед.

— То чаго ты хапаешся? Пасядзі—адпачні, валы-ж не ўцякуць.

Я ахвотна падсеў да іх у цень альховага карча. Дзед, відаць, быў не такім бурклівым, як мне адразу гэта здалося. Злавіўшы мой позірк, які я выразна кінуў на біклагу, дзед адразу адкруціў горлечка пасудзіны і прапанаваў мне квасу, рэзкага і кіслага. Халодны квас мне прышоўся да густу, і я пацёг з біклагі так, што яе давялося нахіляць аж угору донцам. Але дзед не злаваў, голас яго быў лагодным.

— Да нас многія прыходзяць,—гаварыў ён павольна.—Толькі ўсе не так на валы дзівяцца, як на наша поле. Адтуль, з узгорка, яно усё як на далоні—ані меж на ім, ані лапікаў, жыта і жыта, як глянь, жыта. Ды ўсё рослае такое... Нашто хваліць,—сам убачыш. А валы што—каменне нежывое, пустая парода...

Дзед падабаўся мне ўсё больш. Пасяброўску ўсміхаючыся, ён час ад часу гладзіў сваю чорную шырокую бараду, без адзінага хаця-б сівага воласа. Я працёг руку па кнігу, што ляжала побач на траве. Дзед яшчэ больш ажывіўся.

— Гэта Сярожа мне ўголас пра Калхіду чытае...

Сапраўды гэта была кніга Паўстоўскага „Калхіда“.

— От скажы ты,—дзед падсунуўся бліжэй да мяне,—чаго толькі цяпер зрабіць не могуць? Усё могуць! Захацелі—з балот, з машкарэчы краіну адрадзілі, каб сады ў ёй цвілі. Ай-ай!

Сяргей скінуў пінжак, разаслаў яго і лёг, залажыўшы пад галаву рукі. Дзед горача тармасіў мяне за рукаў.

— Вот Сярожа гаворыць, цяжка ім там у Іспаніі перамагчы гадаў, а я адно скажу: будуць у іх людзі такія, як у нас, усіх пераможуць і прагоняць да чортавага бацькі!

Дзед перастаў усміхацца і пачаў глядзець некуды ўбок. Некаторы час ён маўчаў, прыняўшы такі-ж строгі выгляд, якім ён сустрэў мяне. Сонца ўзнімалася пад поўдзень і цераз корч пачало свяціць на загарэлую дзедаву лысіну. Але раптам дзед увесь ажывіўся, перасунуўся ў цень і, хітра ўсміхнуўшыся, звярнуўся да мяне.

— Ты ідзеш дзівіцца на Каменныя валы? Вот паслухай,

я раскажу, калі хочаш, табе пра гэтыя Каменныя валы новую байку. Пра валы і пра ўнука майго Толіка.

Ты-ж можа быў калі-небудзь у нас у Росліках? Не быў? А пра майго ўнука Толіка чуў? Як ты мог пра яго не чуць? Пра яго ўся акруга знае, а можа і ў Маскву голас дайшоў. Такія ўжо праявы. Ого, мой Толік! Па праўдзе табе скажу, у дзеда ён удаўся, не па бабе пайшоў. Баба ў мяне, няма чаго казаць, дабрушчая, але-ж не па ёй. На трактарыста вывучыўся, комсамолам стаў. Ну, праўда, сын мой Салівон, гэта значыць бацька Толіка, то-ж не цялё якое-небудзь, вучоны, садоўнік, на дваццаць гектараў сад у калгасе садзіць. Ну, але Толік у дзеда ўдаўся. І я такім у маладасці быў. Так. То вот, значыць, як ёсць Толік трактарыст і працуе ён ад МТС у нашым калгасе, то і даводзіцца яму кожны год гэтае поле араць, дзе валы ляжаць. Арэ ён, абсявае. А трактар-жа ведаеш як ходзіць—роўненька, струною проста барозны сцеле. То на гэтым полі даводзіцца Толіку кожны раз вілюгі рабіць, аб'язджаць каменні тыя. Яны-ж як на злосць, паляглі на дарозе, занялі загон цэлы і выкручвайся тут як хочаш. А выкруціцца на трактары не так-то лёгка. Зноў-жа зямля там чорная, тлустая, пакідаць шкода. Кожны раз Толік калі арэ каля валоў, лае іх на чым свет стаіць. Але хіба лаянкай паможаш?

Дзед зрабіў паузу і засмяяўся, засмяяўся за ім і Сяргей.

— А то аднойчы павярнуў ён трактар каля валоў, а плугі яшчэ толькі закідала, то адзін з іх калі крэсане па каменю, ажно іскры пасыпаліся. Ну і накрычаў тут Толік на іх: „К чорту, гаворыць, трэба знесці гэты рэлігійны дурман, даволі ён над намі кепікі строіў!“

А якія тут кепікі, калі сам-жа ён і вінават быў у тым. Але калі-б знаў Толік, што здарыцца тут з ім пазней, не так-бы яшчэ злаваў. І супэла-ж, скажы ты, так што Толік на гэтым-жа тыдні і баранаваць туды выехаў. Барану прычапілі яму „Зіг-заг“, усё, як мае быць, паехаў... От тут і здарылася гэтая замароха з ім. Барануе ён сабе поле, усё ідзе добра, настрой у Толіка вясёлы, гоніць, ды яшчэ, казалі, і пасвіствае... Трэба табе сказаць, вясёлы ён у мяне ўнук, добры ўнук, усім-бы я жадаў такіх патомкаў. Так. Дабаранаваў ён да валоў, каля саміх каменняў выкручваецца. Чуе нешта ззаду—штурх, зачапіла мусіць, ну, але адразу і пусціла. То Толік мой і не азіраецца, чэша сабе далей пасвістваючы. Даехаў да канца поля, назад верне. А каля поля гэтага дарога ў раён праходзіць. Бачыць Толік, едзе па гэтай дарозе падвода, а ў ёй людзі сядзяць і ад смеху аж качаюцца. Чаго гэта так раптам ажно заходзяцца ад смеху гэтыя людзі—думае сабе Толік. А тыя смяюцца, ды яшчэ на яго і пальцамі паказваюць. „Што за ліха,—думае Толік,—здаецца я нічога такога смешнага не раблю, бараную сабе, ды пасвістваю“. А людзі на возе канаюць ажно, калі ўбачылі, што Толік дасюль не можа разабрацца, у чым справа. Ну, але адзін знайшоўся такі сярод іх, што насмешліва кінуў: „Ды ты назад азірніся, трактарыст...“ Азірнуўся Толік—уга! Ты ўжо мусіць здагадаўся, што за штука выйшла? Бачыш, і табе нават смешна... Азірнуўся, а „Зіг-заг“

ззаду то і няма! Як карова языком. Ці чуў ты такое? Злосць і сорам тут апанавалі Толіка.

Прыбег ён пасля работы ў сяло, комсамольцаў усіх сабраў, сход па гэтаму пытанню адкрылі.

Сяргей смяючыся ўставіў:

— Закрыты...

— Што закрыты?—перапытаў дзед.

— Закрыты сход.

— Ага... Так. Закрыты сход, каб ніхто і не ведаў. Ну, Толік мой і вынес прапанову: каб „рэлігійны дурман“ больш не строіў кепікаў з комсамольцаў, не падрываў іх аўтарытэт, узарваць гэты дурман пры дапамозе звычайнага паляўнічага пораху і перавезці па кавалках у роў.

Заправілам быў у іх тады Борка Шварцман, калгаснага каваля Шымелэ сын. Той таксама падхапіў: „Узарваць!“ Сяргей, во гэты самы, што ля цябе сядзіць, крычыць: „Узарваць!..“

Сяргей засмяяўся і апусціў галаву.

... Нінка, цесляра Мікіты дачка—будзеш ісці ў Рослікі, то іх хата з самага краю сяла стаіць—цівянё тое задзёрыстае і яна крычыць: „Узарваць!“ І пасюль толькі не магу я дайсці, дзе вы пораху тады дасталі,—звярнуўся дзед да Сяргея.

Сяргей загадкава адказаў:

— Знайшлі...

— Ну, дасталі яны, значыць, пушак з чатыры пораху і на заўтра, на вечар прызначылі ўзрыў. Пакончыць, значыць з рэлігійным дурманам да канца. Добра, пакончыць, ды пакончыць... і ў строгім сакрэце яны трымалі зацею сваю гэтую. Але тут сярод іх здраднік аказаўся—рыжы Міколка, конюхам у сельпо служыць. І на якое ліха прымалі яны ў комсамол штучку гэтую! Данёс. Каму данёс? Старшыні калгаса, Пашуку. Харошы чалавек, не можна нічога дрэннага на яго сказаць. Нашто ўжо наш калгас вялікі, цэлых трыста пяцьдзесят двароў і беларусоў і яўрэяў— упраўляецца так, што глядзець люба, пад яго началам дружна працуем. Расказаў здраднік Міколка Пашуку, так і так, хлопцы, моў, задумалі валы ўзарваць і пораху ўжо дасталі ды ўсё ў сакрэце загадалі трымаць. А той, праўда, і пытае перш-на-перш: „А ты гэта так сакрэт сваіх сяброў трымаеш? Не любіць Пашук такіх даношчыкаў. От тут Міколку і няма чаго казаць. Але Пашук з ім доўга не гаварыў, а пабег зараз-жа да Боркі Шварцмана. Трэба-ж адгаварыць хлопцаў. Як-жа так, лягенда ўсё-ткі ходзіць пра валы пра гэтыя, дый так на каменні тыя цікава паглядзець— на Беларусі мала такіх вялікіх знойдзеш, у кнігах пра іх апісваецца. Але ўсё гэта нічога, хай-бы ўзрывалі, самае галоўнае, з порахам жарты малыя, могуць яшчэ хлопцы абпаліцца, або параніцца. Навошта рызыкаваць дарэмна?

Прышоў Пашук да Боркі і гаворыць: „задумалі вы, хлопцы, не карысную справу, лепш давайце будзем займацца чым другім“. І-і, куды там, а ні блізка. Узарвем і ўсё тут...

А трэба табе сказаць, штуку гэту яны і сапраўды дарэмна задумалі. Каб прыбраць тыя каменні, сілы трэба затраціць многа—

не апраўдаецца яна. І, праўду кажучы, чым тыя каменні вінаваты, што Толік каля іх барану „Зіг-заг“ пакінуў, а не змог аб'ехаць іх?

Але Борка і слухаць Пашука не хоча, мяшок для пораху шые. Бачыць Пашук, не згаварыцца яму з хлапцамі, а тут яшчэ і Толік мой на дапамогу Борку прыбег, а таго адгаварыць цяжка. Калі закрычыць, ды замахае рукамі... Мая баба, яна ў мяне дабрушчая такая, дык тая зусім баіцца з ім гаварыць. Ха-ха! Дзівак Толік, але-ж люблю я яго, вясёлы ён хлапец. Агонь проста. Вось заўсёды выдумае нешта, бегае, хвіліны без справы пасядзець не можа. Так. Дык Пашук бачыць—не згаварыцца, а хлопцы, што-ж, моладазелена, і пакалечыць сябе порахам могуць. Пабег у канцылярыю, звоніць у раён, сакратару комсамольскаму, што, моў, мне тут з імі, блазнамі, рабіць, як угаварыць. Пашук, прама скажу, мяккае сэрца мае, не любіць загадваць, усё больш па добраму ён... Не, калі трэба, дык і ён можа цвёрдае слова сказаць, але на гэты раз ён не хацеў сварыцца з моладдзю. Ну, а сакратар іхні раённы то-ж зух хлопец, па-больш бы нам такіх людзей. Доўга ён не распытваў, засмяяўся толькі, сеў на самакат, раз-раз прыкруціў да гэтага поля. Дарогу ў раён мы цяпер даглядаем, гравіем высыпалі, ехаць добра па ёй. Прыкаціў. А хлопцы ўжо ходзяць ля гэтага каменя, мяркуюць, з якога боку яго лягчэй у дым разнесці. Толік кажа—трэба з гэтага боку пачынаць, Борка гаворыць не, з другога. Сяргей паказвае зусім па інакшаму. А Нінка, цівянё гэтае, крычыць—яму пад каменнямі капаць трэба і ў яму порах класці. Ну, яны сабе крычаць, а Марозаў, прозвішча такое ў сакратара, стаіць на дарозе слухае, ды пасміхваецца. Маўчаў, маўчаў, а далей і гукае:

— Гэй, арлы! У чым справа? Можа знайшлі што-небудзь—не падзеліце?

Змоўклі хлопцы, азірнуліся—на дарозе Марозаў стаіць, смяецца. Збянтэжыліся яны, не знаюць, расказваць Марозаву, ці не, пра выдумку сваю. А пакуль будзе тая справа, Борка мяшочак з порахам у кішэню сунуў... Ха-ха, вот дзівакі...

— Хадзіце,—крычыць Марозаў,—сюды, рэбята, я вам нешта скажу.

Нехаця, нехаця, але падыйшлі да Марозава ўзрыўшчыкі, што казаць не знаюць, прывітацца нават забыліся.

— Ну,—кажа сакратар (ох, і зух-жа ён хлопец!)—ты, Шварцман, нездарма чэмпіёнам па самакату ў раёне хочаш быць, сядай на маю машыну, гані ў сяло. Чаго ты так на мяне глядзіш? Не пазнаў Марозава хіба? Ды нашто табе той порах у кішэні, бач, выпнулася як, толькі перашкаджаць будзе, аддай яго мне. Во, так. Ну, цяпер едзь. Я гэтым порахам—так Марозаў кажа—гору качуроў налажу. Бачу я, што не верыце, ды дарэмна. Вось хочаце, я і вам па аднаму прышлю. Колькі вас тут? Шэсць? Паслязаўтра шэсць качуроў прышлю вам за гэты порах. Едзь, едзь, Барыс. А мы, рэбята, як-небудзь і пяшочкам даклыпаем у сяло. Па дарозе вы раскажаце мне, як у вашай арганізацыі справы ідуць. Згода?

... Ха-ха ха! Што, хітра ён да іх падыйшоў?

На гэтым і канец гісторыі з маім унукам Толікам і каменнымі

валамі. Доўга Толік-небарака не мог змірыцца з тым, што не ўдалося яму ўзарваць „рэлігійны дурман“. Усё Нінку папракаў: „Гэта, кажа, цераз цябе Марозаў нас засціг. Каб не капалі яму, не трацілі часу, ды гакнулі так, як я казаў, усё добра было-б. Ну, папракаў ён яе папракаў, а потым праз які месяц—другі мы і вяселле іхняе згулялі. А вот скора Нінка мне ўжо і праўнука народзіць... Ага! Яшчэ-ж пра Марозава не ўсё. А качуроў-жа ён прыслаў, не схлусіў! На паслязаўтра-ж шэсць качуроў, як мае быць прыслаў, ды ўсе не абы якія—крыжакі. Во, што ён за чалавек!

Дзед замоўк. Ад статку, што пасвіўся на ўскраіне поля, адбіліся і падаліся да пасеваў некалькі кароў. Сяргей устаў і пашоў адвярнуць іх ад шкоды.

Сонца ўжо абышло поўнеба, калі я сабраўся пакінуць калгасных пастухоў. Дзед на развітанне пасяброўску пахлопаў мяне па плячу.

— Ты прыходзь да нас у Рослікі, да мяне прыходзь. Спытаеш, дзе жыве стары Андрэй пастух, табе любы блазнюк пакажа. Баба ў мяне дабрушчая, яечні насмажыць. Унукаў маіх malалетніх пабачыш, ад малодшай дачкі—яны ў мяне гасцююць цяпер. Адзін нядаўна вадаправод пабудаваў, у бабіных гаршках дзірачкі павыбіваў. Заходзь...

Я пайшоў. Сяргей і дзед адразу селі і ўслед мне дайшоўся голас Сяргея: „Габунія павольна пайшоў па валу і спатыкнуўся аб рытвіну.

— Хабарда!—крыкнуў Габунія.—Міха! Давай сюды рабочых. Хутчэй“...

Праз хвілін дваццаць я ўжо быў каля валоў. Два аграмадных без пэўнай формы, шэрых камяні ляжалі на ўзгорку. Я ведаў: іх, гэтыя гіганты каменні, даўно, даўно прывёз на сабе ледавік з далёкіх гор блакітнай Скандынавіі.

Узабраўшыся на камень я азірнуўся наўкола. Буйнае, каласістае ў чалавечы рост жыта нібы мора ў непагоду хвалявалася каля маіх ног. І куды ні глянь, ва ўсе чатыры бакі аж да гарызонта, білася, гайдалася такое-ж зялёнае мора і толькі час ад часу хвалю прабягаў па ім непаседа-віхор. Вот, здаецца, каб човен-даўбанку ўзяць, сесці ў яго, грабянуць-бы каб аж віхрам ззаду закруцілася вада, збіць-бы носам чоўна пенную верхавіну хваль і імчацца так, імчацца па мору па гэтым без канца.

Пра два звычайныя камені, на якіх я стаю, складзена бязглуздая і нікому не патрэбная лягенда. Хто-ж раскажа лягенду пра слаўнага трактарыста комсамольца Толіка, унука калгаснага пастуха дзеда Андрэя, пра Толіка, які ўзараў і засеяў гэтае шырокае поле, і цяпер на ім калышацца і б'ецца дзівоснае каласістае мора, зялёнае і без берагоў...

в. Міхалкі—1937 г.

---

*А. Бачыла*

## РАДЗІМА

Ад граніц, маўклівых і далёкіх,
Ад сяліб да сопак ціхіх юрт,
Да муроў-святліц Владзівастока
Спатыкаю моладасць сваю.

Ты яе нідзе не адшукаеш,
Як шукаюць скарбы таямніц;
Бо няма яшчэ такога краю,
Бо няма яшчэ такіх граніц,

За якімі ў думах чалавечых
Расцвітала-б долі светлай шыр,
Да якой дарогаю адвечнай
Нас прывёў любімы правадыр.

І таму у песнях і паданнях
Праз гады пяе яго народ
Сонцам новага прыгожага світання
Там, дзе поўдзень, захад і усход.

І таму любоў, як хвалі мора
Як бязмежны сіні краявід,
Вырастае у сэрцах гарачых,
У кіпучай маладой крыві.

І адвагай, поўнаю бястрашша,
Што людзей на полюс прывяла,
Сімвалам радзімы нашай,
Славай свету шлях далёкі ўслаць.

Мы змаглі праз цяжкасці асіліць,
Праляцець нязведаную шыр...
Дзе вятры спрадвеку галасілі—
Сцяг чырвоны там і правадыр.

в. Сініло 1937 г. Чэрвень м-ц.

*Андрэй Ушакоў*

# БЛІЗКАСЦЬ

Мы, дзяўчына, незнаёмы,
Але блізкія з табой.
Я не знаю нумар дома,
Дзе жывеш, таварыш мой.
Нават вуліцы не знаю,
Назвы горада твайго.
Ці вядзе к табе лясная
Сцежка ў госці, больш таго,
Мо' жывеш, дзе саклі—гуртам
І пад сонцам—вінаград?
Ці дачка паўночнай юрты—
Дзе буран і снегапад?
Ці вясёлая суседка,
Што спявае за сцяной?
Можа я з табой не рэдка
У адным сядзеў кіно?
І таксама, мая лада,
Ты не знаеш, дзе жыву.
Адкажы, пры стрэчы, радасць,
Як цябе я назаву?!
І якой ты будзеш з твару,
Ростам, голасам... Дзівак,
Пра цябе я столькі марыў
І ўявіць не мог ніяк;
Дзе сустрэнуся з табою,
Як убачымся? Калі?
Над узрушанай зямлёю,
Пад зямлёй, ці на зямлі.
Толькі ўсё няважна зрэшты
Прозвішчам завуць якім,
Колер воч і дзе жывеш ты,—
Цвёрда ўпэўнен я ў адным:
Маладосцю ты багата,
Дзіўнай свежасцю зары,
Як і ўсе нашы дзяўчаты
Слаўнай, сонечнай пары.
Для любімае радзімы
Працаваць выдатна нам!
Я руку, як пабраціму,
Як таварышу падам.

Масква, 1936 г.

*М. Дабрынін*

# „ЕЎГЕНІ ОНЕГІН“

**„Пушкін належыць да з'яў, якія вечна жывуць і рухаюцца, не спыняюцца на тым пункце, на якім застала іх смерць, але працягваюць развівацца ў свядомасці грамадства. Кожная эпоха дае пра іх сваю думку і як-бы правільна ні зразумела яна іх, але заўсёды пакіне наступнай за ёю эпосе сказаць што-небудзь новае і болей правільнае, але ні адна ніколі не выкажа ўсяго“.**

*В. Г. Белінскі.*

Геніяльныя думкі Белінскага пра Пушкіна цяпер могуць быць пацверджаны шматлікімі фактамі, якія характарызуюць адносіны да вялікага паэта на працягу больш за сто год. Сто з лішнім год ідзе барацьба навакол Пушкіна, кіпяць страсці, выказваюцца меркаванні і думкі, раскрываюцца новыя бакі творчасці. Пушкін будзе жыць вечна. Пушкін—асаблівая з'ява ў ходзе нашага грамадскага развіцця, якая не можа быць забыта. Яго творчасць належыць вялікаму народу, яна—здабытак усіх народаў СССР. У нашы дні асабліва важна зразумець і ацаніць творчасць Пушкіна, сказаць сваю думку пра яго, узяць усё, што ў ім належыць нам. Цэнтральнае месца ў гэтай творчасці належыць раману „Еўгені Онегін“.

„Прызнаёмся: не без некаторай боязкасці пачынаем мы крытычны разгляд такой паэмы, як „Еўгені Онегін“,—пісаў у свой час В. Г. Белінскі.—І гэта боязкасць апраўдваецца шмат якімі прычынамі. Онегін ёсць самы задушэўны твор Пушкіна, самае любімае дзіця яго фантазіі, і можна ўказаць на надта мала якія тварэнні, у якіх асоба паэта адлюстроўвалася-б з такою паўнатою, светла і ясна, як адлюстравалася ў Онегіне асоба Пушкіна. Тут усё жыццё, уся душа, уся любоў яго; тут яго пачуцці, разуменні, ідэалы. Ацаніць такі твор, значыць—ацаніць—самога паэта ва ўсім аб'ёме яго творчай дзейнасці“ *).

## II

Раман „Еўгені Онегін“ быў задуманы 9 мая 1823 года, у той час, калі паэт быў у Кішынёве. Першая глава была напісана за час з 28 мая па 22 кастрычніка 1823 г. Другая глава была

*) *В. Г. Белінскі* „Еўгені Онегін“, стар. 8, Поўны зб. твор. т. XII, 1936 г. стар. 73.

скончана 8/XII 1823 г.; трэцяя—2/X 1824 г. у сяле Міхайлаўскім; чацвертая—3/I 1826 г.; пятая—у 1826 г.; шостая—10/VIII 1826 г.; сёмая—скончана 4 лістапада 1828 г.; восьмая—18/IX 1830 г.; (урыўкі з падарожжа Е. Онегіна); дзевятая—25/IX 1830 г. у Болдзіне; дзесятая—1830 г. Да 1831 г. належыць работа над асобнымі строфамі дзевятай главы. Да 1833 г. належыць зварот Пушкіна да „Еўгенія Онегіна“, калі ён напісаў дзве ўступныя страфы, якімі хацеў працягваць свой раман *).

Такім чынам работа над раманам захапіла цэлых восем з лішнім гадоў. Восем гадоў плённай творчасці, буйнага росквіту творчых сіл паэта. За гэты час былі створаны: „Граф Нулін“ (1825 г.), „Барыс Гадуноў“ (1825 г.), „Арап Петра Вялікага“ (1827 г.), „Палтава“ (1828 г.). У тым-жа 1830 г., калі была скончана восьмая (дзевятая) глава „Еўгенія Онегіна“, былі напісаны „Аповесці Белкіна“, „Домік у Каломне“, „Скупы рыцар“, „Моцарт і Сальеры“, „Баль у час чумы“, „Гісторыя сяла Гарухіна“, „Каменны госць“ і рад вершаў. Такім чынам работа над „Еўгеніем Онегіным“ перапляталася ў Пушкіна не толькі з работай над лірычнымі творамі, але і з вялікімі эпічнымі, драматычнымі рэчамі. Калі ў першых главах мы адчуваем яшчэ Пушкіна „Братоў разбойнікаў“, „Цыган“, то ў апошніх—гэта ўжо аўтар „Аповесцей Белкіна“, „Гісторыі сяла Гарухіна“. Дастаткова ўдумацца ў радкі з падарожжа Еўгенія Онегіна (восьмая глава), каб зразумець, куды прышоў Пушкін за гэтыя восем гадоў.

Иные нужны мне картины:
Люблю песчаный косогор,
Перед избушкой две рябины,
Калитку, сломанный забор,
На небе серенькие тучи,
Перед гумном соломы кучи,
Да пруд под сенью ив густых—
Раздолье уток молодых;
Теперь мила мне балалайка
Да пьяный топот трепака
Перед порогом кабака,
Мой идеал теперь—хозяйка.
Мои желания—покой,
Да щей горшок, да сам большой.

У гэтым-жа 1830 г., Пушкін напісаў верш „Румяны крытык мой“, дзе дадзена такая цудоўная карціна:

Смотри, какой здесь вид: избушек ряд убогий
За ними чернозем; равнины скат отлогий,
Над ними серых туч густая полоса.
Где нивы светлые? Где темные леса?
Где речка? На дворе, у низкого забора,
Два бедных деревца стоят в отраду взора,
Два только деревца.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*) Восьмая глава Пушкіным выпушчана, яе месца заняла дзевятая, а восьмая была пасля надрукавана асобна: „Урыўкі з падарожжа Онегіна“. Дзесятая была спалена Пушкіным у кастрычніку 1830 г. Захаваўся запіс Пушкіна: 19 кастрычніка (1830) спалена X песня.

И только. На дворе живой собаки нет.
Вот, правда, мужичок; за ним две бабы вслед;
Без шапки он; несет под мышкой гроб ребенка
И кличет издали ленивого попенка,
Чтоб тот отца позвал, да церковь отворил:
Скорей, ждать некогда, давно-б уж схоронил!

Гэтыя цудоўныя карціны напісаны ўжо не ў духу дваранскага рэалізма, а ў духу рэволюцыйна-дэмакратычнага рэалізма Некрасава. Сілаю творчай думкі Пушкін пайшоў далёка ўперад, ён быў не толькі дваранін 20-х гадоў XIX в., не толькі сын свайго часу, абумоўлены ім, але і чалавек, у поўным сэнсе гэтага слова, тварэц грамадскіх адносін і эстэтычных каштоўнасцей, таму ён змог стварыць такія творы, якія не трацяць свайго значэння да нашых дзён. І як шмат яшчэ рамантычных водгукаў у першых главах „Еўгенія Онегіна", так многа ўжо элементаў дэмакратычнага рэалізма ў апошніх главах. Паэт быў у правах, пішучы:

Таков ли был я расцветая?
Скажи, фонтан Бахчисарая,
Такие ль мысли мне на ум
Навел твой бесконечный шум,
Когда безмолвно пред тобою
Зарему я воображал...

„Бахчысарайскі фантан" напісан у 1822 г., г. зн. напярэдадні работы над „Еўгеніем Онегіным". Так, гэта былі:

Другие дни, другие сны;
Смирились вы, моей весны
Высокопарные мечтанья,
И в поэтический бокал
Воды я много подмешал.

Мы не пашкадуем аб гэтым. Паэт перажыў, перадумаў, пераадчуў вельмі шмат, яго погляд стаў шырэй, разуменні дакладней і сур'ёзней, яго адносіны да людзей і да жыцця больш патрабавальнымі. Ён вырас і з мастака, які толькі адлюстроўваў існуючае, ён ператварыўся ў мастака, які адкрываў будучыню, рабіў намёкі на новыя адносіны і вобразы. Гэтая вялізная творчая эвалюцыя і адлюстравалася ў „Еўгеніі Онегіне". Яе бачыў яшчэ Белінскі, які адзначаў усё большую і большую мастацкую сталасць паэта ў наступных главах рамана. Разам з развіццём рамана відаць як спее думка, метад, як крэпне пяро і рука Пушкіна. Агульная эвалюцыя паэта сказваецца на ўсіх яго творах, але ў рамане яна выступае ясней. Ён—цэнтральны твор, паказ яго росту і мастацкай сталасці, вось чаму тлумачыць яго, значыць тлумачыць усю творчасць Пушкіна.

У якіх-жа адносінах стаіць раман да твораў другіх мастакоў, або інакш, якое-ж яго месца ў гісторыі літаратуры. Крытыка, пачынаючы з Белінскага, бачыла арганічную сувязь Чацкага, Онегіна, Печорына, Рудзіна, Лаўрэцкага, Бельтава і інш. У гэтых працах падкрэслівалася сувязь тыпаў, а не твораў. Між тым, вельмі трэба было-б гаварыць пра карціны рускага жыцця, адлюстраваныя ў творчасці гэтых мастакоў, трэба было-б падкрэсліць значэнне

Пушкіна не толькі як творцы Еўгенія Онегіна—тыпа, але як мастака, які зрабіў пачын стварэнню шырокага соцыяльнага рамана. Яшчэ Белінскі справядліва заўважыў: „Не кажучы ўжо пра эстэтычныя вартасці Онегіна,—гэта паэма мае для нас рускіх вялізнае гістарычнае і грамадскае значэнне“... „Першым такім нацыянальна-мастацкім творам быў „Еўгені Онегін“ Пушкіна“ *).

Важна падкрэсліць тую думку, што герой рамана не павінен засланяць усяго рамана, аналізуючы героя не трэба забываць раман як цэлае, як мастацка-замкнуты свет, які адлюстроўвае пэўны перыяд у жыцці Расіі. Сапраўды: „без Онегіна быў-бы немагчымы „Герой нашага часу“, таксама як без Онегіна—і „Гора ад розуму“. Гогаль не адчуў-бы сябе гатовым на паказ рускай рэчаіснасці, поўны такой глыбіні і ісціны“**). Усё гэта правільна, таму трэба зразумець, што раман „Еўгені Онегін“ быў той асновай, на якой мог быць створаны не толькі вобраз Печорына, але і раман „Герой нашага часу“.

У святле твораў Лермантава, Тургенева, Герцэна, Ганчарова больш поўна і ясна выступае значэнне рамана і асобных вобразаў у Пушкіна. Цікавыя думкі пра гэта выказаў вядомы гісторык В. О. Ключэўскі ў сваім артыкуле „Еўгені Онегін і яго продкі“: „Чытаючы Онегіна, мы ўпершыню вучылісяназіраць і разумець з'явы жыцця, фармуляваць свае невыразныя пачуцці, разбірацца ў неўпарадкаваных парывах і імкненнях“... „Не паспелі мінуць нашы школьныя гады, мы толькі што засвоілі Онегіна, як на нас ляглі два новыя літаратурныя ўражанні, і такія глыбокія, якіх не пакідалі ў нас далейшыя творы рускай літаратуры. Гэтыя ўражанні ўпершыню і накіравалі нашы думкі на пытанне, што такое Онегін. Мы прачыталі „Дваранскае гняздо“ і „Обломава“.

Назіранне гэта тым цікавей, што яно належыць чалавеку, які адчуў уплыў Онегіна, калі яшчэ жыва было ўражанне ад дзейнасці Пушкіна, жыва была абаяльнасць яго выключнай асобы.

Печорын, Лаўрэцкі, Рудзін, Бельтаў—гэта развіццё таго-ж тыпа, што і Онегін і тое, што ў апошнім было як зародак, атрымала сваю развітую форму. Змена этапаў рускага жыцця атрымала і сваё адлюстраванне ў змене карцін і тыпаў. Узятыя ў працэсе, гэтыя этапы робяцца больш яснымі і зразумелымі, што і было адзначана Белінскім, і інш. даследчыкамі. У гісторыі літаратуры раман Пушкіна з'яўляецца творам, устанаўліваючым шлях развіцця рускай літаратуры. Па ахопу з'яў жыцця, па манеры пісьма, па ўменню ствараць характары, па маральнаму грамадскаму сэнсу гэтых характараў „Еўгені Онегін“—праграма цудоўна ажыццёўленая ў творчасці Лермантава, Тургенева, ранняга Герцэна, нават Талстога, мастакоў тыпа Ганчарова і нават прадстаўніка рэволюцыйна-дэмакратычнага рэалізма Некрасава. Аналіз рамана ў гэтым плане пакажа нам, якую геніяльную прадбачлівасць меў Пушкін, як ён, не толькі ўмеў бачыць сучасную яму рэчаіснасць, але разгадваць у ёй тое, што належыць будучыні,

*) *В. Г. Белінскі*—Там-жа, стар. 73 і 82.
*) *Белінскі*. Там-жа, стар. 84.

што з'яўляецца зародкам, завяззю, якая абяцала багаты плод. Паўтараю, Пушкін быў не толькі дваранін 20-х гадоў, не толькі чалавек, абмежаваны рамкамі свайго часу, але ў той-жа час мастак-мысліцель, які належыць будучаму чалавецтву, належыць нам. Нас ён цікавіць не толькі гістарычна, але як тварэц неўмiручых эстэтычных вартасцей, як мастак думкі і пачуцця.

Цікава, што над гэтым ужо задумваўся Белінскі, які з геніяльнай прадбачлівасцю прадказаў гэта значэнне Пушкіна.

„Разам з тым, як нараджаліся ў грамадстве новыя патрэбы, як мяняўся яго характар і розумам яго авалодвалі новыя думы, а сэрца хвалявалі новыя бядоты і новыя надзеі, народжаныя сукупнасцю ўсіх фактаў яго рухомага жыцця,—усе пачалі адчуваць, што Пушкін, не трацячы цяпер і ў будучым свайго значэння як паэт вялікі, тым не менш быў і паэтам свайго часу, свае эпохі, і што гэты час ужо прайшоў, гэтая эпоха змянілася другою, у якой ужо іншыя імкненні, думы, патрэбы. Таму Пушкін паўстае перад вачамі наступнага для яго патомства ўжо ў дваістым выглядзе: гэта ўжо не паэт, безумоўна, вялікі і для цяперашняга і для будучага, якім ён быў для мінулага, але паэт, у якім ёсць вартасці безумоўныя і вартасці часовыя, які мае значэнне артыстычнае і значэнне гістарычнае, словам, паэт, які толькі адной стараной належыць цяперашняму і будучаму, якія больш або менш задавальняюцца і будуць задавальняцца ім, а другою, большаю і значнейшаю стараною, цалкам задавальняе свайму цяперашняму, якое ён цалкам выразіў і якое для нас—ужо мінулае. Праўда, Пушкін належыць да тых творчых геніяў, тых вялікіх гістарычных натур, якія, працуючы для цяперашняга, падрыхтоўваюць будучыню, і таму ўжо не могуць належаць толькі аднаму мінуламу, але ў тым вось і заключаецца задача здравай крытыкі, што яна павінна вызначыць значэнне паэта і для яго цяперашняга і для будучага, яго гістарычнае і безумоўна мастацкае значэнне. Задача гэта не можа быць вырашана адзін раз назаўсёды на аснове чыстага розуму: не, вырашэнне яе павінна быць вынікам гістарычнага руху грамадства. Чым вышэй з'ява, тым яна болей жыццёвая, а чым болей жыццёвая з'ява, тым болей залежыць яе ўсведамленне ад руху і развіцця самога жыцця"*).

Найглыбейшыя думкі Белінскага асталіся правільнымі і да нашых дзён. Той, хто не прадумаў іх, не можа не толькі правільна праааналізаваць творчасць Пушкіна, але нават паставіць перад сабой задачу ў гэтай галіне. Але як-жа падыйсці да высвятлення гэтых двух бакоў творчасці паэта?

Цудоўным узорам падобнага аналізу з'яўляецца для нас праца В. І. Леніна пра Л. Талстога. У працы В. І. Леніна „Леў Талстой, як люстра рускай рэвалюцыі", дадзена такая ўстаноўка: „І супярэчнасці ў поглядах Талстога трэба ацэньваць не з пункту гледжання сучаснага рабочага руху і сучаснага соцыялізма (такая ацэнка, разумеецца, неабходна, але яна недастатковая), а з пункту

*) *В. Г. Белінскі*. Поўны збор твораў, т. XI, стар. 188—189.

гледжання таго пратэсту супроць надыходзячага капіталізма, разбурэння і абеззямелення мас, які павінен быў быць пароджаны патрыярхальнай рускай вёскай“*).

Метадалагічнае значэнне гэтага выказвання мае агульнае кіруючае значэнне. Карыстаючыся ім, нам трэба зразумець Пушкіна ў цэлым, таксама і яго раман „Еўгені Онегін“, як з пункту гледжання грамадскіх адносін 20—30 гг. XIX ст., так і з пункту гледжання сучаснага соцыялізма, г. зн. высветліць значэнне яго творчасці для свайго часу, для нашага і для будучага.

III

Асноўная ідэя рамана, як яе задумаў аўтар,—гэта ідэя паказу героя часу, маладога чалавека 20-х гадоў дзевятнаццатага стагоддзя. У прадмове да першага выдання першай главы „Еўгенія Онегіна“ ў 1825 г.**) Пушкін пісаў: „Першая глава становіць з сябе нешта цэлае. Яна зьмяшчае ў сабе апісанне свецкага жыцця пецярбургскага маладога чалавека ў канцы 1819 г. і нагадвае Беппо, жартлівы твор змрочнага Байрана“. У тым-жа 1825 г. у сакавіку месяцы А. Бестужэў пісаў Пушкіну: „Не, Пушкін, не, ніколі не згаджуся, што паэма заключаецца ў прадмеце, а не ў выкананні!—Што свет можна апісваць у паэтычных формах—гэта несумненна, але ці даў ты Онегіну паэтычныя формы апроч вершаў? Ці паставіў ты яго ў кантраст са светам, каб у рэзкай зласлоўнасці паказаць яго рэзкія рысы? Я бачу франта, які душой і целам адданы модзе; бачу чалавека, якіх тысячы сустракаю на яве, бо самая халоднасць і мізантропія і дзіўнасць цяпер у ліку туалетных прыбораў. Вядома, шмат якія карціны цудоўныя, але яны не поўныя. Ты схапіў пецярбургскі свет, але не пранік у яго“ (падкрэслена мною—*М. Д.*).

Даць характар і партрэт маладога чалавека 20-х гадоў XIX века, такая асноўная задача мастака, для таго і створан раман са сваімі героямі, карцінамі, словам, са ўсімі элементамі. Задача гэта была ў той час не толькі новая, не толькі арыгінальная і незвычайная для рускай літаратуры, але гістарычна паўнацэнная, глыбокая і важная. Гістарычнае развіццё рускага грамадства дайшло да такога стану, калі, па-першае, з'явілася патрэба ў мастацкім адлюстраванні грамадства і тыпа маладога чалавека, а па-другое, стала магчымым стварэнне такога тыпа. Пушкін і адказаў на гэтую гістарычную патрэбу, а разам з тым паказаў рускі нацыянальны тып, тып, якога да гэтага часу ў рускай літаратуры не было. У гэтым вось і заключаецца яго вялізная гістарычная заслуга. Калі гэта так, то Пушкін—наватар, афарміцель важнага і істотнага моманту ў развіцці нацыі, народу. Вось чаму Пушкін вялікі, вось чаму мы ў правах ганарыцца ім, хоць ён і вышаў з асяроддзя дваранства.

У сваім артыкуле „О национальной гордости великороссов“ В. І. Ленін пісаў: „Мы ганарымся тым, што гэтыя гвалты выклікалі адпор з нашага асяроддзя, з асяроддзя велікаросаў, што гэтае

*) *В. І. Ленін*, Збор твораў, т. XII, стар. 332—33, выд. III.

**) Гэта прадмова была пасля выключана самім Пушкіным, але задача ў ёй была выказана правільна.

асяроддзе высунула Радзішчэва, дзекабрыстаў, рэволюцыянераў-разначынцаў 70-х гадоў, што велікарускі рабочы клас стварыў у 1905 г. магутную рэволюцыйную партыю мас, што велікарускі мужык пачаў у той-жа час рабіцца дэмакратам, пачаў нізвяргаць папа і памешчыка"*).

Так, Радзішчэў, дзекабрысты, Пушкін—былі важнейшымі людзьмі ў развіцці нацыі. І хай яны належалі да дваранства, у іх было сканцэнтравана ўсё лепшае, што мела руская нацыя на тым этапе. Яны былі не толькі прадуктам, але творцамі грамадскіх адносін, іх свядомасць не толькі адлюстроўвала рэчаіснасць, але была істотнейшым момантам у стварэнні апошняй. Лёгка зразумець, такім чынам, што раман „Еўгені Онегін“, з'яўляючыся лепшым творам Пушкіна, знаходзіцца на вялікай дарозе гістарычнага развіцця нацыі, народу. Ён ахоплівае важнейшы этап у развіцці самага адукаванага ў той час пласта рускага грамадства—дваранства. Жыццё гэтага пласта ўзята на адным важным этапе яго развіцця. „У дваццатых гадах бягучага стагоддзя руская літаратура ад перайма льнасці ўзяла напрамак да самабытнасці: з'явіўся Пушкін. Ён любіў саслоўе, у якім амаль выключна выразіўся прагрэс рускага грамадства і да якога ён належаў сам, і ў Онегіне ён наважыўся паказаць нам унутранае жыццё гэтага саслоўя, а разам з ім і грамадства, як яно было ў узятую ім эпоху, г. зн. у дваццатых гадах бягучага стагоддзя. І тут нельга не падзівіцца шпаркасці, з якой рухаецца наперад рускае грамадства: мы глядзім на Онегіна, як на раман часу, ад якога мы ўжо далёкі. Ідэалы, матывы гэтага часу ўжо такія чужыя нам, так па-за ідэаламі і матывамі нашага часу. Герой нашага часу быў новым Онегіным: ледзь прайшло чатыры гады,—і Печорын ужо не сучасны ідэал. І вось у якім сэнсе, сказалі мы, што самыя недахопы Онегіна ёсць у той-жа час і яго найвялікшыя вартасці; гэтыя недахопы можна выказаць адным словам—„стара“, але хіба віна паэта, што ў Расіі ўсё рухаецца так шпарка? І хіба гэта не вялікая заслуга з боку паэта, што ён правільна ўмеў схапіць рэчаіснасць пэўнага мгнення ў жыцці грамадства? Калі-б у Онегіне нішто не здавалася цяпер устарэлым або адсталым ад нашага часу, гэта было-б яўнай адзнакай, што ў гэтай паэме няма ісціны, што ў ёй паказана не сапраўды існаваўшае, а ўяўляемае грамадства... у такім выпадку, што-ж бы гэта была за паэма, і ці варта было-б гаварыць пра яе?"**)

З выключным майстэрствам вырашыў Пушкін пастаўленую перад ім задачу. Але таму, што раман пісаўся на працягу 8-мі гадоў, вельмі насычаных грамадскімі і гістарычнымі падзеямі, на карцінах, вобразах, лірыцы яго сказалася вялізная эвалюцыя і самога паэта і той рэчаіснасці, якая адлюстравана ў творы. Мы ўжо адзначылі вялізную розніцу між першай і апошняй главамі. Яе выразна адчуваў паэт, які падмяшаў вады ў паэтычны бакал.

Глянем бегла на гэтую эвалюцыю паэта, яго рамана і рэчаіс-

---

*) *В. І. Ленін.* „О национальной гордости великороссов", Збор твораў т. XVIII, стар. 81—83.

**) *В. Г. Белінскі.* Поўны збор твораў, т. XII, стар. 89.

насці. Важнейшымі фактамі рэчаіснасці за гэтыя гады былі: наспяванне дзекабрысцкай змовы і паўстанне 14/XII 1825 г. Суд, кара, высылка дзекабрыстаў, разгул рэакцыі, вернападданніцкі настрой шырокіх дваранскіх колаў, ізаляцыя ўсіх інакшмыслячых, пагарда да іх. Хваляванні сялян у Расіі, польскае паўстанне 1830 г. і г. д. Пушкіна хвалявалі ўсе гэтыя падзеі, абвастралі яго пагляд, вымушалі шмат над чым задумацца, шмат што перавырашыць, пераадчуць нанава. Усё гэта не магло не адбіцца на рамане, які быў яго пастаянным спадарожнікам. Мянялася жыццё, мяняўся аўтар, эвалюцыянаваў яго раман. Першая глава мела за задачу—апісаць свецкае жыццё пецярбургскага маладога чалавека ў канцы 1819 г., яна і была выканана.

Другая глава з'явілася ў 1826 г. (каля 20 кастрычніка). На першую главу былі водгукі дзекабрыстаў Бестужэва, Рылеева (другая глава ўжо не застала Рылеева ў жывых, а Бестужэва ў Пецярбургу, яны ведалі пра яе толькі з вусных расказаў (ліст ад 12/V 1825 г., стар. 234).

Сам Пушкін быў у ссылцы ў Міхайлаўскім і не мог не адчуваць усяго цяжару жыцця, прынамсі ён пісаў Плетнёву (3 сакавіка 1826 г.): „Хай дазволяць мне пакінуць праклятае Міхайлаўскае... А ты харош! Пішаш мне: перапісвай, ды наймай пісцоў апоцкіх, ды выдавай *Онегіна.* Мне не да Онегіна. Чорт вазьмі Онегіна. Я сам сябе хачу выдаць або здаць у свет. Бацюхны, памажыце".

А 27 мая 1826 г. у лісце да Вяземскага паведамляў: „Маё глухое Міхайлаўскае наводзіць на мяне тугу і шаленства. У 4-й песні я паказаў сваё жыццё; калі-небудзь прачытаеш яе і спытаеш з мілаю усмешкай: дзе-ж мой паэт? У ім дараванне відаць.

Пачуеш, мілая, у адказ: ён уцёк у Парыж і ніколі ў праклятую Русь не вернецца! Вось дык вумніца!"

Такія былі аб'ектыўныя ўмовы і суб'ектыўныя настроі паэта. Ці магло гэта не адбіцца на рамане? З кожнай главой сталеў талент Пушкіна, для кожнай наступнай главы жыццё давала яму *новыя* матэрыялы, і *новыя* думкі і пачуцці адлюстраваў паэт. Усё гэта прыводзіць да вываду: задумаўшы паказаць свецкае жыццё маладога чалавека ў 1819 г., Пушкін у далейшым ускладніў гэтую задачу ў двух напрамках. Тып маладога чалавека—Еўгенія Онегіна, перацярпеў вялікую эвалюцыю і з „франта, які душой і целам адданы модзе" (выраз Бестужэва), вырас у глыбокага і сур'ёзнага героя, які стаіць на цэлую галаву вышэй за грамадства. З другога боку, раман не абмяжоўваецца толькі вобразам Онегіна, ён захоплівае ўсё жыццё, што яскрава выразіў Баратынскі ў лісце да Пушкіна ў 1828 г. „Выйшлі ў нас яшчэ дзве песні Онегіна. Кожны пра іх талкуе па-свойму: адны хваляць, другія лаюць, і ўсе чытаюць. Я вельмі люблю шырокі план твайго Онегіна, але шмат хто яго не разумеюць. Шукаюць раманічнай завязкі, шукаюць звычайнага і, разумеецца, не знаходзяць. Высокая *паэтычная* прастата *твайго* стварэння здаецца ім беднасцю вымыслу, яны не заўважаюць, *што старая і новая Расія, жыццё ва ўсіх яго зменах праходзіць перад іхнымі вачыма.* (Падкрэслена мною—*М. Д.*). Гэты шырокі

план, шырокі ахоп жыцця грамадства ёсць несумненная вартасць рамана, рэзультат узросшай складанасці грамадскага жыцця Расіі. Вядома, тут былі граніцы, якія ўзніклі не таму, што Пушкін суб'ектыўна быў абмежаваны, а ў сілу аб'ектыўных умоў, таму што вакол панавала рэакцыя. Тое што дзесятая глава рамана спалена—знамянальны факт. Урыўкі з дзесятай главы паказваюць, што шырыня жыццёвага ахопу, глыбіня паказу, рэалізм паказу жыцця дасяг у Пушкіна самых высокіх пунктаў, да якіх паднялося грамадскае развіццё Расіі таго часу. У святле гэтых падзей другую афарбоўку, ролю і значэнне набываў і сам герой рамана. Шлях Пушкіна да паказу дзекабрыстаў і паказ Онегіна ў гэтым асяроддзі вельмі добра паказвае нам эвалюцыю паэта, эвалюцыю і значэнне рамана, эвалюцыю яго героя. У святле гэтай-жа эвалюцыі яснейшым робіцца Онегін і ў першых главах, г. зн. яго шлях развіцця.

Онегін—станоўчы герой, як адзначыў М. Горкі, гэта герой нашага часу, мог-бы сказаць Пушкін. Найвялікшай вартасцю паэта, як мастака, з'яўляецца тое, што ён не ідэалізуе героя, не замоўчвае яго ценявых бакоў, а паказвае шлях яго развіцця, яго рост, як прадукта пэўнага асяроддзя і намячае пераход яго да людзей, якія марылі пра стварэнне новага жыцця. З геніяльнай праніклівасцю намеціў тут Пушкін шлях, па якім лепшыя прадстаўнікі дваранства пайшлі да рэволюцыйнай дэмакратыі, пайшлі ад свайго класа на больш перадавыя пазіцыі. Час гэты быў не за гарамі.

Такім чынам, асноўная ідэя рамана, як яна абазначылася ў працэсе стварэння твору, можа быць сфармулявана так: паказ унутранага жыцця дваранскага класа ў 20-х гадах XIX ст. у асобе яго лепшых прадстаўнікоў, якія сталі не толькі „лішнімі людзьмі“, але і „героямі свайго часу“.

## IV

Раман названы паводле імя галоўнага героя, але гэта зусім не значыць, што толькі вобраз Еўгенія Онегіна важны для разумення твору. Не, усе героі, усе карціны, усе лірычныя месцы важны і неабходны для раскрыцця сэнсу рамана. Бясспрэчна, аднак, што Онегін калі не галоўная, то адна з галоўных дзеючых асоб у рамане. Пачынаючы з паяўлення першай главы рамана ў 1825 г. і аж да нашых дзён ідзе абмеркаванне гэтага героя, не гледзячы на тое, што характар Еўгенія абрысаваны даволі выразна. Характар Онегіна з'яўляецца адлюстраваннем вялікасвецкага грамадства 20-х гадоў у яго эвалюцыі. Першая глава паказвае нам працэс выхавання і фармавання маладога чалавека. У гэтых карцінах нельга не бачыць суровага прысуду старому грамадству, якое выхоўвала грамадства маладое „по образу своему и подобию“. Якім-жа мог быць яшчэ Еўгені, атрымаўшы такое „цудоўнае“ выхаванне?

Он по-французски совершенно
Мог из'ясняться и писал;
Легко мазурку танцевал
И кланялся непринужденно.

Кола ведаў Онегіна выдатна і характэрна для таго часу акрэслена Пушкіным. Перад намі „ученый малый, но педант“. Ён ведае ўсяго патроху: латынь, крыху класічную літаратуру, хаця „не мог он ямба от хорея, как мы ни бились, отличить“, ведаў крыху гісторыі, хаця і ў анекдотах, чытаў работы па палітычнай эканоміі і г. д. Усяго гэтага было дастаткова для вялікасвецкага чалавека, які да таго-ж меў шчаслівы талент:

Без принужденья в разговоре
Коснуться до всего слегка,
С ученым видом знатока
Хранить молчанье в важном споре...

Гэтага было дастаткова таму, што грамадства не мела ніякіх глыбокіх запатрабаванняў і было занята тым, у чым Онегін таксама быў на вышыні.

Но в чем он истинный был гений,
Что знал он тверже всех наук,
Что было для него измлада
И труд, и мука, и отрада,
Что занимало целый день
Его тоскующую лень—
Была наука страсти нежной...

Без гэтага Еўгені не быў-бы свецкім львом, не мог-бы быць „сваім“ у вялікасвецкім грамадстве. На гэтай арэне раскрывалася яго натура. Онегін ведае пружыны чалавечага сэрца і скарыстоўвае гэта ў адносінах кахання.

Как рано мог он лицемерить,
Таить надежду, ревновать,
Разуверять, заставить верить,
Казаться мрачным, изнывать,
Являться гордым иль послушным,
Внимательным иль равнодушным.
Как томно был он молчалив,
Как пламенно красноречив,
В сердечных письмах как небрежен!
Одним дыша, одно любя,
Как он умел забыть себя!
Как взор его был быстр и нежен,
Стыдлив и дерзок, а порой
Блистал послушною слезой.

Усім гэтым Еўгені ўмеў карыстацца як сапраўдны віртуоз. Тэатры, балы, маскарады, святы былі той арэнай, дзе Онегін з вялікім уменнем мог паказаць сваё майстэрства, свае веды ў „науке страсти нежной“. З усім палам маладой натуры кінуўся восемнаццацігадовы Еўгені ў гэтае жыццё, якое толькі звонку здаецца цікавым, а на самай справе:

Однообразна и пестра,
И завтра то же, что вчера.

Калі-б Онегін скончыў гэтым, тады быў-бы праў Бестужэў, сцвярджаючы, што ён—чалавек, душой і целам адданы свецкаму жыццю.

Нет, рано чувства в нем остыли;
Ему наскучил света шум...
... И хоть он был повеса пылкий,
Но разлюбил он, наконец,
И брань и саблю и свинец.

Гэта ўжо пералом у настроі Онегіна. Поза гэта ці глыбокае незадавальненне светам? Тое незадавальненне, якое спараджае крытыку, адмаўленне і прыводзіць да барацьбы з грамадствам. Онегін страціў цікавасць да жыцця, усё яму было знаёма, вядома наперад, таму „ничто не трогало его, не замечал он ничего“. Што ён можа рабіць, што супроцьпаставіць пустому прабаўленню часу? Вось дзе трагедыя сказваецца з усёю сілай, вось дзе грамадства помсціць свайму адшчапенцу. Яно не дало яму той зброі, якой можна з ім змагацца, яно нічым не ўзброіла пратэстанта і ён у сваім адмаўленні стаіць перад грамадствам няўзброены. Вялікасвецкае грамадства не прывучыла Онегіна да працы.

Хотел писать, но труд упорный
Ему был тошен; ничего
Не вышло из пера его...

Працытаваўшы гэта месца, Д. І. Пісарэў пісаў: „бадзяцца на працягу некалькіх гадоў па рэстаранах і балетах, потым раптам, ні з таго ні з сяго, усесціся за пісьмовы стол і ўзяць пяро ў рукі з тым, каб зрабіцца пісьменнікам,—гэта фантазія па меншай меры вельмі дзіўная. Брацца за пяро пазяхаючы і ў той-жа час чакаць, што пяро напіша што-небудзь, хоць крыху вартае, гэта таксама нісколькі не дасціпна. Нарэшце, агіда Онегіна да ўпартай працы,—агіда, якую так адкрыта прызнаў Пушкін—складае сімптом вельмі сумны, па якім мы ўжо загадзя мелі права прадугадваць, што Онегін назаўсёды астанецца эмбрыёнам“ *).

Д. Пісарэў непраў ужо таму, што ён падыходзіць да Онегіна не з гістарычнага, а з фармальна-лагічнага пункту гледжання. Гістарычны падыход паказаў-бы Пісарэву, што Онегін не павінен быў назаўсёды астацца эмбрыёнам, што яго пошукі ўказваюць на жаданне выбрацца з таго кола, куды ён быў змешчаны сілаю акалічнасцей. Але сіла грамадства вялікая і Еўгенію не пераадолець яе. Грамадства выхавала Онегіна і прышчапіла яму пэўныя адносіны да свету. Яно не прышчапіла яму навыкаў упартай працы, не развіло ў ім волю, таму:

Читал, читал, а все без толку:
Там скука, там обман и бред;
В том совести, в том смыслу нет;
На всех различные вериги;
И устарела старина,
И старым бредит новизна.

*) *Д. І. Пісарэў*. Збор твораў, т. V, стар. 18.

Паўстаўшы супроць свету, Онегін не ведаў, што яму супроцьпаставіць, адсюль сум, туга, стомленасць жыццём, але не жыццём наогул, а жыццём пэўнага кола, пэўнага пласта „свету“. Онегін меў рэзкі, халодны розум, які зразумеў усю бессэнсоўнасць свецкага жыцця. Але аднаго розуму было мала, каб весці барацьбу, яго трэба было ўзброіць станоўчымі ведамі пра жыццё, і гэтага не было. Яму аставалася пагарджаць людзьмі, адчуваць усю бессэнсоўнасць жыцця і немагчымасць яму што-небудзь супроцьпаставіць.

Кто жил и мыслил, тот не может
В душе не презирать людей.

Для Онегіна-адшчапенца пачаўся новы шлях. Тут вось і ўзнікае пытанне аб тым, як далёка ў сваім пратэсце супроць рэчаіснасці пайшоў Онегін, якая яго праграма, якімі метадамі думаў ён змагацца з грамадствам. У Расіі 20-х гадоў XIX ст. для такіх пратэстантаў было некалькі шляхоў. Адзін з іх прывёў дваранскую моладзь на Сенатскую плошчу 14/XII 1825 г. У моладзі, якая пайшла па гэтаму шляху, была свая станоўчая праграма, праграма дзекабрызма. Але яна сфармавалася значна пазней таго часу, які апісваецца ў першай главе. Ва ўсякім выпадку, у першай главе рамана дадзен толькі выходны пункт адмаўлення, паказан пратэст і бяссілле што-небудзь супроцьпаставіць грамадству. Адна справа дайсці да думкі пра нікчэмнасць жыцця і яго бессэнсоўнасць, а другая справа даць станоўчую праграму жыцця.

Д. Пісарэў лічыў, што „дэманізм Онегіна таксама цалкам сядзіць у яго бумажніку. Як толькі бумажнік апусцее, дык Онегін адразу-ж пойдзе ў чыноўнікі або ператворыцца ў Фамусава... Такім чынам,—пісаў Пісарэў,—Онегін сумуе не таму, што не знаходзіць сабе разумнай дзейнасці, і не таму, што ён—вышэйшая натура, і не таму, што „вся тварь разумная скучает“, а проста таму, што ў яго ляжаць у кішэні вялікія грошы, якія даюць яму магчымасць многа есці, многа піць, многа займацца „наукой страсти нежной“ і корчыць усякія грымасы, якія ён толькі пажадае састроіць“*). Д. Пісарэў не мог і не хацеў зразумець таго, што матэрыяльная забяспечанасць Онегіна як двараніна абумоўлівала і характар яго дэманізма, але пытанне не столькі ў тым, як узнік гэты дэманізм, гэты пратэст, колькі ў тым, куды ён развіваўся. Онегін паехаў у вёску.

Грамадства і ў вёсцы помсціла Онегіну. Яго розум і пачуцці не былі падрыхтаваны да таго, каб жыць і працаваць у вёсцы, таму тут яго чакала таксама расчараванне.

Два дня ему казались новы
Уединенные поля,
Прохлада сумрачной дубровы,
Журчанье тихого ручья;
На третий—роща, холм и поле
Его не занимали боле;

*) *Д. Пісарэў.* Збор твораў, т. V, стар. 20, СПБ 1904 г.

Потом уж наводили сон;
Потом увидел ясно он,
Что и в деревне скука та же,
Хоть нет ни улиц, ни дворцов,
Ни карт, ни балов, ни стихов.

Такі Онегін-адшчапенец. І калі яму быў праціўны свет, горад, то ўжо нясцерпнымі былі людзі вёскі. Адпаведна сваім поглядам ён адносіўся да іх, чым выклікаў, вядома, нездавальненне і варожасць да сябе.

Чым мог жывіцца розум сярод людзей, якія развiжалі „про дождь, про лён, про скотный двор...“ Онегіну ўсё гэта было незразумела і нецікава, а рабіць што-нёбудзь, ды яшчэ перамагаючы перашкоды, ён не мог, да гэтага ён не быў прывучан. Онегін аказаўся „лішнім“ не толькі ў сваім коле, але ў грамадстве наогул. А гэта-ж была натура багатая, надораная ад прыроды шмат якімі каштоўнымі якасцямі. Онегін быў разумны, ведаў людзей, ведаў жыццё. Але яго розуму было дадзена няправільнае развіццё. Онегін уладаў вялікім пачуццём, ён быў благародны, праўдзівы, шчыры і г. д. Крытыка, разбіраючы гэты вобраз, звычайна ўказвала на халоднасць Онегіна ў адносінах да Тацьяны ў вёсцы. Онегін абышоўся з ёю шчыра і правільна. З усёй адкрытасцю ён сказаў Тацьяне тое, што адчуваў, як спрактыкаваны чалавек, які наперад прадбачыў усе вынікі магчымага саюза, як чалавек, які вельмі добра ведае свой характар і не хоча ўводзіць у зман ні сябе, ні Тацьяну. Онегін сказаў тое, што павінен быў-бы сказаць на яго месцы ўсякі благародны чалавек.

Поверьте (совесть в том порукой),
Супружество нам будет мукой.
Я, сколько ни любил бы вас,
Привыкнув, разлюблю тотчас;
Начнете плакать—ваши слезы
Не тронут сердца моего,
А будут лишь бесить его.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Что может быть на свете хуже
Семьи, где бедная жена
Грустит о недостойном муже,
И днем, и вечером одна;
Где скучный муж, ей цену зная
(Судьбу, однако ж, проклиная),
Всегда нахмурен, молчалив,
Сердит и холодно-ревнив!

Усё гэта характарызуе станоўчы вобраз Онегіна. Белінскі, несумненна, праў, сцвярджаючы, што „Онегін не быў ні халодны, ні сухі, ні чорствы, што ў душы яго жыла паэзія, і што наогул ён быў не з ліку звычайных, радавых людзей. Мімавольная аддаласць марам, чуллівасць і бяспечнасць пры назіранні прыгожасці прыроды і пры ўспамінах пра раманы і каханне былых гадоў: усё гэта гаворыць больш пра пачуццё і паэзію, чым пра халоднасць і сухасць“. Праўда, ён не ідэал, але несумненна станоўчы герой, чалавек, які ўладае вялікім запасам сіл, якія пры другіх умовах раскрыліся-б у станоўчых справах. Два моманты належыць разабраць падрабязна,

каб зразумець да канца гэты характар: 1) дуэль з Ленскім і 2) каханне Онегіна да Тацьяны пасля звароту з падарожжа.

Здавалася-б, што калі Онегін мае столькі станоўчых якасцей, калі ён любіў Ленскага, разумеў яго запал, то не павінен быў прымаць яго выкліка. Так, тут супярэчнасць, але яна зразумелая. Паўстаўшы супроць свету, Онегін не парваў з тымі формамі агульнажыцця, у якіх вырас. Перад самім сабой ён прызнаў сябе вінаватым перад Ленскім.

И поделом: в разборе строгом,
На тайный суд себя призвав,
Он обвинял себя во многом:
Во-первых, он уж был неправ,
Что над любовью робкой, нежной
Так подшутил вечор небрежно.
А во-вторых, пускай поэт
Дурачится; в осьмнадцать лет
Оно простительно. Евгений,
Всем сердцем юношу любя,
Был должен оказать себя
Не мячиком предрассуждений,
Не пылким мальчиком, бойцом,
Но мужем с честью и умом.
Он мог бы чувства обнаружить,
А не щетиниться как зверь;
Он должен был обезоружить
Младое сердце. Но теперь
Уж поздно"...

Але грамадская думка, пружына гонару, шэпт, смех аказаліся рашаючымі ў гэтым пытанні. Як-бы ні здаваліся на першы погляд няправільнымі паводзіны Онегіна, яны былі зусім згоднымі з жыццём, г. зн. былі рэальным адлюстраваннем. Мы ўжо адзначылі, што Онегіну не было чаго супроцьставіць сіле грамадскай думкі, свету. Што-ж мог зрабіць Еўгені? Як ён інакш мог адказаць на выклік Ленскага? Тут вінен не столькі Онегін, колькі сіла грамадства, традыцыя, грамадская думка, якою Онегін пагарджаў, але якой і падпарадкаваўся. Аднак, падкрэсліваючы гэтую супярэчнасць, мы павінны ўказаць на тое, што і тут Онегін выступае як чалавек выдатны, прызнаючы сябе вінаватым, ён толькі не знайшоў сілы зрабіць апошні крок—выступіць супроць грамадства ў гэтым пытанні. Грамадства і тут адпомсціла Онегіну, прымусіўшы яго забіць Ленскага, якога ён любіў, і зрабіць учынак супроць свае волі, пачуцця і думкі.

В тоске сердечных угрызений,
Рукою стиснув пистолет,
Глядит на Ленского Евгений.
„Ну, что-ж? убит!" решил сосед.
Убит! Сим страшным восклицаньем
Сражен, Онегин с содроганьем
Отходит и людей зовет...

Калі ўжо хто і вінават у смерці Ленскага, дык усё той-жа свет, грамадства, якое ўсё яшчэ трымала Онегіна ў сваіх цэпкіх лапах.

Само сабой разумеецца, што Пушкін мог даць і другі вынік дуэлі,

г. зн.—на дуэлі мог быць забіт не Ленскі, а Онегін, але мастак, паказаўшы нам крывавую развязку, падкрэсліў, што тут справа выпадку, а не наўмыснае забойства. Таму няпраў зноў Пісарэў, сцвярджаючы, што „Онегін астаецца нікчэмнейшым пашляком да самага канца свае гісторыі з Ленскім". Вядома, Онегін не герой, яму не пад сілу змагацца з грамадствам, але цікава ўжо тое, што ён уступіў на гэты шлях. „Ён любіў усе спакусы свету, але не свет". Зусім няправільна патрабаваць, каб у вобразе Онегіна было тое, чаго не было ў жыцці, такіх учынкаў, якіх не маглі рабіць людзі ў сілу сваёй гістарычнай абумоўленасці. Прыпомнім, што лепшыя людзі таго часу—дзекабрысты, не ўхіляліся ад дуэлі. А Онегін толькі яшчэ праз свае нездавальненне развіваўся ў бок дзекабрызма.

Адправіўшыся вандраваць, Онегін не знайшоў супакою, таго, чаго шукаў. У выпушчанай главе, дзе дадзена падарожжа Онегіна, з выключнай сілай перададзена туга Онегіна.

Питая горьки сожаленья,
Среди печальной их семьи,
Онегин взором сожаленья
Глядит на дымные струи
И мыслит, грустью отуманен:
Зачем я пулей в грудь не ранен?
Зачем не хилой я старик,
Как этот бедный откупщик?
Зачем как тульский заседатель
Я не лежу в параличе?
Зачем не чувствую в плече
Хоть ревматизма?—ах, создатель!
Я молод, жизнь во мне крепка;
Чего мне ждать? тоска, тоска!..

Ужо не сум, а туга, ад якой просты пераход да адмаўлення. У гэтай тузе трэба бачыць зародак таго нездавальнення навакольнай рэчаіснасцю, які пры пэўных грамадскіх умовах павінен быў перарасці ў соцыяльную барацьбу з навакольным жыццём.

Пісарэў рашуча адмовіў Онегіну ў наяўнасці розуму, пачуцця, у змястоўнасці яго натуры. „*Розум* яго нічым не ахалоджаны,—ён толькі зусім не кранутыі развіты. *Ігру страсцей* ён перажыў настолькі, наколькі гэта ігра ўваходзіць у „науку страсти нежной". Пра існаванне другіх, больш моцных страсцей,—страсцей накіраваных да ідэі, ён нават не мае ніякага ўяўлення, падобна таму, як не мае пра іх уяўлення пушкінскі Фауст. Жар свайго сэрца Онегін страціў на будуарныя сцэны і на маскарадныя прыгоды. Калі Онегін думае, што жыццё ціснс яго, дык ён думае чыстае глупства; каго жыццё сапраўды ціснс, той не паскача на паштовых па спадчыну ў вёску паміраючага дзядзькі. *Жыць*, на мове Онегіна, значыць гуляць па бульвары, абедаць у Тадона, ездзіць у тэатры і на балы. *Мысліць*—значыць крытыкаваць балеты Дзідло і называць месяц дурнем за тое, што ён вельмі круглы. Адчуваць—значыць зайздросціць хвалям, якія лажацца да ног пяшчотненькай барыні. *Хто жыў і мысліў* падобна Онегіну, *той*, разумеецца, *не можа не пагарджаць людзьмі*, якія жывуць менш раскошна і мысляць не так арыгінальна. *Хто*

*адчуваў*, падобна Онегіну, *таго*, разумеецца, *трывожыць прывід незваротных дзён*, г. зн. тых дзён, калі здаралася бачыць блізка ножкі, ланіты, персі і розныя іншыя падрабязнасці жаночага цела"*).

Пісарэў падышоў да Пушкіна і да Онегіна з поглядамі чалавека 60-х гадоў. Ён патрабаваў таго зместу ў думках, пачуццях, разуменнях, страсцях, жыцці, які быў магчымы ў 60-я, а не ў 20-я гады XIX ст. і пры тым не ў двараніна, а ў разначынца. Зразумела, што нічога гістарычна правільнага атрымацца не магло: перад такімі патрабаваннямі і Пушкін і Онегін аказаліся вялікасвецкімі пашлякамі. Ці трэба даводзіць незаконамернасць такога падыходу да пісьменніка. Ці трэба, пасля ўсяго намі сказанага, гаварыць пра тое, што якая-б ні была мысль Онегіна і яго нездавальненне светам, разлад з ім, яны мелі важнае значэнне і вынік, як зародак, каторы гістарычна павінен быў пературарыцца ў пратэст, у рэвалюцыйную барацьбу. Не трэба забываць, што грамадскай самасвядомасці ў Расіі 20-х гадоў не было, вопыту і навыку грамадскай барацьбы і палітычнага жыцця таксама не было і што дзекабрызм быў іменна пачынам у данай галіне жыцця. Шлях-жа Онегіна ішоў іменна ў гэты бок.

Онегін вярнуўся і закахаўся ў Таццяну. Якім-жа вярнуўся Онегін?

„Скажите, чем он возвратился?
Что нам представит он пока?
Чем ныне явится? Мельмотом,
Космополитом, патриотом,
Гарольдом, квакером, ханжой,
Иль маской щегольнет иной?
Иль просто будет добрый малый,
Как вы да я, как целый свет?
По крайней мере, мой совет:
Отстать от моды обветшалой.
Довольно он морочил свет..."
— Знаком он вам? — „И да и нет".

Онегін не растраціў сілы свайго пачуцця і розуму. Онегін пакахаў Таццяну. Чаму? Як расцаніць гэты момант? Белінскі праў, гаворачы, што ў каханні ёсць элемент непасрэднасці. „Калі-б выбар у каханні вырашаўся толькі воляй і розумам, тады каханне не было-б пачуццём і страсцю. Гэта правільна. Але правільна таксама і тое, што немалую ролю, у якасці прадпасылкі для чыста непасрэднага элемента, адыгрываюць воля і розум. Гэта справядліва, прынамсі, у адносінах да некаторых натур, а такой натурай і быў Еўгені Онегін. Занадта рознымі, далёкімі па паняццях, па вопыту, пачуццях, па адносінах да жыцця былі Онегін і Таццяна пры іх першым спатканні. Онегін стаяў вышэй і для Таццяны быў ідэалам. Не тое Таццяна для Онегіна. Праўда, апошні бачыў усе перавагі яе перад Ольгай, ён адразу зразумеў, што перад ім натура глыбокая, палкая, магутная, у якой каханне ператвараецца ў вялікую страсць. Але ён зразумеў, што ў гэтай натуры не хапае яго культуры. Вось чаму расчулены пісьмом Таццяны, ён „привычке милой

*) *Д. І. Пісарэў*. Збор твораў, т. V, стар. 21.

не дал ходу“. Цяпер адлегласць стала меншай, цяпер яны маглі гаварыць адной мовай. Як здарылася, што Таццяна „дагнала“ Онегіна, гэта пытанне асобае. Ва ўсякім выпадку розум Онегіна цяпер не мог знайсці відочныя даныя супроць і пачуццё магло вытрымаць іронію розуму. Онегін закахаўся моцна, але не атрымаў узаемнасці.

Куды-ж кінецца Онегін пасля адмоўнага адказу Таццяны? Калі-б не была спалена Х глава, то ўвесь сэнс рамана і яго герой паўсталі-б перад намі ў другім святле, пра што мы можам меркаваць па ўрыўках, якія асталіся. Гэтая глава пісана ў 1830 годзе. Яна захоплівае гісторыю патаемных таварыстваў і, відаць, паўстанне дзекабрыстаў. Дзе-ж месца Еўгенія Онегіна ў гэтым руху? Мабыць паэт хацеў паказаць законамернасць пераходу Еўгенія ў лагер тых, хто не толькі пратэставаў супроць грамадства, але і імкнуўся зрабіць пэўныя практычныя вывады. Я лічу, што сэнс Х главы трэба зразумець так, як тлумачыць Л. Бродскі *), тады адносіны Пушкіна да дзекабрыстаў у 30-х гадах будуць станоўчымі, тады і тып Еўгенія Онегіна атрымае сваю закончанасць. Ад расчаравання да нездавальнення, ад нездавальнення да пратэста і нездавальнення, ад пратэста да барацьбы. Онегін быў „лішнім“ у тым асяроддзі, якое яго выхавала, але ён быў лепшым чалавекам свайго часу. Ён не ідэал, але і не звычайны радавы чалавек, не пасрэднасць.

Еўгені Онегін з гэтага пункту гледжання з'яўляецца ў вышэйшай ступені тыповым абагульненнем. Праўда, паводле першых глаў рамана ў ім не знаходзілі сябе дзекабрысты, але не трэба забываць, што хоць к часу 14/XII 1825 г. былі напісаны тры главы рамана, у свет яны выйшлі пазней, так што дзекабрысты ведалі толькі адну главу. Уся далейшая работа над раманам праходзіла ў іншых умовах, якія стварыліся пасля падаўлення паўстання. Еўгені Онегін не быў дзекабрыстам, але Пушкін разлічваў весці яго ў гэты бок. Пачаў ён з абыякавасці да жыцця і да яго асалод, з дачаснай старасці душы і вёў гэты тып да рэальнага напаўнення пратэста соцыяльным зместам. Перад намі „разумны і зусім не адсталы“ рускі чалавек, які менавіта з прычыны сваей „душэўнай старасці“ з'яўляецца *няўдачнікам*, страціўшым і сэнс і смак жыцця“**). З'ява гэта была характэрная для рускага жыцця, для таго адукаванага пласта, якім было дваранства ў сваёй лепшай частцы. Онегін і ёсць выражэнне гэтай часткі. Даць тып дзекабрыста на тым этапе, г. зн. у час пісання першых глаў, справа для мастака была немагчымая з-за цэлага раду прычын, галоўнейшай з якіх быў факт яшчэ неўстанавіўшайся псіхалогіі гэтага тыпа. Але шлях да гэтага можна было прадбачыць і паэт яго паказаў.

„Онегіны і Печорыны—былі зусім шчырымі, выражаючы сапраўдны смутак аб разарванасці тагочаснага жыцця“...—пісаў пасля А. І. Герцэн. Ён праў, так павінна быць зразумета гістарычная функцыя Онегіна.

*) Гл. працу *Л. Н. Бродскі.* „Каментарый да Еўгенія Онегіна“. „Мир“, 1932 г., стар. 195—223.

**) *Д. Н. Овсяніка-Кулікоўскі.* „Гісторыя рускай інтэлігенцыі“, ч. 1, стар. 101, М. 1907 г.

Ён адшчапенец, „лішні чалавек“ пачынае сабою цэлую серыю тыпаў у рускай літаратуры. Печорын, Рудзін, Бельтаў, Агарын, Лаўрэцкі і г. д.—вось рознавіднасці аднаго і таго-ж тыпа „лішняга чалавека“. Але „лішнія людзі“, гэта на даным этапе лепшыя людзі свайго грамадства, гэта пратэстанты, барацьбіты супроць бяссэнсіцы, пустаты, бяззмястоўнасці жыцця свецкага грамадства і ў горадзе і ў вёсцы. Яны настроены апазіцыйна да грамадства і скептычна да людзей захопленых, не заўважаючых нікчэмнасці, пустаты, беззмястоўнасці жыцця. Для грамадства гэтыя „лішнія людзі“ небяспечныя дзівакі. Нават Тацьяна думае пра Онегіна:

Чудак печальный и опасный,
Созданье ада иль небес,
Сей ангел, сей надменный бес.
Что ж он? Ужели подражанье,
Ничтожный призрак, иль еще
Москвич в Гарольдовом плаще,
Чужих причуд истолкованье,
Слов модных полный лексикон?..
Уж не пародия ли он?

Але які-б плашч ні надзяваў Онегін, як-бы на пародыю не быў падобны, ён быў рускім тыпам, праўдзівым здымкам з рускай рэчаіснасці 20-х гадоў XIX ст. Ён быў „лішнім чалавекам“, лепшым чалавекам, героем свайго часу, выражаўшым смутак аб разарванасці тагочаснага жыцця. Гэта тып адшчапенца, які знаходзіцца ў апазіцыі да выхаваўшага яго асяроддзя, адмаўляе яго, вядзе з ім барацьбу, але ў той-жа час падаўлены ім, яго традыцыяй і бяссільны, не гледзячы на свае ўнутраныя сілы, нешта зрабіць. Адсюль расчараванасць, туга, мітусенне, дарэмныя пошукі. Гэтым тыпам Пушкін сказаў *новае слова* ў літаратуры. У ім ён адлюстраваў такі момант, які з'яўляўся асноўным для грамадскага развіцця Расіі. Вось чаму ўсе наступныя мастакі толькі развівалі гэты вобраз у новых формах, а з прычыны таго, што супярэчнасць рэчаіснасці, якая яго парадзіла, аставалася, то і законамернасць распрацоўкі вобраза не знікла. Таму Печорын, Бельтаў, Агарын, Рудзін, Лаўрэцкі і г. д., усе гэтыя вобразы лішніх людзей у дваранскай літаратуры паказваюць тую-ж супярэчнасць рускага жыцця, што і Онегін, але толькі на другім гістарычным этапе і ў іншай форме.

Лермантаў, Герцэн, Некрасаў, Тургенеў ішлі па шляху, вызначанаму Пушкіным у вобразе Еўгенія Онегіна. У гэтым вялізнае гістарычнае, пазнавальнае, псіхалагічнае значэнне, абагульняючая роля вобраза Онегіна.

## V

Тацьяна—тып рускай жанчыны. Са здзіўляючай праўдзівасцю, з глыбокім веданнем псіхалогіі жаночага пачуцця і мыслі стварыў гэты вобраз Пушкін. Па сваёй прыродзе гэта багатая, палкая натура, з вялікімі патрабаваннямі да жыцця, з глыбокімі, шчырымі парывамі. Істотны бок гэтай натуры складае пачуццё, тады як

аснову Онегіна складае розум, ахалоджаны, азлоблены. У карціне выхавання Онегіна Пушкін выказаў суровы прысуд свету, у паказе асяроддзя, якое выхоўвала Тацьяну, таксама дана знішчальная крытыка. І што цікава, крытыка тым мацней, адмаўленне тым бязлітасней, чым больш правільна, больш дакладна паэт адлюстраваў рэчаіснасць. Багатая па прыродзе натура аказалася ў нікчэмным, адураючым сваёй аднастайнасцю і пустатой асяроддзі, не здольным даць ніякай пажывы розуму і сэрцу. Вось чаму:

Она в семье своей родной
Казалась девочкой чужой.

Тацьяна не ведала жыцця, ды і пазнаць яго не было адкуль. Адзінай крыніцай яе уражанняў былі раманы, але гэта занадта ненадзейная крыніца. Грамадства нічога не магло даць такой натуры, але ўладу сваю яно праяўляе, калечачы і перарабляючы яе на свой лад. Там, дзе Тацьяна астаецца вернай пачуццю, дзе яна ў сваіх учынках кіруецца загадамі сэрца,—яна шчырая, мілая, у ёй шмат жаноцкасці і пяшчотнасці. Яе гутарка з няняй, яе баязлівае лятуценне, першыя парывы страсці, нарэшце, у рэзультаце цудоўнае пісьмо; усё гэта праўдзіва, ісцінна, проста, а таму паэтычна і вельмі прыгожа. Змест пісьма раскрывае нам усю натуру Тацьяны ў яе непасрэднасці, у яе імкненні падпарадкавацца загадам сэрца, самаму моцнаму боку яе натуры.

Вообрази: я здесь одна,
Никто меня не понимает,
Рассудок мой изнемогает,
И молча гибнуть я должна.
Я жду тебя...
Кончаю! страшно перечесть...
Стыдом и страхом замираю...
Но мне порукой ваша честь
И смело ей себя вверяю...

З пункту гледжання свету пісьмо Тацьяны, такі ўчынак рашуча і безумоўна асуджваўся, таму што грамадства было пустое, нікчэмнае, і зверхуданізу пранізана ўмоўнасцямі і маною. Пушкін вельмі добра гэта ведаў і, абараняючы Тацьяну, даў партрэт гэтых вялікасвецкіх дзівотніц, недаступных красунь, самалюбна-абыякавых дам, гэтых какетак, якія з абыякавасцю разважаюць, але ніколі не кахаюць шчыра, страсна, з усёй натурай. Тацьяна была іншай, яна кахала не на жарт.

За что ж виновнее Татьяна?
За то ль, что в милой простоте
Она не ведает обмана
И верит избранной мечте?
За то ль, что любит без искусства,
Послушная влеченью чувства,
Что так доверчива она,
Что от небес одарена
Воображением мятежным,
Умом и волею живой,
И своенравной головой,
И сердцем пламенным и нежным?
Ужели не простите ей
Вы легкомыслия страстей.

З пункту гледжання натуры Тацьяны ўсё гэта шчыра і правільна, а самае галоўнае сапраўды чалавечна, жаноцка. Пачуццё кахання іграла важнейшую ролю ў характары Тацьяны. У пачатку ім была запоўнена ўся яе істота. Вось чаму з'яўленне Онегіна было для яе новай старонкай у жыцці, новым светам пачуццяў, які яна прадчувала даўно.

Давно ее воображенье,
Сгорая негой и тоской
Алкало пищи роковой;
Давно сердечное томленье
Теснило ей младую грудь;
Душа ждала... кого-нибудь.
И дождалась. Открылись очи;
Она сказала: это он!

Усе ўчынкі, усе паводзіны Тацьяны праўдзівы з пункту гледжання яе натуры, як-бы адмоўна ні паставіўся да іх свет, як-бы ні асудзілі іх дзівотніцы вялікага свету. Але Тацьяна была таксама, як і Онегін, прадуктам грамадскага развіцця і апошняе ёй адпомсціла. Тацьяна таксама лічылася з думкай свету ў сваіх учынках, не падпарадкаваных загадам сэрца, а прадыктаваных халодным розумам. Выразней за ўсё гэта сказалася ў апошняй размове Тацьяны з Онегіным. Тацьяна не любіць той свет, у якім знаходзіцца, але яна законадаўца вечароў і строга захоўвае ўсе ўмоўныя правілы гэтага свету. Грамадства помсціць ёй і прымушае падпарадкавацца таму, што яна адмаўляе.

А мне, Онегин, пышность эта—
Постылой жизни мишура,
Мои успехи в вихре света,
Мой модный дом и вечера,—
Что в них? Сейчас отдать я рада
Всю эту ветошь маскарада,
Весь этот блеск, и шум, и чад,
За полку книг, за дикий сад,
За наше бедное жилище,
За те места, где в первый раз,
Онегин, видела я вас,
Да за смиренное кладбище,
Где нынче крест и тень ветвей
Над бедной нянею моей...
А счастье было так возможно,
Так близко!.. Но судьба моя
Уж решена. Неосторожно,
Быть может, поступила я:
Меня с слезами заклинаний
Молила мать; для бедной Тани
Все были жребии равны...
Я вышла замуж. Вы должны,
Я вас прошу меня оставить;
Я знаю: в вашем сердце есть
И гордость, и прямая честь.
Я вас люблю (к чему лукавить?)
Но я другому отдана;
Я буду век ему верна.

Тут Тацьяна гаворыць і робіць не тое, што адчувае, а тое, што дыктуе ёй свет. Тут яна раб умоўнасцей, таму робіць

наўпярок сваёй натуры. Але і гэта было характэрна для рускай жанчыны. Пушкін і тут праўдзівы ў вышэйшай ступені. „Вось сапраўдная гордасць жаночай дабрачыннасці! „Но я другому *отдана*“ — іменна „*отдана*“, а не „отдалась“! Вечная вернасць—*каму і ў чым*? Вернасць такім адносінам, якія складаюць прафанацыю пачуцця і чыстаты жаноцкасці, таму што некаторыя адносіны, неавеяныя каханнем, у вышэйшай ступені амаральныя!“ Так пісаў нeістаўны Вісарыён. Яго абурыла падпарадкаванасць свету, супярэчнасць, але Пушкін быў праў, раскрываючы вобраз Таццяны так, ён падкрэсліў яе глыбокую нраўственасць. Таццяна астаецца цэльнай натурай са сваёй супярэчнасцю паміж сэрцам і розумам, паміж пачуццём і розумам, паміж пагарджаннем светам і падпарадкаванасцю яго правілам. Гэта вельмі тыпова для рускай жанчыны XIX ст. Пушкін і тут адзначыў такую рысу, якая пасля стала важнейшай пружынай у рускім жаночым характары. Ад вобраза Таццяны ідуць лініі развіцця ў літаратуры XIX ст.

Такім чынам Таццяна як і Онегін паводле сваіх задаткаў натура не радавая і там, дзе яна выступае ў сваёй непасрэднасці—цудоўная; там-жа, дзе яе ўчынкі падпарадкаваны свету, яна супярэчлівая, але і ў супярэчлівасці цэльная.

Д. Пісарэў, адкідаючы погляд Белінскага на Таццяну, сцвярджаў, што сутнасць пытання зводзіцца да таго: „ці павінна і ці можа разумная дзяўчына ўкахацца ў мужчыну з першага погляду“. Пісарэў адмаўляе Таццяне ў розуме, рэзультатам чаго тлумачыцца „раптоўны ўзрыў пяшчотнасці, які праявіўся ў пісанні сумазброднага пісьма“. Памылка Д. Пісарэва ў тым, што на каханне ён глядзіць не як на пачуццё, страсць, а як на лагічнае практыкаванне на заданую тэму. Калі прыпомніць яшчэ негістарычнасць падыходу Пісарэва, тады памылка яго стане яшчэ яснейшай. Форма кахання Таццяны, характар і змест вызначаліся і яе натурай і ўмовамі часу. Але Пісарэў мяркуе, што Пушкін наогул не здольны стварыць тып узорнай жонкі і найлепшай маткі, бо ён паэт, які глядзеў на жанчыну „з пункту гледжання яе мілавіднасці“.

Наўрад ці трэба абвяргаць такі погляд на паэта, ён занадта безгрунтоўны. Мы возьмем другое пытанне, што датычыць эвалюцыі Таццяны. Спачатку ў артыкуле „З аналізаў „Онегіна“, а пасля—„На шляху да пагібелі“ Н.К. Піксанаў сцвярджаў: „З даследчыкаў Пушкіна ніхто і ніколі не ўстанаўліваў і нават не заўважыў, што новы паварот у жыцці, у ідэалогіі і ў соцыяльным самаадчуванні Пушкіна адлюстроўваўся на кампанаванні рамана і перш за ўсё на вобразе Таццяны. З Масквы Пушкін пераносіць месца дзеі „Онегіна“ у Пецярбург, з сярэдне-дваранскіх колаў—у прыдворныя сферы“*).

Няма ніякага сумнення ў тым, што эвалюцыя самога Пушкіна адлюстравалася на яго рамане і асобных вобразах, але нельга так прасталінейна звязваць асобныя факты біяграфіі паэта з яго раманам. Піксанаў не бачыць той розніцы, якая існуе паміж паэтычным вобразам, як адлюстраваннем пэўнай рэчаіснасці, і вобразам

*) *Н. Піксанаў*. „Пра класікаў“. М. 1933 г. стар. 24.

як выражэннем суб'ектыўных імкненняў паэта. Вышэйшым ідэалам мастацкасці з'яўляецца спалучэнне гэтых двух момантаў: аб'ектыўнага адлюстравання і суб'ектыўнага выражэння, спалучэнне, у якім раскрываецца шматгучная рэальная сапраўднасць і пафас мастака. Піксанаў-жа мяркуе, што ў паэтычным вобразе ёсць толькі суб'ектыўны момант, адсюль усе грахі вульгарнага соцыялагізма. Ён піша: „такім чынам, два ад сілы амаль што гады аддзяляюць выхаванку захалуснай мелкапаместнай сядзібы ад царыцы неўскіх берагоў. Ці магла так хутка і наогул ці магла бедная, неадукаваная павятовая паненка ператварыцца ў законадаўцу мод? Пра што магла яна „с послом испанским говорить". Такое пераўтварэнне няпраўдападобна, неверагодна"*). Чаму неверагодна? Хіба гэты працэс патрабуе дзесяткаў гадоў? Хіба ў жыцці, у рэчаіснасці не магло быць нічога падобнага? Няўжо для таго, каб гаварыць з іспанскім паслом, яна павінна была мець спецыяльную падрыхтоўку? Або ўсе астатнія дамы былі разумнейшыя, культурнейшыя, лепш выхаваныя за Таццяну? Даследчык указвае на тое, што яна на рауце гаварыла з паслом, што ў яе на вечары:

Был посланник, говоривший
О государственных делах,

што яе выхад падобен на высачайшы царскі выхад, што ў яе бліскучы модны салон, дзе бывае „цвет столицы, и знать, и моды образцы" і члены дыпламатычнага корпуса. Але даследчык не звярнуў увагі на склад салона, на характар гэтых гасцей, а яны Пушкіным паказаны сатырычна. Калі-б гэты свет вызначаўся асаблівай глыбінёй розуму і пачуцця, глыбінёй зместу сваіх гутарак, тады магла-б існаваць гаворка пра неверагоднасць у эвалюцыі Таццяны. Але-ж па сваёй натуры Таццяна была вышэй за гэты свет, а знешні лоск, знешні блеск, калі ўжо на тое пайшло, можна было набыць і за два-тры гады.

... Она сидела у стола
С блестящей Ниною Воронской,
Сей Клеопатрою Невы:
И верно-б согласились вы,
Что Нина мраморной красою
Затмить соседку не могла,
Хоть ослепительна была.

Памылка Піксанава ў тым і заключаецца, што вобраз Таццяны ён разглядае не як адлюстраванне аб'ектыўнай рэчаіснасці, а як суб'ектыўнае выражэнне імкненняў Пушкіна ўвайсці ў свет старой феадальнай арыстакратыі, тады як на самай справе паэт паказаў гэты свет у рэзка адмоўным выглядзе. У першым выпадку эвалюцыя Таццяны хаця нематываваная можа быць лёгка зразумета (пра што ніжэй), у другім—яна здаецца неверагоднай і няпраўдападобнай. З пункту гледжання глыбіні паэтычнага абагульнення і ахопу аб'ектыўнай рэчаіснасці тут усё на месцы, псіхалагічна ўсё законамерна і абгрунтавана.

*) *Н. К. Піксанаў.* „Пра класікаў", стар. 28.

## VI

Калі Онегін і Тацьяна маюць шмат агульнага, калі яны вышэй звычайнага ўзроўня, то Ольга і Ленскі—тыпы самых нармальных абыдзенных людзей, якія створаны „по образу и подобию“ асяроддзя, якое іх выхавала.

Ленскі—рамантык, лятуценнік, ідэаліст, які не бачыць і не ведае людзей. Ён не разумее рэальнага жыцця і яго патрабаванняў, ён увесь у лятуценнях, у фантазіі. Ён не глыбокі, і ружовыя акуляры перашкаджаюць яму разгледзець людзей і адрозніць аднаго ад другога. Лепшай характарыстыкай для яго з'яўляюцца словы Онегіна.

„Скажи, которая Татьяна?“
— Да та, которая грустна
И молчалива как Светлана,
Вошла и села у окна. —
„Неужто ты влюблен в меньшую?“
— А что?—„Я выбрал бы другую.
Когда б я был как ты поэт.
В чертах у Ольги жизни нет,
Точь точь в Вандиковой Мадонне!
Кругла, красна лицом она,
Как эта глупая луна
На этом глупом небосклоне“.

Але Ленскі выбраў Ольгу, бо і сам ён быў радавым чалавекам і яна таксама. Ні глыбокіх пачуццяў, ні думак не было ў гэтых герояў. Жыццё для іх цякло спакойна і проста, без вялікіх патрасенняў і бур. Пра пачуццё Ольгі гаварыць не прыходзіцца, яна хутка суцешылася пасля смерці Ленскага і вышла замуж за улана. Пачуццё Ленскага вабіць чытача сваёй шчырасцю і цеплынёй. Не ведаючы людзей, Ленскі робіцца ахвярай сваёй слепаты і страсці. Паэт паказвае нам гэтага маладога лятуценніка ў будучым такімі рысамі:

А может быть и то: поэта
Обыкновенный ждал удел.
Прошли бы юношества лета,
В нем пыл души бы охладел.
Во многом он бы изменился,
Расстался б с музами, женился;
В деревне, счастлив и рогат,
Носил бы стеганый халат;
Узнал бы жизнь на самом деле,
Подагру б в сорок лет имел,
Пил, ел, скучал, толстел, хирел,
И наконец в своей постели
Скончался б посреди детей,
Плаксивых баб и лекарей.

Гэта найбольш верагодны шлях Ленскага, для яго верным сябрам на гэтым шляху была-б Ольга, якая цалкам паўтарыла-б жыццё свае матухны Ларынай. Але Ленскі падан як рамантык поўны надзеі, славы, кахання, імкненняў, кіпення сіл. Вядома, гэтымі бакамі сваёй натуры ён выклікае ў чытача шчырую сімпатыю і любоў. Пра Ленскага трэба сказаць словамі Некрасава:

„Хорошо умереть молодым“. Пушкін нікалькі не пакрывіў душой, паказваючы так рамантычна настроенага героя, такія ў жыцці былі. Ленскі такі-ж рэальны герой, як і Еўгені Онегін, але толькі „с душою прямо геттингенской“. Ён такі-ж прадукт рэальных умоў, як і Еўгені, і Пушкін быў у гэтым вобразе таксама верны рэчаіснасці. Адносіны паэта да Ленскага такія-ж, як паказаны адносіны да яго Онегіна.

Он слушал Ленского с улыбкой:
Поэта пылкий разговор,
И ум еще в сужденьях зыбкой,
И вечно вдохновенный взор—
Онегину все было ново;
Он охладительное слово
В устах старался удержать,
И думал: глупо мне мешать
Его минутному блаженству:
И без меня пора придет;
Пускай покамест он живет
Да верит мира совершенству;
Простим горячке юных лет
И юный жар, и юный бред.

Скептычныя адносіны, адносіны старэйшага да малодшага, спрактыкаванага да пачынаючага жыць. Сам Еўгені к гэтаму часу быў ужо расчараваны ў тым, чым быў заварожан Ленскі, ведаў сапраўдную цану кахання, дружбы, славы, людзей, у якіх верыў Ленскі. Пушкін паказаў яго стан у такім выглядзе:

С ним подружился я в то время.
Мне нравились его черты,
Мечтам невольная преданность,
Неподражательная странность
И резкий, охлажденный ум.
Я был озлоблен, он угрюм;
Страстей игру мы знали оба:
Томила жизнь обоих нас;
В обоих сердца жар погас;
Обоих ожидала злоба
Слепой фортуны и людей
На самом утре наших дней.

Лёгка заўважыць, што адносіны паэта да Онегіна іншыя, як да Ленскага. Гэта і зразумела. Онегін натура больш глыбокая, не радавая, тады як Ленскі самы звычайны чалавек, які толькі яшчэ не перабрадзіў, не вычарпаў свае лятункі. Але шлях яго і Ольгі ясны. Нарысаваўшы два гэтыя вобразы, Пушкін адлюстраваў другую частку моладзі, іменна тую, якая „адлятае“ ад жыцця ў маладосці і, пакінуўшы свае лятуценні, ідзе па старой пратоптанай дарозе крыху пазней. На фоне вялікасвецкага грамадства, на фоне павятовага дваранскага грамадства, у супроцьстаўленні маладому пакаленню тыпа Ольгі і Ленскага ярчэй, паўней, цікавей выступаюць вобразы лепшай часткі маладога пакалення ў асобе Онегіна і Тацьяны.

## VII

У маі 1825 г. Каценін пісаў Пушкіну: „Апроч цудоўных вершаў я знайшоў тут цябе самога, тваю гутарку, тваю вясёласць...“ Асоба Пушкіна, што адзначыў Белінскі, сапраўды поўна адлюстравана ў рамане. Лірычныя месцы—цудоўная частка рамана. Разам са зменай рэчаіснасці мяняўся паэт, эвалюцыянавалі яго героі, мяняўся тон лірычных адступленняў. У першай главе гэта вясёлы, жартлівы смех, задуменная іронія над грамадствам, якое калечыла Онегіна, нарэшце над самім героем, вышаўшым з вялікасвецкай майстэрні. Але вось сур'ёзныя разважанні:

Увы, на разные забавы,
Я много жизни загубил!

Пагарда да вялікага свету, які калечыць людзей, выразна праступае ў Пушкіна ў яго карцінах і лірычных адступленнях. У гэтых адносінах раман вытрыманы ад пачатку да канца. Гэта тым лягчэй было Пушкіну, што ўся задача зводзілася да вернасці рэчаіснасці.

Причудницы большого света!
Всех прежде вас оставил он.

—піша Пушкін у першай главе рамана, а пасля гэтыя-ж думкі развівае ў главе трэцяй, чацвертай і г. д. У сакавіку 1825 года у пісьме да А. Бестужэва Пушкін пісаў: „Тваё пісьмо вельмі разумнае, але ўсё-ткі ты не праў; усё-ткі ты глядзіш на *Онегіна* не з таго пункту; усё-ткі ён лепшы твор мой. Ты параўноўваеш першую главу з Дон-Жуанам. Ніхто болей за мяне не паважае Дон-Жуана (першыя 5 песень—другіх не чытаў), але ў ім нічога агульнага з Онегіным. Ты гаворыш пра сатыру англічаніна Байрана, параўноўваеш яе з маёю і патрабуеш ад мяне такой-жа.—Не, мая душа, многа хочаш. Дзе ў мяне сатыра? Пра яе і паміну няма у Еўгеніі Онегіным. *У мяне-б затрашчэла набережная, калі-б дакрануўся я сатыры*. Само слова сатырычны не павінна-б быць у прадмове. Дачакайся другіх песень. Ах, каб заманіць цябе ў Міхайлаўскае!.. Ты ўбачыш, што калі ўжо і параўноўваць Онегіна з Дон-Жуанам, дык хіба ў адным апісанні: хто мілей і прыгажэй—Тацьяна ці Юлія? Першая песня—проста хутка ўводзіць, і я ім задаволены (што вельмі рэдка са мной здараецца). Гэтым заключаю палеміку нашу“.

І ўсё-ж адмаўленне грамадства ў наяўнасці. Асабліва гэта раскрываецца ў лірычных адступленнях аўтара. Грамадства ў цэлым, яго звычаі, пустата, нікчэмнасць, уся сістэма ўзаемаадносін паміж людзьмі, каханне і дружба, ворагі і сябры, знаёмыя і родныя паказаны надзвычай правільна, а разам з тым і адмоўна.

Врагов имеет в мире всяк,
Но от друзей избавь нас, боже!
Уж эти мне друзья, друзья!
Об них недаром вспомнил я.
А что? Да так. Я усыпляю
Пустые, черные мечты.
. . . . . . . . . . . . . . .

Гм! Гм! Читатель благородной,
Здорова ль ваша вся родня?
Позвольте, может быть, угодно
Теперь узнать вам от меня,
Что значит именно родные.

Нават там, дзе паэт дае партрэт Ольгі, ён іранічна заўважае:

... но любой роман
Возьмите и найдете верно
Ее портрет, он очень мил,
Я прежде сам его любил,
Но надоел он мне безмерно.

У лірычных адступленнях выказана шмат глыбокіх думак і выразна выказаны адносіны аўтара да герояў рамана. Пушкін разумеў значэнне расчараванасці, адчужанасці ад свайго асяроддзя, супярэчнасці з ім і прывязанасці да форм яго агульнажыцця. Усёроўна, каго гэта датычыцца, Онегіна ці Тацьяны. Ён ведаў, што згоднасць з асяроддзем, непасрэдныя, безразважлівыя да яго адносіны і прынцыпе—крыніца добрага жыцця, зарука шчасця. Паэт іранічна асмяяў гэты другі шлях і гэта шчасце, супроцьстаўляючы яго першаму шляху.

... Стократ блажен, кто предан вере,
Кто хладный ум угомонив,
Покоится в сердечной неге,
Как пьяный путник на ночлеге,
Или нежней, как мотылек,
В весенний впившийся цветок;
Но жалок тот, кто все предвидит,
Чья не кружится голова,
Кто все движенья, все слова
В их переводе ненавидит,
Чье сердце опыт остудил
И забываться запретил.

Пасрэднасць і нікчэмнасць заўсёды былі шчаслівы і задаволены. У іх няма ворагаў і сяброў, у іх усё к часу і да месца. У іх няма сумненняў, унутранай барацьбы, трывог, шуканняў. ну словам:

Блажен, кто смолоду был молод,
Блажен, кто во время созрел,
Кто постепенно жизни холод
С летами вытерпеть успел,
Кто странным снам не предавался,
Кто черни светской не чуждался,
Кто в двадцать лет был франт иль фат,
А в тридцать выгодно женат,
Кто в пятьдесят освободился
От частных и других долгов,
Кто славы, денег и чинов
Спокойно в очередь добился,
О ком твердили целый век:
NN прекрасный человек.

Не такі Онегін, не такая Тацьяна, але такое ўсё грамадства і ў вёсцы і ў Пецярбургу.

Лірычныя месцы ў IX главе (Падарожжа Онегіна) і асабліва ўрыўкі з спаленай Х главы праліваюць яркае святло на ўвесь раман, на яго герояў, дапамагаюць глыбей зразумець ролю і значэнне асобных карцін, асобных лірычных месц у рамане. Урыўкі Х главы паказваюць нам новыя бакі рэчаіснасці, якую Пушкін пакінуў у баку ў папярэдніх главах рамана. Гэта рух сярод моладзі, які выліўся ў палітычны замысел дзекабрыстаў. Рост рэволюцыйных настрояў у іх паступовым развіцці і паданы Пушкіным у Х главе. Але з прычыны таго, што працэс працяглы, які ва ўсякім выпадку захоплівае той час, што ўжо вядомы чытачу з жыцця Онегіна, а ён „дожил без цели, без трудов до двадцати шести годов“ (18 гадоў у 1819 г. і 26 гадоў у 1827 г.), то паэт павінен быў даць нанава карціну росту рэволюцыйных і апазіцыйных настрояў. У восьмай главе (9), заканчваючы раман, Пушкін зазначыў пра дзекабрыстаў:

Но те, которым в дружной встрече
Я строфы первые читал...
Иных уж нет, а те далече,
Как Сади некогда сказал.
Без них Онегин дорисован.

Зварот да тых, якія далёка, да дзекабрыстаў, вельмі знамянальны для Пушкіна. Еўгені Онегін на думку Пушкіна павінен быў ад сваёй расчараванасці, ад свайго адмаўлення перайсці да станоўчых сцверджанняў, да праграмы дзекабрыстаў. Тут павінен быў гэты дзівак знайсці сваё месца ў жыцці, тут павінны былі атрымаць прымяненне яго розум і пачуццё і з „лішняга чалавека“ ён павінен быў стаць нарэшце чалавекам неабходным, патрэбным у гістарычным развіцці.

Лірычныя месцы менш за ўсё раскрываюць іменна гэта імкненне паэта, бо ў іх-жа найбольш ярка паказан шлях самога паэта, яго погляды, яго думкі і пачуцці, яго адносіны да самых складаных пытанняў сучаснасці. На іх лягчэй за ўсё бачыць эвалюцыю самога Пушкіна і зменлівыя яго адносіны да рэчаіснасці.

## VIII

Апроч вобразаў-персанажаў, апроч лірычных месцаў, арганічнай часткай рамана з'яўляюцца карціны прыроды, карціны быту. Найвялікшы майстра даў цудоўныя пейзажы, карціны рускай прыроды. Пушкін цудоўна рысуе горад, гарадскі пейзаж. Вось абуджаецца Пецярбург:

А Пецербург неугомонный
Уж барабаном пробужден,
Встает купец, идет разносчик,
На биржу тянется извозчик,
С кувшином охтянка спешит,
Под ней снег утренний хрустит...

Уся дзевятая глава (8) становіць сабою рад цудоўных карцін гарадскога пейзажа: Ніжні-Ноўгарад, Астрахань, Одэса...

Не менш цудоўныя карціны прыроды, якія ў якасці самастойных кавалкаў увайшлі ў хрэстаматыі і знаёмы ўсім з маленства. Восень, зіма і вясна аднолькава харошыя ў Пушкіна. Адрозніваючай рысай яго пейзажа з'яўляецца вернасць рускай рэчаіснасці, здзіўляючая прастата і арганічная злітнасць са з'явамі рускага жыцця.

Карціны быту з'яўляюцца неабходнай часткай рамана, яны рысуюць абстаноўку, у якой дзейнічаюць героі. Для дваранскага грамадства 20-х гадоў бал і тэатр былі тымі месцамі, дзе яно выяўлялася найбольш поўна. Паэт даў нам карціны таго і другога. Але не абмежаваўся толькі месцамі ўвесяленняў, а зарысаваў таксама і карціны хатняга быту. Усім памятны „уединенный кабинет“ Онегіна, моднага восемнаццацігадовага філосафа ў Пецярбургу.

Где мод воспитанник примерный
Одет, раздет и вновь одет.
. . . . . . . . . . . . .
Янтарь на трубках Цареграда,
Фарфор и бронза на столе,
И чувств изнеженных отрада,
Духи в граненом хрустале;
Гребенки, пилочки стальные,
Прямые ножницы, кривые,
И щетки тридцати родов—
И для ногтей и для зубов...

Такім-жа чынам, але з другім густам, адпавядаючым новаму настрою Онегіна і яго вясковаму жыццю, паказан габінет яго ў вёсцы:

Все было просто: пол дубовый,
Два шкафа, стол, диван пуховый,—
Нигде ни пятнышка чернил.
Онегин шкафы отворил:
В одном нашел тетрадь расхода,
В другом наливок целый строй,
Кувшины с яблочной водой
И календарь осьмого года.

Калі-б мы мелі толькі гэтыя карціны, то і тады маглі-б меркаваць пра рэзкую перамену ў настроі Онегіна, бо тут карціны быту дарысоўваюць характар героя. Дзве карціны: бал у Пецярбургу і бал у вёсцы выразна паказваюць і грамадства таго часу і адносіны да яго Пушкіна.

С утра дом Лариных гостями
Весь полон: целыми семьями
Соседи с'ехались в возках,
В кибитках, в бричках, и в санях.
В передней толкотня, тревога;
В гостиной встреча новых лиц;
Лай мосек, чмоканье девиц,
Шум, хохот, давка у порога,
Поклоны, шарканье гостей,
Кормилиц крик и плач детей.
С своей супругою дородной
Приехал толстый Пустяков;

Гвоздин, хозяин превосходный,
Владелец нищих мужиков;
Скотинины—чета седая,
С детьми всех возрастов, считая
От тридцати до двух годов;
Уездный франтик Петушков;
Мой брат двоюродный, Буянов,
В пуху, в картузе с козырьком
(Как вам, конечно, он знаком),
И отставной советник Флянов.
Тяжелый сплетник, старый плут,
Обжора, взяточник и шут.

Такі вясковы бал, а вось Масква.

Ее привозят и в Собранье,
Там теснота, волненье, жар,
Музыки грохот, свеч блистанье,
Мельканье, вихорь быстрых пар,
Красавиц легкие уборы,
Невест обширный полукруг
Все чувства поражают вдруг.
Здесь кажут франты записные
Свое нахальство, свой жилет
И невнимательный лорнет.
Сюда гусары отпускные
Спешат явиться, прогреметь,
Блеснуть, пленить и улететь.

Цікава адзначыць прыём, якім пабудаваны карціны. Эканомія сродкаў і прастата прымусілі Пушкіна ўжыць прыём простага пералічэння і ад гэтага апісанне толькі выйграла. Падобныя карціны ў канцэнтраваным выглядзе даюць быт „свету“ ў Маскве, Пецярбургу і дваранскі быт у вёсцы.

## IX

Вобразы-персанажы, лірычныя месцы, карціны быту, вобразы-пейзажы зведзены ў адно арганічнае цэлае, ствараюць раман, як арганічнае адзінства, як асаблівы мастацкі замкнуты ў сабе свет. У ім адлюстравалася тагочаснае грамадства ва ўсёй яго паўнаце, у ім выступіла асоба Пушкіна з усёй сваёй шматграннасцю думак і пачуццяў.

Эвалюцыя паэта сказалася і на кампазіцыі рамана, на яго цэльнасці і стройнасці.

Сувязь вобразаў-персанажаў развіта з надзвычайнай натуральнасцю і прастатой. Онегін едзе ў вёску хаваць старога дзядзьку і астаецца там. Ва ўмовах вясковага жыцця тагочаснай Расіі ўсе суседзі былі знаёмыя і ездзілі адны да другіх. Так часта збіраліся госці-суседзі ў доме Ларыных.

Под вечер иногда сходилась
Соседей добрая семья,
Нецеремонные друзья
И потужить, и позлословить,
И посмеяться кой о чем.

Гутарка іх звычайная:

О сенокосе, о вине,
О псарне, о своей родне,
Конечно, не блистал ни чувством
Ни поэтическим огнем,
Ни остротою, ни умом,
Ни общежития искусством;
Но разговор их милых жен
Гораздо меньше был умен.

З'яўленне Онегіна ў вёсцы было сустрэта спачатку добра, але з прычыны таго, што ён ухіляўся сустрэч, то ўсе пакінулі яго. Перамена месца, абставін, умоў, знаёмстваў як нельга больш адпавядала новаму стану Онегіна. Нельга ў гэтым пункце не бачыць вопытнай рукі мастака, які, паказаўшы разрыў героя з асяроддзем, яго расчараванасць і няўменне вырашыць узнікшую жыццёвую задачу, змяшчае яго ў новыя ўмовы. Але жывучы ў грамадстве нельга ўцячы ад грамадства і яго правіл. Онегін знаёміцца з Ленскім:

Они сошлись: волна и камень,
Стихи и проза, лед и пламень,
Не столь различны меж собой.
Сперва взаимной разнотой
Они друг другу были скучны,
Потом понравились...

Знаёмства гэта дапамагае чытачу глыбей зразумець рэалістычны характар Онегіна ў супастаўленні з рамантыкам Ленскім. Лірычная заўвага аўтара пра дружбу наогул („Мы почитаем всех нулями, а единицами себя“) толькі адцяняе станоўчыя якасці Онегіна, Ленскі—свой у сям'і Ларыных—уводзіць туды Онегіна. Тут пачатак адразу некалькіх ніцей у развіцці рамана: 1) каханне Тацьяны, 2) магчымасць суперніцтва і магчымасць дуэлі. Пушкін натуральна і проста развівае дзеянне, станоўча вырашаючы першую магчымасць, бо Тацьяна толькі і чакала каго-небудзь, яе пачуццё было гатова, сагрэта раманамі і марамі ў адзіноце. Тут такое простае і натуральнае яе каханне іменна да Онегіна, а не да Петушкова, не да Буянава або яшчэ каго-небудзь. Іменна ён павінен быў быць тым, каго цьмяна чакала разгарачанае выабражэнне. І пісьмо Тацьяны і размова аб каханні з ёю Онегіна, усё гэта развіваецца як расліна з зярна, усё гэта абумоўлена характарам псіхалогіі пачуцця ў Тацьяны, псіхалогіяй думкі ў Еўгенія, затворніцкім жыццём Тацьяны і свецкім жыццём Еўгенія, іх сустрэчай у вёсцы. Таксама проста, натуральна развіваецца раман Ленскага з Ольгай, у якіх непасрэднасць адносін да жыцця наперад акрэсліла ўвесь іх далейшы шлях. У характары Ленскага, у яго непасрэднасці, палкасці і была закладзена магчымасць выкліку на дуэль і смерць. Аўтар і чытач не асуджаюць Ленскага за тое, што ён выклікаў на дуэль Онегіна, логіка развіцця тут простая і ясная, яна закладзена ў натуры Ленскага, які спачатку пагарачыўся (так і павінна быць), не прадумаў гэтага (хоць вельмі добра ведаў думку Онегіна пра Ольгу), а калі зразумеў, што ён памыліўся, то стаў

шукаць апраўдання свайму ўчынку. Няма сумнення, што на гэтых адносінах не толькі Ленскі, але і Онегін раскрываецца глыбей. Тут мы бачылі, што хоць Онегін і вышэй за грамадства, але падпарадкаваны яму.

Но дико светская вражда
Боится ложного стыда.

Лірычныя месцы з гэтага поваду пераконваюць у тым, што ні самому Еўгенію, ні паэту не мог быць прыемным канец дуэлі:

Но отослать его к отцам
Едва ль приятно будет вам!
Что-ж, если вашим пистолетом
Сражен приятель молодой,
Нескромным взглядом, иль ответом
Или безделицей иной
Вас оскорбивший за бутылкой,
Иль даже сам в досаде пылкой
Вас гордо вызвавший на бой?
Скажите: вашею душой
Какое чувство овладеет,
Когда недвижим, на земле,
Пред вами с смертью на челе,
Он постепенно костенеет,
Когда он глух и молчалив
На ваш отчаянный призыв?

Дасягнуўшы найбольшага развіцця, раман далей ідзе да развязкі. Ленскі забіты, а Оленька, што зусім зноў такі згодна з яе натурай, хутка выходзіць замуж за улана і едзе з ім. Онегін едзе вандраваць, што зусім законамерна, бо для яго няма месца, ні грамадства, ні ворагаў ні сяброў. Ён „лішні“, ён выражае смутак аб разарванасці тагочаснага жыцця. Ён мітусіцца, што цудоўна адзначыў Белінскі наступным чынам: „Якое жыццё! Вось яна, тая пакута, пра якую так многа пішуць і ў вершах і ў прозе, на якую так шмат хто скардзіцца, як быццам і сапраўды ведаюць яе; вось яна пакута сапраўдная, без контура, без хадуляў, без драпіроўкі, без фраз, пакута, якая часта не адбірае ні сну, ні апетыту, ні здароўя, але якая тым жахлівей!..

... Маладосць, здароўе, багацце, злучаныя з розумам, сэрцам: чаго-б, здаецца, больш для жыцця і шчасця? Так думае тупая чэрнь і называе падобную пакуту модным дзівацтвам... І, чым натуральней пакута Онегіна, чым далей яна ад эфектнасці, тым яна меней магла быць зразумета і ацэнена большасцю публікі. У дваццаць шэсць гадоў так многа перажыць, не папрабаваўшы жыцця, так знябыцца, стаміцца, нічога не зрабіўшы, дайсці да такога безумоўнага адмаўлення, не патрабуючы ні праз якія пераконанні: гэта смерць!“

Другая самастойная лінія ідзе ад Тацьяны. Па сваёй натуры, па характару яна не магла забыць, разлюбіць Онегіна, тым болей, што і прадмета кахання больш яркага, чым ён, не было. Яе пачуцце захоўвае жар, яе паліць агонь і каб хоць як-небудзь адказаць на патрэбу свае душы, яна наведвае маёнтак Онегіна, чытае яго кнігі, успамінае, вывучае, раздумвае, стараецца пранікнуць у на-

туру, характар Еўгенія—любімага чалавека. Але час ідзе, Тацьяну вязуць у Маскву і тут на ярмарцы нявест яе сватаюць і выдаюць за генерала, бо „для бедной Тани все были жребии равны“. Гэты ўчынак як-бы не ў характары Тацьяны, але трэба не забываць двух акалічнасцей: уплыў традыцыі і просьбу маткі.Ператварэнне Тані з вясковай дзяўчыны ў свецкую даму, як было ўказана вышэй, можа паказацца мала абгрунтаваным у рамане. Гэта бачыў і сам паэт і яго чытачы. Прынамсі ў прадмове да „апошняй главы Онегіна“ 1832 г. ён пісаў: „П. А. Каценін (якому цудоўны паэтычны талент не перашкаджае быць і дасканалым крытыкам) заўважыў нам, што гэтае выключэнне, можа быць і выгаднае для чытачоў, шкодзіць аднак-жа плану цэлага твору, бо праз тое пераход Тацьяны павятовай паненкі, да Тацьяны, знатнай дамы, робіцца занадта нечаканым і нерастлумачаным—заўвагі, якія паказваюць спрактыкаванага мастака. Аўтар сам адчуў справядлівасць гэтага, але адважыўся выпусціць гэтую главу па прычынах, важных для яго, а не для публікі“. Чытач не ўспрыймае гэтай неабгрунтаванасці, бо псіхалагічна тут усё правільна.

Зварот Онегіна, яго спатканне з Тацьянай і каханне да яе развіты згодна з натураю абодвух. Так палка павінен быў закахацца Еўгені і не таму, што тут пышнасць, двор, замужаства, усё гэта мела значэнне, але другараднае,—а таму, што цяпер Тацьяна ў большай ступені магла адпавядаць яго пачуццю і розуму. Белінскі праў, не згаджаючыся з Пушкіным у матывах кахання Онегіна да Тацьяны знатнай дамы. Пісьмо Онегіна і прызнанне Тацьяне—гэта ключ да разгадкі таго і другога. Тут усё законамерна, лагічна, апраўдана псіхалагічна. Тут паэт пакідае Онегіна ў той момант, калі пайшла Тацьяна і з'явіўся яе муж. Раман скончан і не скончан. Пушкін пісаў X главу, дзе Онегіну, відаць, прадастаўлялася роля ў соцыяльна-палітычных групоўках эпохі. Думка гэта вельмі добрая і адпраўлялася ад характару Онегіна, яго розуму, пачуцця, волі, адносін да грамадства, мы ў праве дапусціць эвалюцыю яго к дзекабрыстам. Там, дзе

Читал свои поэмы Пушкин
[Меланхолический?] [Якушкин?]
Казалось, молча обнажал
Цареубийственный кинжал.

мог быць Еўгені Онегін. Гэтых карцін мы не маем, але дапускаць, што яны былі-б у такім духу, магчыма, а ў святле іх глыбока можна зразумець і характары герояў і логіку іх развіцця.

Такім чынам наша назіранне над логікай разгортвання тэмы, сувязі дзеючых асоб паміж сабою, значэннем лірычных адступленняў, значэннем пейзажа, карцін быту прыводзіць нас да вываду, што толькі сукупнасцю ўсіх гэтых элементаў, іх арганічнай звязнасцю, іх супадпарадкаванасцю Пушкіну ўдалося вырашыць пастаўленую перад сабою задачу. У плане і ходзе дзеі рамана нельга знайсці супярэчнасцей, якія-б парушалі стройнасць карціны. Не гледзячы на вялікі адрэзак часу работы над стварэннем рамана, ён астаўся цэльным, арганічна спаяным творам.

Падвядзём некаторыя вынікі. Паставіўшы перад сабою задачу даць вобраз маладога чалавека ў канцы 1819 года, Пушкін у працэсе работы над раманам значна ўскладніў яе. Вядучы работу ў рэалістычным плане, даючы карціны рускага жыцця, паэт не мог не адлюстраваць тых вялізных зрухаў і падзей, якія адбыліся ў рэчаіснасці, у грамадскіх адносінах людзей, у іх поглядах, разуменнях, псіхалогіі. За восем з лішнім гадоў паэт вырас, зрабіўся мужным, дасягнуў поўналецця і па свайму светапогляду і па майстэрству. Адносіны да навакольнага свету, шляхі і метады яго ўспрыймання, супярэчнасці ў іх, супярэчнасць паміж чалавекам і акружаючым яго асяроддзем, чалавечыя думкі, пачуцці, псіхалогія ў цэлым, паводзіны чалавека, усё гэта стала іншым. Калі да гэтых аб'ектыўных момантаў эвалюцыі дадамо суб'ектыўную эвалюцыю Пушкіна, то атрымаем усю тую складанасць элементаў, якая павінна быць улічана пры аналізе рамана. В. Г. Белінскі пісаў: „Заўважым адно: асоба паэта, якая так поўна і ярка адлюстравалася ў гэтай паэме, усюды з'яўляецца такою цудоўнаю, такою гуманнаю, але ў той-жа час пераважна артыстычнаю. Усюды бачыце вы ў ім чалавека, душою і целам адданага асноўнаму прынцыпу, складаючаму сутнасць паказваемага ім класа: карацей, усюды бачыце рускага памешчыка... Ён нападае ў гэтым класе на ўсё, што супярэчыць гуманнасці, але прынцып класа для яго— вечная ісціна... І таму ў самой сатыры яго так шмат любві, само адмаўленне яго так часта падобна на адабрэнне і любаванне"...*)

Рэчаіснасць, адлюстраваная ў рамане, падана сатырычна. Крытыка вялікасвецкага грамадства, крытыка павятовага дваранскага грамадства, крытыка светаадносін і светаразумення Ленскага і Ольгі, паказ вобраза Онегіна і Таццяны ва ўсёй іх унутранай і знешняй супярэчлівасці, спроба знайсці месца Онегіну сярод соцыяльна-рэволюцыйных груповак эпохі—дае нам аснову сцвярджаць, што Пушкін у гэтым рамане адлюстраваў адзін з самых важных этапаў у грамадскім развіцці Расіі. Ён так шырока і так глыбока ахапіў рускае жыццё, так глыбока пранік у псіхалогію адшчапенца, героя свайго часу, так правільна ўскрыў характар і рухаючыя пружыны супярэчнасці паміж героем і соцыяльным асяроддзем, так трапна паказаў працэс пératварэння Онегіна ў „лішняга чалавека", што натуральна раман павінен быў стаць зыходным пунктам у далейшым развіцці рускай літаратуры, што ён назаўсёды астанецца актам усведамлення для рускага грамадства, амаль першым, але затое вялікім крокам наперад для яго!..**)

Д. І. Пісарэў не мог згадзіцца з такой ацэнкай Белінскага, ён пісаў: „Увесь „Еўгені Онегін"—не што іншае, як яркая бліскучая апафеоза самага бессэнсоўнага status quo. Усе карціны гэтага рамана нарысаваны такімі светлымі фарбамі, увесь бруд сапраўднага жыцця так старанна адсунут убок, вялікія глупствы нашых грамадскіх нраваў апісаны ў такім велічным выглядзе, самыя

*) *В. Г. Белінскі.* Збор твораў, т. XII, стар. 144.
**) *В. Г. Белінскі.* Збор Твораў, т. XII, стар. 144.

дробныя пагрэшнасці асмеяны з такім непарушным дабрадушшам, самаму паэту жывецца і дыхаецца так лёгка,—што ўражлівы чытач абавязкова павінен уявіць сябе шчаслівым жыхаром нейкай Аркадзіі, у якой з заўтрашняга-ж дня абавязкова павінен устанавіцца залаты век“ *).

Ці так гэта? Відавочна, не. Пасля ўсяго сказанага пра раман і пра крытыка Пісарэва ясна, што апошні не зразумеў ні асноўнай думкі рамана, ні асобных вобразаў, ні значэння рамана ў гісторыі рускай літаратуры і рускага грамадства. Ён не мог зразумець, што ў рамане адлюстраваны важнейшы этап у развіцці рускага грамадства і такія бакі жыцця, якія доўга пасля захоўвалі сваю жыццёвасць, чым і тлумачыцца цікавасць і жыццёвасць як асобных вобразаў, так і рамана ў цэлым.

## X

Які-ж агульны стыль рамана, у чым яго мастацкасць і эстэтычная вартасць? Самай характэрнай рысай стылю рамана з'яўляецца яго рэалізм. Сапраўды, раман „Еўгені Онегін“ з'яўляецца першым вялікім нацыянальным, г. зн. рускім творам, дзе выступаюць рускія характары з тыповымі толькі для іх рысамі, значыць раманам рэалістычным. „Еўгені Онегін“ у некалькіх планах павінен быць зразумет як рэальны твор: па-першае, па характару сваіх адносін да з'яў паказваемага жыцця, па-другое, па прыёмах творчага паказу, па характару лепкі вобразаў, па-трэцяе па мове. Раман правільна паказвае рускае жыццё 20-х гадоў XIX ст. і ў гэтых адносінах ён—люстра грамадскага руху, грамадскіх тыпаў рускага жыцця. Па рэалістычнасці ні адзін твор мастака, напісаны ім да 1825 г., не можа быць параўнан з „Еўгеніем Онегіным“. Вядома, кожны твор з'яўляецца адлюстраваннем рэчаіснасці, але сутнасць пытання ў тым, як адлюстроўваць? „Руслан і Людміла“, „Каўказскі нявольнік“, „Бахчысарайскі фантан“, „Цыгане“—усе гэтыя рамантычныя творы таксама народжаны рэчаіснасцю. Але тады, як у іх адносіны да жыцця паказваюцца праз адыход ад яго, супроцьстаўленне некаторых абстрактных вобразаў, абстрагаванне ад рэальнага жыцця, у „Еўгеніі Онегіне“ правільна паказваецца рэчаіснасць, паказваецца жывое, праходзячае перад вачыма жыццё. У гэтым заключаецца асноўная розніца паміж рамантычнымі рэчамі і „Еўгеніем Онегіным“, у гэтым асноўная розніца іх па пытанню аб адносінах да рэчаіснасці. Розніца гэта была відаць адразу ўсім, але не ўсе адразу згадзіліся, што гэта велізарная перамога. Дзекабрысты не згаджаліся ставіць „Еўгенія Онегіна“ вышэй за „Каўказскі нявольнік“ і „Бахчысарайскі фантан“. Яны спрачаліся пра тое, што паэма заключаецца не ў прадмеце, а ў выкананні (Бестужэў), што мастацтва не вышэй за натхненне (Рылееў), а спрэчкі павінны былі ісці ў другім напрамку: якія адносіны створанага да рэчаіснасці, наколькі правільна яно паказвае жыццё або скажае яго. Праўдзівасці, адпаведнасці жыццю—вось чаго хацеў Пушкін і чаго не шукалі яшчэ дзекабрысты. Разыходжанне тут

*) *Д. І. Пісараў.* Збор Твораў, т. V, стар. 62.

было абумоўлена розным разуменнем мэты і задач мастацтва або нават, правільней сказаць, шляхоў і сродкаў для выканання мэты і задач. У самога Пушкіна дарога да гэтага разумення была цяжкай і павольнай. Але стаўшы на яе, ён ужо аказаўся вышэй за сваіх супрацiўнікаў. Далей магла ісці рэч пра выкананне, пра мастацтва. Справа ішла пра лепку вобразаў, пра способы іх стварэння. І тут „Еўгені Онегін“ далёка адышоў ад „Каўказскага нявольніка“, „Бахчысарайскага фантана“ і інш. Вобраз, які адпавядае рэчаіснасці, правільна яе адлюстроўвае, патрабуе для свайго стварэння дакладнага ўліку элементаў і суадносін іх. Думкі, пачуцці, страсці, воля героя павінны быць адпаведнымі не толькі прыродзе чалавека, як такой, але яшчэ павінны адпавядаць умовам месца, часу і акалічнасцям. У гэтым сэнсе ў „Еўгеніі Онегіне“ няма ніводнай думкі, пачуцця, страсці, няма ніводнага руху фальшывага, неапраўданага, нязгоднага з прыродай чалавека, немагчымага ў тым асяроддзі, абставінах, у тых умовах і акалічнасцях, дзе мы бачым Еўгенія, Тацьяну, Ленскага, Ольгу, няню, вялікасвецкае грамадства і павятовае дваранскае. Усё гэта згодна з жыццём, адпавядае яму. Ні ў вобразах-персанажах, ні ў лірычных адступленнях, ні ў пейзажах, ні ў карцінах быту, ні ў развіцці дзеяння не паграшыў мастак перад рэчаіснасцю, не зрабіў фальшывага жэста, погляду, усмешкі. У гэтай адпаведнасці жыццю, у гэтай адпаведнасці рэчаіснасці і заключаецца, як мы бачылі вышэй, сіла „Еўгенія Онегіна“. Тут яго нацыянальнае, народнае, мастацкае значэнне.

Параўноўваючы раман з другімі творамі паводле мовы, зноў бачым вялізны крок наперад. Усё багацце рускай мовы: яе гнуткасць, прастата, багацце адценняў, многастайнасць, музыкальнасць— знайшлі сваё раскрыццё ў рамане. Раман як-бы падводзіць вынікі тым дасягненням, якія мела руская паэзія ў асобе Пушкіна, далей ідзе новая ступень паэзіі і прозы. Рэалізм у адносінах стварэння вобразаў, рэалізм у самой лепцы вобразаў, у іх падачы, рэалізм у мове, як вернасці духу, адчуванню рускай народнай мовы. Гэтыя бакі рэалізма і робяць раман „Еўгені Онегін“ найвялікшым нацыянальным, сапраўды народным, высокамастацкім, глыбокапрагрэсіўным творам рускай літаратуры.

Рэалізм „Еўгенія Онегіна“ не вычэрпвае ўсяго стыля рамана. Перад намі раман у вершах, пра які паэт пісаў:

Но так и быть—рукой пристрастной
Прими собранье пестрых глав,
Полу-смешных, полу-печальных,
Простонародных, идеальных,
Небрежный плод моих забав,
Бессонниц, легких вдохновений,
Незрелых и увядших лет,
Ума холодных наблюдений
И сердца горестных замет.

„Пестрые“ главы, „полусмешные, полупечальные, простонародные, идеальные“, паданы ў вершах. І тут лёгка паказаць, што раман і ў гэтых адносінах велізарны крок наперад. Асноўнай характэрнай рысай гэтага боку стыля рамана з'яўляецца размоўная

форма, якую надаў Пушкін свайму вершу, сваёй мове. Паэт гутарыць са сваім чытачом, ён выбірае для гэтай мэты не толькі адпаведныя тэмы і прыёмы іх асвятлення, але і самую форму верша. Сапраўды, аналіз „Еўгенія Онегіна“ з боку вобразаў-персанажаў, бытавых карцін, лірычных адступленняў паказвае, якія вялізныя магчымасці меў паэт, каб ажыццявіць прынцып размоўнасці. Цікавячыся ўсім, усімі бакамі жыцця, імкнучыся падаць вобраз маладога чалавека свайго часу ва ўсёй рознастайнасці яго інтарэсаў, настрояў, перажыванняў, імкненняў, не ўпускаючы ніводнага выпадку, каб выказаць свае адносіны да яго, спытаць у чытача, параіцца з ім, выказаць яму сваё сумненне або меркаванне, Пушкін тым самым бліскуча ажыццявіў размоўную форму. Яна была абумоўлена, вынікала з стаяўшай перад ім задачы. Адсюль уся рознастайнасць пытанняў, адказаў, усклікаў, дыялогаў, адступленняў, уставак, перарываў, багацце інтанацый, якімі так характэрна размоўная мова.

„Куда? Уж эти мне поэты!“
— Прощай, Онегин, мне пора.—
„Я не держу тебя; но где ты
Свои проводишь вечера?“
— У Лариных.—„Вот это чудно.
Помилуй! И тебе не трудно
Там каждый вечер убивать?“
— Ни мало.—„Не могу понять.
Отселе вижу, что такое:
Во-первых—слушай, прав ли я?—
Простая, руская семья,
К гостям усердие большое,
Варенье, вечный разговор
Про дождь, про лен, про скотный двор...“
— Я тут еще беды не вижу.
„Да скука, вот беда, мой друг“.
— Я модный свет ваш ненавижу;
Милее мне домашний круг,
Где я могу...—„Опять эклога!
Да полно милый, ради бога.
Ну, что-ж? ты едешь? очень жаль.
Ах, слушай, Ленский: да нельзя ль
Увидеть мне Филлиду, эту,
Предмет и мыслей и пера
И слез, и рифм, et cetera?
Представь меня“—Ты шутишь!—„Нету“.
— Я рад.—„Когда-же?“—Хоть сейчас.
Они с охотой примут нас.

Гэта цудоўны ўзор размоўнай манеры ў рамане. У ім нельга адрозніць гутарку ў вершы ад гутаркі ў звычайнай мове і ў гэтым выключнае майстэрства.

Зусім справядліва лічаць даследчыкі ямб самым размоўным з усіх размераў. Яго вось і выбраў Пушкін для свайго рамана, стварыўшы сваю выдатную анегінскую страфу, арыгінальную гнуткую і рухавую, здольную служыць выражэнню самых рознастайных паэтычных форм *).

*) Гл. працу *Л. Гросман*. „Барацьба за стыль“. М. 1927 г.

Эстэтычныя вартасці рамана заключаюцца ў гармоніі і суадпаведнасці ўсіх яго частак. Тут і рэльефнасць вобразаў, іх паўната, іх гарманічнасць, праўдападобнасць і мастацкая закончанасць, унутраная логіка іх сувязі і развіцця. Тут гарманічнае адзінства развіцця вобразаў-персанажаў з лірычнымі адступленнямі і другімі вобразамі, тут прастата і натуральнасць у раскрыцці ўсіх гэтых бакоў рэчаіснасці, дасягаемая наяўнасцю простай мовы, выражанай у форме гутаркі, тут амаль зусім неадчувальная ў перадачы анегінская страфа. Гэтая неадчувальнасць, здзіўляючая лёгкасць, інтымнасць, лірызм дасягнуты ўпартай і вялізнай працай, падпарадкаванасцю аднаму заданню і адзінству імкнення. Нават тады, калі

И даль свободного романа
Я сквозь магический кристалл
Еще не ясно различал.—

адчуванне адзінства рамана як цэлага ў паэта было. Працаваць восем з лішнім гадоў, займацца адначасова масай другіх спраў і ўсё-ж стварыць цэлы і стройны твор—справа выключна цяжкая. Пушкін бліскуча вырашыў гэтую задачу, ён даў нам раман, як цэлае, закончанае, гарманічнае адзінства, у якім усё на месцы, дзе нічога нельга ні адняць ні дадаць, не парушыўшы цэльнасці. Адсюль велізарная эстэтычная значымасць і каштоўнасць рамана, каштоўнасць, якую ён не страціў да нашых дзён.

## XI

Раман „Еўгені Онегін“ займае такое значнае месца ў творчасці Пушкіна, што на аснове яго аналізу можна вырашыць шмат якія праблемы пушкіназнаўства. Цэнтральнай праблемай вывучэння Пушкіна з'яўляецца пытанне пра яго класавы твар. З паданай вышэй характарыстыкі Белінскага вынікае, што прынцып дваранства, як класа, для яго закон. Пафас памешчыцкага прынцыпа ў рамане выступае выразна. Ён нападае ў гэтым класе на ўсё, што супярэчыць гуманнасці, але прынцып класа для яго вечная ісціна. Ці запаўняла гэтая ісціна ўсю істоту і творчасць Пушкіна? Ці быў ён у гэтым сэнсе вузка-класавым пісьменнікам? Цікавы адказ на гэтае пытанне даў найвялікшы пісьменнік нашай эпохі—Алексей Максімавіч Горкі: „Па-першае,—на прыкладзе яго творчасці мы бачым, што пісьменнік, багаты веданнем жыцця—так сказаць, перагружаны вопытам,—у сваіх мастацкіх абагульненнях (у вобразах Еўгенія Онегіна, графа Нуліна, Дуброўскага і г. д.) выходзіць з рамак класавай псіхікі, узвышаецца над тэндэнцыямі класа—і аб'ектывуе нам гэты клас—са знешняга боку—як няўдалую і нястройную арганізацыю часткі гістарычнага вопыту, з унутранага як псіхіку сваекарыслівую, поўную непрымірымых унутраных супярэчнасцей.

Несумненна, што Пушкін дваранін,—ён сам адзін час ганарыўся гэтым—але нам важна ведаць, што ўжо ў юнацтве сваім ён адчуў цеснату і духату дваранскіх традыцый, зразумеў інтэлектуальнае жабрацтва свайго класа, яго культурную слабасць і—адлюстраваў

усё гэта, усё жыццё дваранства, усе яго заганы і слабасці са здзіўляючай правільнасцю.

Чыста і рэзка класавы пісьменнік імкнецца паказаць свой клас уладаром і ўласнікам неаспрэчных соцыяльных ісцін, якія для ўсёй масы народу маюць абавязковае значэнне, для ўсіх з'яўляюцца догматам, патрабуючым безумоўнага падпарадкавання ім—такі пісьменнік паказвае ідэі, пачуцці і вераванні свайго класа як адзіна-правільнае і поўнае адлюстраванне ўсіх бакоў жыцця,—усяго вопыту чалавецтва.

... Гэта—ператварэнне тэндэнцый аднаго класа ў догмат, абавязковы для ўсіх другіх, гэта пропаведзь неабходнасці падпарадкавання ўсёй масы народу—маральным і прававым нормам, выгадным камандуючай сіле"...

Пушкін „адчуваў, што для яго інтарэсы ўсёй нацыі вышэй за інтарэсы аднаго дваранства" *).

У суджэнні М. Горкага намечан правільны шлях да вырашэння пытання пра класавы твар Пушкіна. Ён дваранін, але не безумоўна і абсалютна прыняўшы да канца класавую ісціну, каб ва ўгоду ёй скажаць з'явы рэчаіснасці. У класавым грамадстве заўсёды ёсць класы, выражаючыя прагрэсіўныя, рэволюцыйныя тэндэнцыі эпохі. Такім іменна класам у гэты момант быў народ, сялянская дэмакратыя. Ужо спелі думкі папярэдніка рэволюцыйнай сялянскай дэмакратыі В. Г. Белінскага, пра якога Пушкін ведаў і якога хацеў прыцягнуць у свой часопіс. Але пакольці і Белінскі яшчэ на даным этапе толькі інтуітыўна ўгадваў шлях да дэмакратыі (згадаем, што „Дмитрий Калинин" быў напісан у 1829—1831 гадах), Пушкіну гэта дарога была даступна яшчэ менш. Але ён ішоў іменна сюды. Цікава ў гэтых адносінах глянуць на Пушкіна і дзекабрыстаў. Апошнія як і першы баяліся народнай рэволюцыі, баяліся народнага паўстання, паўтарэння пугачоўшчыны, але і тыя і другія разумелі, што народ—сіла, народ—усё, народ вырашае ў апошнім ліку усе пытанні соцыяльнага жыцця. Адсюль цяга да народу, цяга да гэтай сілы, страшнай і вабячай у адзін і той-жа час. Праўда, у „Еўгеніі Онегіне" праблема народу не пастаўлена Пушкіным, але гаварыць пра народнасць рамана можна і неабходна. Адзін вобраз няні, яе здзіўляючы расказ пра сваё жыццё варты цэлых раманаў з народнага жыцця, напісаных псеўда-народнымі паэтамі.

„И, полно, Таня! В эти лета
Мы не слыхали про любовь;
А то бы согнала со света
Меня покойница свекровь"—
„Да как же ты венчалась, няня?"
„Так, видно, бог велел. Мой Ваня
Моложе был меня, мой свет,
А было мне тринадцать лет.
Недели две ходила сваха
К моей родне, и наконец
Благословил меня отец.
Я горько плакала со страха;

*) *М. Горкі.* Пра Пушкіна. Літарат. Вучоба. №8, 1936 г., ст. 25—26.

Мне с плачем косу расплели,
Да с пеньем в церковь повели
И вот, ввели в семью чужую...
Да ты не слушаешь меня...“

Так, тут сапраўдная народная трагедыя, схопленая глыбока, трапна і праўдзіва.

Задача, пастаўленая перад сабой Пушкіным у рамане, не патрабавала для свайго вырашэння падання карцін з народнага жыцця. Таму народнасць Пушкіна ў рамане раскрываецца не ў простым паказе карцін з жыцця народу, а ва ўсім складзе думак, у цудоўнай рускай народнай мове, у тым духу, якім адрозніваецца руская нацыянальнасць ад усіх другіх. У „Еўгеніі Онегіне“ Пушкін астаецца верным народнасці, зразуметай у шырокім сэнсе гэтага слова, іменна так, як ён сфармуляваў сам.

„Народнасць у пісьменніку ёсць вартасць, якая цалкам можа быць ацэнена аднымі суайчыннікамі—для другіх яна або не існуе, або нават можа паказацца заганай—вучоны немец абураецца на абыходлівасць герояў Расіна, француз смяецца, бачачы ў Кальдэроне Карыалана, выклікаючага на дуэль свайго супраціўніка. На ўсім аднак-жа ляжыць пячаць народнасці.

Ёсць склад думак і адчуванняў, ёсць процьма звычаяў і прывычак, належачых выключна якому-небудзь народу. Клімат, спосаб кіравання, вера надаюць кожнаму народу асаблівае аблічча, якое больш і менш адлюстроўваецца ў люстры паэзіі.

У гэтым сэнсе раман „Еўгені Онегін“ больш, чым які-б то ні быў твор 20-х гадоў XIX ст. можа быць названы народным творам. Але ад гэтага Пушкін нікольκі не перастае быць дваранскім пісьменнікам, а наш аналіз рамана, зразуметага ў сувязі з усёй эвалюцыяй творчасці паэта, дае права зрабіць такі вывад: Пушкін—дваранскі пісьменнік, які імкнуўся падняцца над вузасцю і эгаізмам поглядаў, разуменняў, прывычак свайго класа, імкнуўся адшукаць тую гістарычную дарогу, ідучы па якой можна было-б жыць і тварыць для грамадства ў цэлым, для нацыі. Гэтай гістарычнай дарогай была для яго народнасць, а сілай страшнай і вабячай народ, гэты творца здзіўляюча прыгожай мовы, крыніца паэтычнай творчасці, творца матэрыяльнай асновы жыцця ўсяго грамадства. Пушкін імкнуўся да яго і баяўся яго, адчуваў сябе адзінокім, тады як ён быў акружаны ўвагай і любоўю народнай. Мераю імкнення да народу вызначаецца мера прывязанасці Пушкіна да свайго класа, форма разрыву з ім і яго крытыка. Не сумеўшы, правільней, не здолеўшы, у сілу пэўных гістарычных умоў, перайсці на бок сялянскай дэмакратыі, Пушкін не здолеў цалкам парваць са сваім класам. Яго пазіцыя павінна быць зразумета па аналогіі з пазіцыяй „дваранскіх рэвалюцыянераў“—дзекабрыстаў. Пушкін—выражэнне таго парыва да народу, да дэмакратыі, які быў у лепшых прадстаўнікоў дваранства.

Чуццём геніяльнага мастака вызначыў ён тую сілу, якой належала будучыня, і тую гістарычную дарогу, па якой пайшлі лепшыя прадстаўнікі грамадства. Такой гістарычнай сілай быў народ,

сялянская дэмакратыя. Да яе, а не да буржуазіі накіраваў свае погляды Пушкін і ў гэтым яго велізарнае гістарычнае значэнне.

В. І. Ленін пісаў пра Герцэна: „Не віна Герцэна, а бяда яго, што ён не мог бачыць рэволюцыйнага народу ў самой Расіі ў 40-х гадах. Калі ён убачыў яго ў 60-х гадах—ён бязбоязна стаў на бок рэволюцыйнага дэмакратызма супроць ліберализма. Ён змагаўся за перамогу народу над царызмам, а не за здзелку лібэральнай буржуазіі з памешчыцкім царом. Ён падняў сцяг рэволюцыі“ *).

Але калі Герцэн не бачыў народу ў 40-х гадах, то яшчэ менш магчымасцей было ў Пушкіна ў 30-х гадах.

Вось чаму можна гаварыць толькі пра тое, на каго пазіраў з надзеяй Пушкін, чые аб'ектыўна выражаў інтарэсы, калі крытыкаваў свой клас. Мы не памылімся, калі скажам, што гэта была сялянская дэмакратыя, а не буржуазія, гэта быў народ—такі вабячы сваёй сілай, творчымі магчымасцямі, паэзіяй сваёй працы і жыцця, фальклорам, цудоўнай мовай, і страшны і не зусім зразумелы для паэта ў паўстанні, пратэсце, рэволюцыйнай буры, барацьбе супроць сваіх прыгнятальнікаў.

Калі так разумець класавую паэзію Пушкіна, тады стане зразумелым і законамерным з'яўленне дзесятай главы „Еўгенія Онегіна“, стане зразумелай прыхільнасць Пушкіна да дзекабрыстаў, жаданне звязаць свайго героя з гэтым рухам, надаць раману ў цэлым і яго галоўнаму герою пэўную гістарычна-прагрэсіўную рэволюцыйную тэндэнцыю і, тым самым, выразіць свае адносіны да цэнтральнай падзеі эпохі. У такім выпадку і вобраз Онегіна і ўвесь раман атрымліваюць больш глыбокае значэнне для нашай грамадскасці і гісторыі літаратуры, яны ўказваюць на тое, куды ішоў Пушкін, дзе шукаў вырашэння асноўных пытанняў гістарычнага жыцця, у бок якога класа пазіраў ён.

## XII

Апошнім момантам у нашым аналізе паставім пытанне: Еўгені Онегін і сучаснасць. Вядома, куды прасцей было-б разгледзець усю творчасць паэта, а не толькі адзін раман, у адносінах да нас. Аднак, ацэнка аднаго рамана ў гэтым плане таксама можа станавіць сабой вядомую цікавасць. Першае пытанне, якое ўзнікае тут, гэта пра самую каштоўнасць чалавечай асобы ў тую эпоху і ў наш час, другое—пытанне пра магчымасць ажыццявіць сваю грамадскую значымасць, пытанне, так сказаць, пра прычыны ўзнікнення псіхалогіі „лішняга чалавека“. Трэцяе пытанне—гэта значэнне гэтага тыпа для нашага развіцця.

Каштоўнасць чалавечай асобы ў грамадстве, дзе быў Онегін, не была вялікай. Не кажучы пра прыгоннае сялянства, пра гарадскія нізы, нават самі памешчыкі, прадстаўнікі пануючага класа і то не маглі адчуваць сябе спакойна.

З чалавекам лічыліся мала або зусім з ім не лічыліся. Яскравейшым прыкладам гэтага з'яўляецца біяграфія А. С. Пушкіна.

*) *В. І. Ленін*, Збор твораў, II выд. т. XV, стар. 468.

Здзекі над асобаю мастака былі тым гнуснейшымі, чым болей усе усведамлялі іх самавольства. Дэспатызм самаўладства, свету, дзікай свецкай варожасці, пустата, нікчэмнасць, бязглуздасць, інтрыганства, плёткі—рабілі чалавека цацкай. Пышнай кветкай на гэтай глебе расцвітала падхалімства, прадажнасць, подласць, нягодніцтва, прыслужніцтва, даносніцтва і г. д. Якая ўжо тут цана чалавечай асобе. Зразумела, не ўсё грамадства было такое, але такім было яно ў сваёй масе, такім было яно, калі цкавала людзей, помсціла ім, гнала іх. Чацкаму, Онегіну, Печорыну няма месца ў ім, як не было там месца Пушкіну, Лермантаву, Грыбаедаву, дзекабрыстам. Нікалай I пры ўсеагульным падтрыманні дваранства вырваў цвет рускай грамадскай мыслі—павесіў пяць дзекабрыстаў і выслаў 120 чалавек у Сібір, цытадэль і аддаленыя месцы. Грамадства зацкавала Пушкіна, пасля яго смерці брат цара Міхаіл Паўлавіч быў засмучаны, але не смерцю паэта, пра якога сказаў: „Туды яму і дарога!“, а лёсам беднага Дантэса, разжалаванага ў салдаты.

Мы жывем і развіваемся ў іншы час, у другіх абставінах, у той час, калі мара цэлых пакаленняў рэволюцыянераў ажыццяўляецца ў краіне соцыялізма. Высокая ацэнка чалавека і чалавечай асобы з'яўляецца першай адзнакай высокага ўзроўню культуры. Наша совецкая культура, наш гуманізм і з'яўляецца сапраўды тым асяроддзем, дзе чалавек творца ўсіх каштоўнасцей, атрымлівае вартае становішча, якое дае яму магчымасць усебакова развівацца.

Самым важным у жыцці свабоднай чалавечай асобы з'яўляецца магчымасць ажыццявіць сваю грамадскую значымасць, сваю вартасць. Чацкія, Онегіны, Печорыны, Бельтавы не мелі гэтай магчымасці. Хто вінават? будзе пытаць Герцэн. Хто вінават у тым, што багатыя ад прыроды натуры, што людзі з розумам, з пачуццём, з воляй, гінуць, не раскрыўшы сваіх магчымасцей, гінуць поўныя сіл. Хто вінават у тым, што яны, маючы ўсе даныя быць шчаслівымі ў жыцці, пакутуюць і мітусяцца? Хто асудзіў іх на нікчэмнасць, непатрэбнасць, смутак, пакуту, брадзяжніцтва? Хто зрабіў іх „лішнімі“? Адказ адзін: грамадства, дзяржава, самадзяржаўна-прыгонніцкі лад, і хай на данай ступені ўсе гэтыя Чацкія, Печорыны, Онегіны, Бельтавы—лішнія людзі, усёроўна яны носяць у сабе агонь святога непакою, нездавальнення, пратэсту. Хай яны няздольны на барацьбу, але ў іх шуканнях ёсць іскра пратэсту, якая неабходна для грамадскага развіцця. Герцэн недарма казаў, што лішнія людзі—лепшыя людзі свайго часу. „Ці зразумеюць, ці ацэняць будучыя людзі ўвесь жах, увесь трагізм нашага існавання. Ці зразумеюць яны чаму мы п'ем віно, шукаем задавальненняў, чаму мы ў хвіліну захаплення не забываемся на тугу. А між тым нашы пакуты той зародак, з якога развіваецца іх жыццё. О, хай яны з вялікім смуткам і думкаю спыняцца перад камнямі, пад якімі мы заснем. Мы заслужылі іх смутак!..“

Так, мы разумеем, цэнім і ганарымся, што Расія дала такіх людзей, як Пушкін, Лермантаў, дзекабрысты, Герцэн, Чэрнышэўскі, Дабралюбаў, людзей, якія ў цудоўных вобразах адлілі для нас жыццё свайго часу, выпакутавалі нам права на шчаслівае жыццё.

„Мы поўныя пачуцця нацыянальнай гордасці і іменна таму мы *асабліва* ненавідзім *сваё* рабскае мінулае“ (Ленін), мы поўны пачуцця радасці таму, што гэтаму рабству, дэспатызму, прыгнёту, дзікасці паложан назаўсёды канец, што ў свабодным СССР працоўныя куюць такое жыццё, якое дае магчымасць свабодна і бескарысліва задавальняцца і ганарыцца мастацкай творчасцю нашай радзімы, лепшых сыноў яе ў мінулым.

Мы поўны пачуцця радасці і гордасці таму, што толькі пасля пролетарскай рэволюцыі мільёны людзей нарэшце адчулі сябе людзьмі, мільёны людзей могуць ажыццявіць сваю грамадскую каштоўнасць. Для выхавання ў сабе „чалавека“, для выхавання ўмення поўна і глыбока ўспрыймаць жыццё, творчасць Пушкіна з'яўляецца надзвычай поўнацэнным матэрыялам. І ў ім цэнтральнае месца займае „Еўгені Онегін“. У ім ёсць якраз усе тыя якасці, якія характарызуюць Пушкіна і за якія яго любіў Ленін. Гэта прастата, яснасць, выразнасць і ўменне перадаваць вялікія чалавечыя пачуцці, якія так поўнагучна раскрываюцца ў краіне соцыялізма. Імкненне да свабоды, барацьба з руцінай, прагнае жаданне новага, любоў і нянавісць, радасць і смутак, святло і цені. Нішто чалавечае не было чужым Пушкіну і на ўсім, да чаго ён дакранаўся, астаўся знак яго генія, астаўся ён і ў жамчужыне яго паэзіі—рамане „Еўгені Онегін“.

Масква, 1937 г.

*Праф. Э. Яноўская*

# ПЕДАЛАГІЧНЫЯ СКАЖЭННІ У ГАЛІНЕ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Гістарычная пастанова ЦК ВКП(б) ад 4 ліпеня 1936 года „Аб педалагічных скажэннях у сістэме Наркамасветы“ высунула перад намі канкрэтную задачу: канчаткова і беспаваротна выкарчаваць грубейшыя скажэнні, якія звілі сабе моцнае гняздо ў галіне дашкольнага выхавання. Трэба сказаць з усёй рашучасцю, што ўся дашкольная работа прасякнута педалагічнымі скажэннямі, якія пасеяла на працягу многіх год ілжэнавуковая, рэакцыйная педалогія. Няма такога ўчастка ў нашай дашкольнай рабоце, дзе не давялося-б весці ўпартую барацьбу за аднаўленне ў правах педагогікі, педагога і самога дзіцяці. Адным з такіх участкаў з'яўляецца работа з кнігай у дашкольных установах. Тэарытычныя палажэнні, што высоўваюцца ў кіруючым часопісу „Детская литература“, штодзённая практыка нашых дзіцячых садоў зусім ясна гавораць аб неабходнасці глыбокай перабудовы нашай работы з кнігай, аб неабходнасці ліквідацыі педалагічных скажэнняў.

Якое-ж становішча на фронце дзіцячай літаратуры?

Адказам на гэтае пытанне з'яўляецца яркая прамова, сказаная на 1-й нарадзе па дзіцячай літаратуры пры ЦК ВЛКСМ тав. Косаравым, які з вычарпальнай яснасцю ўскрыў недахопы, што існуюць ў галіне дзіцячай літаратуры.

„Наша краіна стала зусім інакшай, а дзіцячая літаратура ўсё яшчэ застаецца ранейшай. Людзі ў нашай краіне становяцца зусім новымі людзьмі, а дзіцячая літаратура па свайму зместу, па свайму ўзроўню прадаўжае заставацца ранейшай“.

Калі гэтыя выдатныя словы тав. Косарава адлюстроўваюць поўнасцю нездавальняючае становішча дзіцячага літаратурнага фронта наогул, дык выключнае значэнне яны атрымліваюць пры аналізе кніжак, на якіх у цяперашні час выхоўваюцца дзеці дашкольнага ўзросту.

Якую-ж літаратуру даем мы школьніку? Абмежаваныя рамкі артыкула не даюць магчымасці шырока асвятліць пытанне ў цэлым. А пагаварыць ёсць аб чым. Педалагічных скажэнняў шмат. Неабходна, аднак, з цэлага раду наспеўшых пытанняў вылучыць пакуль што адно, надзвычай істотнае, вырашэнне якога не церпіць адкладу.

У першую чаргу неабходна вылучыць пытанне аб казцы, бо ў дзіцячых садах за апошні час найбольшай увагай карыстаецца казка, якая падаецца школьніку без усякага крытычнага аналізу.

Што казка павінна быць уключана ў праграму дзіцячага саду, што дзецям патрэбны фантастычныя вобразы, якія з'яўляюцца невычэрпнай крыніцай для развіцця дзіцячай творчай фантазіі, для выхавання любові да мастацкага слова,—у гэтым няма сумненняў. Няма зараз ніякіх сумненняў і ў аўтара гэтага артыкула, які выступаў раней супроць казкі *).

Гаворачы зусім пэўна аб неабходнасці казкі, трэба раней за ўсё адказаць на пытанне: якая іменна казка патрэбна. Не можа быць казкі наогул, а ёсць казка з канкрэтным зместам, які вызначае яе каштоўнасць альбо шкоднасць у нашай педагагічнай рабоце. Гаворачы аб казцы, неабходна падкрэсліць, што ёсць казкі, непраўзойдзеныя па сваіх прыгожых, мастацкіх вобразах, якія павінны мець месца ў нашай педагагічнай рабоце, бо каштоўнасць іх надзвычай вялікая. Да такіх казак належаць „Дзед і рэпа“, „Церамок“, „Тры мядзведзі“, „Журавель і цапля“, „Кот, лісіца і певень“, „Лісіца і журавель“, „Ёж і заяц“, „Маша і Даша“ і шмат іншых. Спынімся на некаторых з іх.

Што ўяўляе з сябе „Дзед і рэпа“?

У казцы ёсць тое, чаго мы патрабуем ад дзіцячай кніжкі: ідэйны змест, пададзены ў высока-мастацкай форме. У блізкім і зразумелым дзіцяці змесце вырашаецца адна з важнейшых соцыяльных праблем—сіла калектыва. Чалавек ніколі не жыў па-за грамадствам. Калектыўнымі намаганнямі дабівалася чалавецтва перамогі над сіламі прыроды. Усведамленне сілы калектыва не магло не атрымаць адлюстравання ў вуснай народнай творчасці. Чаго не зробіць адзін, тое можна зрабіць супольна. І вось гэтая велізарная праблема калектыва пададзена для дзяцей у яркай, мастацка-закончанай форме, з'яўляючыся крыніцай радасных, узнімаючых жыццёвы тонус дзіцяці, перажыванняў. Гіпербалічна ўзросшая рэпа ніколькі не бянтэжыць маленькага слухача. Гэта не тая маленькая рэпка, якую ён сустракае ў штодзённым жыцці, гэта тая „несапраўдашная“ рэпка, „вялікая-правялікая“, якую дзед „цягне-пацягне“ і ніяк адзін выцягнуць не можа. З неаслабнай цікавасцю сочыць дзіця за разгортваннем далейшых падзей. На яго вачах расце сіла, якая павінна справіцца з пастаўленай задачай, сіла, якая павінна выцягнуць рэпу. З прыходам кожнага новага героя расце сіла калектыва. Казачнасць фабулы дае дзецям канкрэтныя, рэальныя ўяўленні аб жыццёвых з'явах, і ў гэтым сіла казкі, сіла фантастычнага замыслу. Кульмінацыйны момант даведзены ў казцы да вышэйшага пункту. Дзіця з захапляючай цікавасцю чакае, „а хто яшчэ прыдзе. Калі-ж, нарэшце, рэпа „вялікая-правялікая“ паддасца і будзе ў руках дзеда“. І вось настае радасны момант: бяжыць на дапамогу маленькая мышка, і прыбаўленне гэтай маленькай сілы вырашае вынік працоўнага працэса... перамагае сіла калектыва.

Каштоўнасць гэтай казкі вялікая, не толькі дзякуючы ідэйнай значымасці зместу, але дзякуючы таму, што змест гэты пададзены ў высока-мастацкай форме: пабудаваная на паўторах і дынаміцы і вызначаючыся яркай вобразнай мовай, казка гучыць для дзяцей як

[1] Гл. артыкул *Э. Яноўскай* у „Литературной газете“ ад 20. 10. 1935.

прыгожая песня... Узбагачаючы мову і мышленне дзіцяці, даючы яму магчымасць праз мастацкія фантастычныя вобразы засвоіць сапраўднасць, казка гэтая з'яўляецца разам з тым і стымулам для гульняў. Казка гэтая, пераклàдзеная на музыку, карыстаецца вялікім поспехам у дзяцей, бо музыка робіць яе яшчэ больш цікавай, больш каштоўнай. „Дзед і рэпа“ можа паслужыць узорам для многіх дзіцячых пісьменнікаў: на гэтай казцы трэба вучыцца, як будаваць ідэйна-мастацкую казку для дзяцей. Ясна, чаму мы горача рэкамендуем „Дзед і рэпу“, чаму мы лічым, што казка гэтая павінна знаходзіцца „ў першых радах“ дашкольнай літаратуры.

Мы далі дзецям выдатную казку Л. Талстога: „Тры мядзведзі“. Яна ўяўляе з сябе бясспрэчна вялікую каштоўнасць. Тав. Крупская ў вельмі вобразнай форме дае выдатную ацэнку гэтай казцы:

„Для рэбят, яшчэ не аўладаўшых навакольнай рэчаіснасцю, цікавая праблема аб вялікім і маленькім—адсюль усе гэтыя волаты, мальчыкі з пальчыкі і г. д. і т. п. „Тры мядзведзі“—мядзведзь, мядзведзіца і мядзвяжонак—тры жывых істоты рознай велічыні і дзяўчынка прымервае сябе да бытавых умоў жыцця істот рознай велічыні. Вялікі стол, высокае крэсла, вялікая міска, вялікая лыжка. Стол сярэдняй велічыні, крэсла сярэдняй велічыні, сярэдняй велічыні міска, лыжка. І гэта яшчэ не падыходзіць маленькай дзяўчынцы. Ёй падыходзіць маленькі столік, крэсліца, маленькая місачка і лыжка, маленькі ложак. Дарасламу чалавеку гэтая казка непатрэбна (хоць я ахвотна-б падарыла яе многім складальнікам праграм і выкладчыкам). Але дзіцяці яна блізкая. Мядзведзі—гэта аксесуар—і калі іх намаляваць не вельмі страшнымі, а характар казкі якраз гэтага не патрабуе, паказваючы мядзведзяў у разгубленым становішчы, якія хвалююцца і абураюцца на малышку-дзяўчынку, дык ад такой казкі нічога апрача карысці няма“.

Гэтая казка яшчэ каштоўная тым, што дзеці яе інсцэніруюць, ператвараючы ў дзеянні ўсе казачныя падзеі, дадзеныя ў яркай мастацкай форме.

Вялікую цікавасць уяўляе таксама народная казка „Церамок“. Прыгожасць гэтай казкі заключаецца ў тым, што адны і тыя-ж сказы, адны і тыя-ж словы эпічна паўтараюцца, утвараючы разам з тым сяброўства паміж рознымі насельнікамі церамка. Цікавыя і займальныя назвы насельнікаў: „мышка-норушка“, „лягушка-квакушка“, „заінька-паскакыш“ і г. д. Дабрадушнасць насельнікаў захапляе дзяцей—з непаслабнай цікавасцю чакаюць дзеці прыходу наступнага героя апавядання. Казка гэтая добрая таксама сваім ігравым характарам—гэты бок радуе дзяцей. Усе станоўчыя бакі гэтай казкі ўяўляюць з сябе вялікую мастацкую і педагагічную каштоўнасць.

Спынімся яшчэ на другой казцы—„Журавель і цапля“.

Казка гэтая выдатная для малышоў. Чаму? Ды таму, што яна выклікае здаровы смех у дзяцей. Весела і з велізарнай цікавасцю сочаць дзеці за паводзінамі жураўля і цаплі, якія бясконца ходзяць адзін да другога і ніяк дамовіцца не могуць. Цэлы рад паўтара-

ючыхся аднолькавых з'яў даецца ў даступнай дзіцяці гумарыстычнай форме. Такія казкі нам патрэбны. Гэта ёсць той гумар, аб якім Маршак гаворыць: „дзецям патрэбны гумар, ад якога не ўсміхаюцца ў хустачку, а гучна рагочуць". І дзеці сапраўды рагочуць. Неабходна падкрэсліць, што многія педагогі словы „жаніцца", „выхадзі за мяне замуж" замяняюць сказам: „надакучыла жыць аднаму", „будзем жыць разам". Сэнс казкі не мяняецца, а разам з тым пазбягаецца магчымасць зараджэння ў дзяцей звычайных пытанняў: „а як можа цапля выйсці замуж за жураўля", „а як можа журавель жаніцца на цаплі" і г. д. Нам думаецца, што ўнясенне гэтай невялікай змены павінна атрымаць поўнае адабрэнне.

Такім чынам мы бачым, што з наяўных казак можна выбраць цэлы рад вельмі цікавых і мастацкіх.

Але калі такія казкі, як „Дзед і рэпа", „Журавель і цапля", „Церамок", „Тры мядзведзі" і інш. уяўляюць з сябе бясспрэчную каштоўнасць, дык неабходна сказаць, што ёсць казкі, якіх трэба, кажучы словамі Белінскага, баяцца як воспы.

Словы тав. Косарэва, што „прачытанае на зары жыцця замацоўваецца на доўгія гады, пакідаючы незагладны след на ўсё жыццё *)—гэтыя словы павінны прымусіць нас прызадумацца над тым матэрыялам, які мы падносім нашым малышам. Але на справе мы гэтага не робім. У дзіцячых садах пракацілася шырокай хваляй казка без уліку кіраўнікамі таго канкрэтнага ўплыву, які гэтая казка можа аказаць на маленькага слухача. У большасці дзіцячых садоў дзецям расказваюць альбо чытаюць такія казкі, якія не павінны мець месца ў нашых дзіцячых садах.

Для прыкладу спынюся на народнай казцы „Ліпавая нага", надрукаванай у зборніку „Русские народные сказки" **).

Яркі ўспамін аб гэтай казцы дае нам тав. Крупская:

„Я вось, успамінаючы сваё маленства, успамінаю дзіцячыя апавяданні аб мядзведзі, які заглядваў у вакно. Памятаю, як гэтае апавяданне выклікала потым пазней ужо, калі мне было не 6 і не 7 год, а калі я была падлеткам, страх перад цёмнымі вокнамі. Я ведала, вядома, што мядзведзі ў вокны не глядзяць, ды яшчэ ў піцерскую кватэру на 3-м паверху. А ўсё-ж на цёмныя вокны старалася не глядзець". (Н. Крупская. „Библиотечное дело", стар. 126).

Надзвычай цікавы і павучальны матэрыял ёсць у Маскоўскай дзіцячай паліклініцы Лекава-санітарнага ўпраўлення Крэмля. Дазволю сабе прывесці некаторыя факты. У гадзіны кансультацыі прывялі дзяўчынку 4-х год. Бацька—адказны работнік, маці—выкладчыца Інстытута чырвонай прафесуры. Кароткія звесткі аб дзіцяці: дзяўчынка здаровая; правільна ўвесь час развівалася; разумовае развіццё даволі высокае; актыўная; эмацынаяльная; ніколі не ведала пачуцця страху. І вось гэтай дзяўчынцы чыталася на дачы казка „Ліпавая нага". Слухаючы казку з вялікім напружаннем, дзіця ўвесь час хвалявалася; пад вечар, пры наступленні цемнаты,

*) З прамовы тав. Косарэва на 1-й нарадзе па дзіцячай літаратуры.
**) „Русские народные сказки" ОГИЗ. Москва, 1935.

не адпускала маці, чаго да гэтага часу не было; доўга не засынала; здаваліся шорахі, скрып; падхаплівалася са словамі: „вось мядзведзь“; уначы ўскрыквала; стала ўглядацца ў вісячыя на сцяне рэчы; у наступны дзень спалохалася гамака, прасіла зняць яго; увечары прыслухоўвалася да цікання гадзінніка, прасіла зняць яго са сцяны; доўга не засынала; стала баяцца цемнаты.

Другі факт. У тую-ж дзіцячую паліклініку прывялі на кансультацыю хлопчыка 5-ці год. Бацькі—рабочыя. Дзіця здаровае, нармальна развівалася. Уражлівае, з вельмі жвавым выабражэннем. Пачуццё страху было яму незнаёмае. Слухаючы казку „Мядзвежая лапа“*), дзіця, пачырванеўшы і хвалюючыся, адкінула кніжку са словамі: „не хачу, дрэнная“, адмовілася далей слухаць. Пасля гэтага ўглядалася ў малюнкі кожнай новай кніжкі, жадаючы раней за ўсё пераканацца, ці няма ў ёй чаго-небудзь, што напамінае казку „Мядзвежая лапа“, якая выклікала ў яго вялікі страх.

У матэрыялах дзіцячай паліклінікі Санупра ёсць дастатковы матэрыял, які гаворыць аб тым, што многім рэбятам падобныя казкі наносяць псіхічную траўму. Дзеці кідаюць кніжку з воклічам: „Не трэба. Страшна“. Але далёка не ўсе дзеці даюць такія ясныя рэакцыі на страшныя казкі. Ёсць дзеці, якія слухаюць казку з вялікай увагай, не выказваючы ніякага знадворнага непакою. Дзіцяці часта бывае непрыемна праявіць пачуццё страху. Але страшная казка робіць сваю справу. Пад уплывам такіх казак многія дзеці пачынаюць баяцца цемнаты, часта прасынаюцца ад беспадстаўнага раптоўнага страху, які ім быў абсалютна незнаёмы. Гэта той страх, аб якім так маляўніча расказвае нам тав. Крупская ва ўспамінах свайго маленства.

Слабы, неўзмацнеўшы розум дзіцяці з надзвычайнай эмацыянальнасцю рэагуе на тыя апавяданні, якія выклікаюць у ім страх. Падносячы дзецям такія казкі, мы фактычна парушаем іх душэўны спакой.

У сваёй кнізе „Дзіцячы сад Монтэсоры“ Ю. Фоусек прыводзіць цікавы факт, які бясспрэчна заслугоўвае нашай увагі: „У вядомага італьянскага пісьменніка дэ-Амічыса ў яго творы „Воспоминания детства“ ёсць выдатнае апісанне таго, як яму, маленькаму, калі ён лажыўся спаць, няня расказвала казку аб тым, як смерць вынесла хлопчыка з яго ложку за тое, што ён пасмяяўся з яе, і якое пачуццё жаху перажываў ён не толькі ў гэтую ноч, але і ў многія, многія ночы свайго маленства; як страх цемнаты, у якой вярэзіўся яму вобраз смерці ў выглядзе старога, таемна праследваў яго і ў дні яго юнацтва; як надоўга было сапсавана яго жыццё гэтай тайнай, якую ён не адважыўся адкрыць нікому, і ён ужо сталым чалавекам гаворыць у канцы гэтага апісання: „Успамін аб гэтых пакутах ва мне такі жывы, што пры выглядзе няні, якая расказвае што-небудзь сваім выхаванцам, я перажываю пачуццё трывогі, і мне хочацца падысці, каб пачуць, ці не расказвае яна страшных казак, і папрасіць яе замаўчаць, калі яна гэта робіць“.

Гэткія факты—яркія, пераканаўчыя, з якімі нельга не лічыцца.

*) „Мядзвежая лапа“ і „Ліпавая нага“—назвы адной і той-жа казкі.

А між тым сярод нас сустракаюцца яшчэ педагогі, якія лічаць, што адмоўны ўплыў страшных казак—пустая выдумка „адсталых педагогаў“, і што на самай справе такія казкі, як „Ліпавая нага“, дзяцей не толькі не пужаюць, але смяшаць выклікаючы радасны смех. І для навуковай пераканальнасці правільнасці гэтага пункту гледжання некаторымі педагагогамі прыводзяцца даследванні рэакцый дзяцей у дзіцячых садах, якія даюць „павучальныя“ рэзультаты. Вось запіс рэакцый на казку „Ліпавая нага“ дзяцей 5-6 год 52-га маскоўскага дзіцячага саду:

„Дзеці слухаюць казку. Шэптам паўтараюць уразіўшыя іх дзіцячы розум і пачуцці словы: „курачку панясе“, „расці, пянёк, вышэй лесу“, „скырлы, скырлы, скырлы“, „старога ў сундук пасадзіла“, „на бярозавай назе, на бярозавым кійку“, „панчохі звяжу, зімой панашу“ „пянёк вышэй лесу стаў“...

— Страшная казка,—кажа педагог, прачытаўшы яе дзецям.

— Не, смешная, смешная,—крычаць дзеці.—Вунь бабку нясе...—кажуць яны, разглядаючы малюнкі, і г. д.

І абаронцы страшных казак прыходзяць да вываду, што казка добрая, што яе трэба даваць дзецям, таму што дзецям весела, таму што дзецям смешна.

Мімаволі напрашваецца пытанне: ці заўсёды смех дзяцей з'яўляецца правільным крытэрыем ацэнкі іх паводзін. Мы ведаем вельмі багата выпадкаў, калі дзеці весела рагочуць і пры разбурэнні птушыных гнёздаў, і пры жорсткай бойцы дзяцей, і ўбачыўшы калеку, і пры здзеклівых адносінах да асобных дзяцей, і пры ўдалым выкананні якога-небудзь хуліганскага замыслу. Мы добра ведаем, што інтарэсы дзяцей, адным з праяўленнем якіх з'яўляецца смех, трэба разглядаць не як нешта нязменнае, раз назаўсёды дадзенае, а як інтарэсы, што развіваюцца. Выхаваннем інтарэсаў совецкага дзіцяці павінен актыўна кіраваць совецкі педагог, які ясна разумее задачы комуністычнага выхавання. Ясна, што не заўсёды смех дзяцей з'яўляецца кіруючым момантам у падачы той ці іншай казкі. Смех не заўсёды можа з'явіцца крытэрыем ацэнкі літаратурнага твора. Тут кіраўніцтва педагога падмяняецца яўнай стыхійнасцю, якая змыкаецца з тэорыяй „вольнага выхавання“. Хіба абаронцы вольнага выхавання не абараняюць тую-ж думку: не педагог кіруе выхаваннем дзяцей, не педагог падбірае неабходны матэрыял для педагагічнай работы, а само дзіця ўказвае педагогу шляхі, па якіх ён павінен ісці для выхавання поўнакаштоўнай асобы. Хіба ў гэтым беспрынцыпным падыходзе да дзіцячай кніжкі не чуюцца словы Вентцэля, Эллен-Кей? Хіба абаронцы „вольнага выхавання“ не казалі аб тым, што ў падачы казкі, апавядання нельга выходзіць з тых ці іншых задач дашкольнага выхавання, а што трэба даваць толькі тое, што дзецям прыемна, а калі на дзяцей гэтая „прыемная“ кніжка зробіць дрэнны ўплыў, дык бяда невялікая.

Хіба Вентцэль, абараняючы тэорыю „вольнага выхавання“, не казаў, што дзіця ёсць жывы матэрыял, які следуе ў сваім развіцці па сваіх уласных законах, што вызначаюць яго індывідуальнасць? Хіба Вентцэль і ўсе абаронцы тэорыі „вольнага выхавання“ не казалі, што педагог павінен ісці за дзіцяцем, што задача педагога—

не кіраўніцтва выхаваннем дзяцей, а толькі садзейнічанне таму, каб псіхічная і фізічная арганізацыя дзіцяці нармальна развівалася шляхам адвольнага арганічнага росту? Цэнтральная фігура педагагічнага працэса—не педагог, а само дзіця. Не педагог вырашае, якое апавяданне, якая казка павінна быць прачытана дзецям, а дзеці, і іх рэакцыі з'яўляюцца рашаючымі момантамі.

Педалагічныя скажэнні такога зусім беспрынцыпнага падыходу да ацэнкі любой казкі з пункту гледжання дзіцячага смеху зусім ясныя, бо гэты пункт гледжання базіруецца на прынцыпе „самавыхавання" дзіцяці ў замаскаванай форме, скажаючы ролю і значэнне педагога, як праваднікa комуністычнага выхавання. Надаючы велізарнае значэнне смеху дзіцяці, яго бадзёраму радаснаму настрою, будуючы педагагічную работу на прынцыпе стварэння гэтага радаснага настрою, мы тым не менш не можам і не павінны зніжаць ролю кіраўніцтва педагога. Падбіраючы матэрыял для расказвання, разлічанага на радасныя рэакцыі дзяцей, мы павінны адначасова памятаць і аб якасці ўплыву гэтага расказвання. І калі ёсць канкрэтныя факты і тэарэтычныя палажэнні, якія гавораць аб шкодным уплыве той ці іншай казкі, таго ці іншага апавядання, дык мы ні ў якім выпадку не павінны іх даваць, не гледзячы на тое, што дзецям весела, што дзецям смешна.

Трэба сказаць, што педалагічныя скажэнні сказваюцца яшчэ і ў другім надзвычай важным моманце: у поўным ігнараванні паасобнага дзіцяці. Педагогі, спасылаючыся на праведзеную даследчую работу, бачаць групу, але не бачаць паасобных дзяцей. Спасылаючыся на воклічы дзяцей: „Смешна, смешна!" „Не страшна", „даследчыкі" зусім не задумваюцца над тым, што смяецца звычайна невялікая колькасць дзяцей і што рэакцыі некалькіх рэбят не адлюстроўваюць рэакцый усіх дзяцей групы. А гэта-ж надзвычай важны момант у справе правільнага асвятлення інтрыгуючага нас пытання. Мы, супрацíўнікі страшных казак для дзяцей дашкольнага ўзросту, зусім не думаем, што казкі гэтыя траўмацызіруюць усіх дзяцей без выключэння. Нічога падобнага! Мы толькі сцвярджаем, што страшная казка шкодна ўплывае на многіх дзяцей, і з гэтым фактам мы не можам не лічыцца.

Педалагічныя скажэнні яшчэ ярчэй праяўляюцца ў расказванні дзецям казкі Перро „Сіняя барада", уключанай у нядаўна выданы зборнік казак Перро. Дзіцячае выдавецтва лічыць, відавочна, гэтую казку вельмі каштоўнай, патрэбнай, калі яна падносіцца дзецям нароўні з іншымі казкамі Перро. Што-ж уяўляе з сябе „Сіняя барада", і які змест гэтай казкі?

Жыў-быў багаты чалавек. У яго была сіняя барада. Цяжка было, маючы сінюю бараду, знайсці сабе жонку. Але багацце і раскоша спакушаюць... Знайшлася бедная дзяўчына, якая адважылася выйсці за яго замуж. Аднойчы, ад'язджаючы па справе, муж пакідае сваёй жонцы вязку ключоў з наказам: „Усе пакоі можаш аглядаць, адчыняць, можаш паказваць сваім сяброўкам, за выключэннем аднаго, які адчыняецца вось гэтым маленькім ключыкам. У гэты пакой пад пагрозай смерці забараняю табе ўваходзіць".

Муж ад'язджае... Цікаўнасць мучыць... Яна мацней за ўсякія

пагрозы... Пасля доўгіх хістанняў пакой адчыняецца маленькім ключыкам. Неўявімы жах ахоплівае ўсю істоту маладой дзяўчыны: падлога ўся ў крыві, мёртвыя акрываўленыя жаночыя трупы прывязаны ўсцяж сцяны... Хто гэта? Гэта жонкі яе мужа, якіх ён пасля жаніцьбы па чарзе забіваў... Далей расказваецца, як прыехаўшы з паездкі муж даведаўся аб парушэнні яго загаду. Узброіўшыся вялікім вострым нажом, ён хоча адсячы сваёй жонцы галаву. Гэтая поўная жаху сцэна паўтараецца тры разы: тры разы ўзнімаецца нож над галавой няшчаснай ахвяры, якая выпадкова ўсё-ж выратоўваецца ад немінучай гібелі...

Гэткі ў кароткіх рысах змест гэтай казкі, якая атрымала права грамадзянства ў нашых дзіцячых садах, у нашай савецкай сям'і.

А ў чым-жа каштоўнасць гэтай казкі? Ці не ў тым, што „Сіняя барада" пазбаўляе жыцця адну жонку за другой і мёртвымі выстрайвае іх у шарэнгу ўсцяж доўгай сцяны? Ці не ў тым, што ўся казка ад пачатку да канца ўяўляе з сябе бясконцы рад самых страшных, самых брыдкіх падзей, і гаварыць аб магчымасці прымянення гэтай казкі ў нашай педагагічнай рабоце можна толькі з пазіцыі „педалагічных скажэнняў", якія ігнарыруюць жывое канкрэтнае дзіця. Тэарытычна кожны з нас ведае,што дзіцячая кніжка мае пэўныя функцыі: сваімі мастацкімі вобразамі яна павінна садзейнічаць ажыццяўленню задач комуністычнага выхавання. Развіццё ў дзецях любові да мастацкага слова, развіццё мовы, мышлення, творчай фантазіі, развіццё любові і адданасці да нашай соцыялістычнай радзімы, цікавасці да прыроды, да ўсяго навакольнага жыцця—вось што павінна стаяць у цэнтры нашай увагі пры правядзенні расказвання альбо чытання тых ці іншых твораў. Тав. Косарэў вельмі ярка падкрэсліваў неабходнасць „спалучэння дзіцячай фантазіі і соцыялістычнага рэалізма". Ажыццявіць гэтую ідэю можна толькі праз яркія, маляўнічыя, фантастычныя вобразы. Якія-ж вобразы выклікаюць у дзецях героі казкі „Сіняя барада"? Які выхаваўчы ўплыў могуць аказаць дзеянні герояў у працэсе фармавання дзіцячых уяўленняў, дзіцячай мыслі, у працэсе развіцця творчай фантазіі? Што павінны адчуваць нашы маленькія слухачы, калі перад імі расчыняюцца таемныя дзверы, і акрываўленыя мёртвыя целы паўстаюць перад іх выабражэннем? Што павінны адчуваць рэбята ў тыя моманты, калі „Сіняя барада" з нажом у руцэ набліжаецца да сваёй ахвяры з мэтай адсячы ёй галаву? Дрыготка праходзіць па ўсяму целу дзіцяці, валасы становяцца дыбам і паўтараецца тое, аб чым так маляўніча гаворыць Ганчароў: „Пры слуханні такіх казак дзіцячае выабражэнне то застывае, то закіпае. Нервы напружваюцца як струны. Пачуццё непераможнага страху „звівае сабе гняздо" у псіхіцы дзіцяці на доўгія гады".

А між тым „Сіняя барада" красуецца ў прыгожа выданай кнізе „Сказки Перро" і казка „Сіняя барада" трапляе ў рукі працоўных, якія чытаюць сваім малышам гэтую казку, зусім непрыгодную ў справе выхавання нашых дзяцей. Трымаючы гэтую выдатна выданую кнігу, якая вабіць пакупцоў сваім мастацкім афармленнем, я часта думаю, якое ўражанне павінна зрабіць такая казка на ра-

бочых і работніц, на калгаснікаў і калгасніц, якія хочуць выхоўваць дзяцей па-новаму, якія ствараюць зусім новы быт, што выцякае з нашых умоў будаўніцтва соцыялізма? Як спалучыць новыя патрабаванні, якія мы прад'яўляем да бацькоў у справе выхавання новай змены, з такімі казкамі, змест якіх траўмацізіруе псіхіку дзяцей? Гэтае пытанне задасць сабе не адна маці і не адзін бацька пры чытанні такіх казак. І на гэтае пытанне можа быць дадзены толькі адзін адказ: такія казкі не могуць мець месца ў нашай педагагічнай рабоце... Унясенне такіх казак у справу выхавання нашых дзяцей ёсць вышэйшая форма педалагічных скажэнняў, якія павінны быць ліквідаваны ў корані. Тут, вядома сказваецца ўплыў ілжэтэарэтыкаў-педолагаў, якія ва ўсёй сваёй рабоце выходзілі з папяровых схем, з абстрактных ложных тэорый, забываючы самае істотнае—наша савецкае жывое дзіця...

Гаворачы аб шкодных казках, нельга таксама абыйсці маўчаннем і казку Чукоўскага „Бармалей". Трэба сказаць з максімальнай рашучасцю: казка шкодная, казка недапушчальная.

Чукоўскі кажа, што даючы дзецям 5-6 год „Бармалей", ён задаецца мэтай „неўпрыкмет і беражліва перанесці дзіця з той узроставай стадыі, дзе яно ў цяперашні час знаходзіцца, у стадыю далейшага развіцця"*) З гэтай мэтай Чукоўскі падносіць дзецям „увесь інвентар прыгодніцкіх раманаў для юнацтва: і ўцёкі з бацькоўскага дома, і экзотыку далёкіх краін, і спатканне з раз'юшанымі звярамі, і прабыванне ў палоне ў дзікуноў, і раптоўнае выратаванне з гэтага палону**). Але Чукоўскі пры гэтым забыўся пра спецыфіку дзяцей 5-6-гадовага ўзросту, забыўся пра самое дзіця, пра яго псіха-фізічныя асаблівасці. Чукоўскі добра ведае слоўнік дзіцяці, але ён не ведае дзіця ў цэлым—толькі гэтым і можна вытлумачыць тое, што ў паднясенні інвентара прыгодніцкіх раманаў Чукоўскі бачыць сродак далейшага развіцця дзіцяці.

Якія-ж вобразы дае дзецям казка „Бармалей"? „У Афрыку не трэба хадзіць, у Афрыцы разбойнікі, у Афрыцы Бармалей бегае і „з'ядае дзяцей"—ці могуць гэтыя сюжэтныя палажэнні садзейнічаць развіццю дзіцяці? Ці ёсць у гэтай казцы якая-небудзь сюжэтная тканіна, з якой можна стварыць хоць-бы элементы мастацкіх вобразаў, элементы яркіх, маляўнічых уражанняў? Ні ў якой меры. Усе сюжэтныя палажэнні, якія разгортваюцца ў казцы, не толькі не далучаюць дзяцей да вышэйшага „комплекса пачуццяў і мыслей", аб якіх марыць Чукоўскі, але адкідваюць дзяцей далёка назад ад той узроставай стадыі, у якой яны ў даны момант знаходзяцца.

„Бармалей" дзецям нельга даваць. Будучы некалькі год таму назад із'ятым са спісу дзіцячай літаратуры, „Бармалей" нечакана зноў „аджыў", заняўшы пэўнае месца ў педагагічнай рабоце. А між тым „Бармалей" траўмацізіруе псіхіку дзіцяці—аб гэтым гавораць многія факты і заявы многіх матак. На грунце сабранага

*) „Литературная газета", 15, 12. 1935. Артыкул *К. Чукоўскага* „Работа над сказкой".
**) Там-жа.

матэрыялу аб шкодным уплыве „Бармалея“ Кафедра дашкольнай педагогікі Маскоўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Бубнава накіравала гэтую казку ў Неўрапсіхалагічны інстытут прафесару Н. Сімсон з просьбай даць сваё заключэнне аб уплыве гэтай казкі як з боку яе зместу, так і мастацкага яе афармлення. Прыводзім невялікі ўрывак з падрабязнай рэцэнзіі праф. Сімсон:

„Кніжка Чукоўскага „Бармалей“ павінна быць прызнана неадпавядаючай патрабаванням, якія мы, хто працуе ў галіне дзіцячай псіхaнеўрапаталогіі, псіханеўрапрафілактыкі і псіханеўрагігіены, у правах прад'явіць выданням, прызначаным для дзяцей дашкольнага ўзросту.

Падставы для гэтага заключэння наступныя: па-першае, і гэта самае галоўнае, вобраз разбойніка Бармалея з'яўляецца тым устрашаючым раздражніцелем, які можа даць у радзе выпадкаў з'явы „неўрозу спалоху“ (расстройства сну, начных страхаў, заікання). Вобраз доктара Айбаліта, сам па сабе эфектыўна, станоўча дзіцём успрыймаемы—у сітуацыі гарэння на кастры з'яўляецца персанажам не менш востра траўміруючым дзіцячую псіхіку*).

Гэтага невялікага ўрыўка, нам думаецца, зусім дастаткова, каб зрабіць пэўны вывад аб недапушчальнасці гэтага твора ў рабоце з дашкольнікамі.

Для ўнікнення скажэння фактаў,—а такія спробы маюць, нажаль, месца,—трэба падкрэсліць, што ўсе вышэй пададзеныя нашы прыклады ясна гавораць аб тым, што гутарка ідзе аб зусім здаровых дзецях, якія да слухання страшных казак не ведалі пачуцця страху і якія развіваліся зусім нармальна. І праф. Сімсон, які займаецца не толькі неўрапаталогіяй, але і неўрапрафілактыкай і неўрагігіенай, гаворачы аб шкодным уплыве „Бармалея“, раіць не даваць гэтую казку здаровым дзецям іменна таму, што яна можа дрэнна падзейнічаць на нервовую сістэму здаровага і нармальнага дзіцяці. Толькі аб гэтым і ідзе гутарка.

Паднясенне дзецям „Бармалея“ ёсць бясспрэчнае ігнараванне жывога канкрэтнага дзіцяці. Мы павінны добра памятаць усё тое, што ў надзвычай яркіх фарбах гаварылася на 1-й нарадзе па дзіцячай літаратуры, скліканай ЦК ВЛКСМ. „Наша дашкольная літаратура павінна жывіць няўтольнае выабражэнне дзяцей здаровай рамантыкай“... „Наша дзіцячая кніжка павінна павесці за сабой мільёны юных дзяцей, увесці іх у светлае, радаснае жыццё“. Так гаварыў на нарадзе дзіцячых пісьменнікаў тав. Косарэў. Так гаварылі лепшыя майстры мастацкага слова. Так гаварыў і сам Чукоўскі, адзін з таленавіцейшых дзіцячых пісьменнікаў. Нажаль Чукоўскі часамі спаўзае з сваіх уласных пазіцый.

У сваіх вядомых 13 запаведзях Чукоўскі дае дзівосныя „пуцяводныя вехі“ для пачынаючага пісьменніка, які жадае наблізіцца да псіхікі малых дзяцей. Некаторыя з гэтых запаведзей заслугоўваюць выключнай увагі не толькі паэтаў, але і педагогаў, бо гэтыя „пуцяводныя вехі“ падводзяць іх да разумення верша для дзяцей

---

*) Рэцэнзія, напісаная ўласнаручна праф. Сімсон, знаходзіцца ў аўтара гэтага артыкула.—*Э. Я.*

дашкольнага ўзросту. У вышэйшай ступені каштоўнымі з'яўляюцца заўвагі Чукоўскага аб тым, што паэма для дзяцей павінна быць графічнай, што кожны даны ўрывак паэмы павінен успрымацца дзецьмі, галоўным чынам, як з'ява бачымая, што ў вершах не павінна быць канчаткаў сугалосных, што рыфмы павінны быць пастаўлены на самай блізкай адлегласці адна ад другой. Выключную цікавасць уяўляе з сябе дзевятая запаведзь для дзіцячых пісьменнікаў, у якой Чукоўскі гаворыць аб шкоднасці заграмаджэння вершаў прыметнікамі. „Маленькае дзіця,—гаворыць Чукоўскі,—хвалюе ў літаратуры толькі дзеянне, толькі шпаркае чаргаванне падзей. Для яго кожны прадмет існуе толькі пастолькі, паколькі ён варушыцца, рухаецца. А калі так, дык пабольш дзеясловаў і магчыма менш прыметнікаў“*).

Многія запаведзі Чукоўскага даюць ключ да разумення яго таленавітых твораў. „Пуцяводныя вехі“ Чукоўскага ўскрываюць прычыну, чаму дзеці не толькі ўспрымаюць радасна і эмацыянальна такія паэмы, як „Мойдадыр“, „Федорына гора“, але і лёгка іх запамінаюць. Ёсць дзеці, якія ўжо ва ўзросце 5—6 год ведаюць „Мойдадыр“ з першага радка да апошняга, і калі педагог не можа сам зразумець, у чым сапраўдная прычына абаяння вершаў Чукоўскага для дзяцей, дык няхай пазнаёміцца з асноўнымі запаведзямі Чукоўскага. Яму стане зусім ясна, што ў аснове стылю Чукоўскага ляжыць глыбокае разуменне будовы верша для малышоў, разуменне таго, што гэтым маленькім слухачам трэба даваць „хвалюючае іх у літаратуры дзеянне і шпаркае чаргаванне падзей“. Не адзін педагог не стане адмаўляць, што вершы Чукоўскага зачароўваюць дзяцей.

Я хочу напиться чаю,
К самовару подбегаю,
Но пузатый от меня
Убежал, как от огня.
Что такое?
Что случилось?
Отчего-же
Все кругом
Завертелось,
Закружилось,
И помчалось колесом?
Утюги
за
сапогами,
Сапоги
за
пирогами,
Пироги
за
утюгом,
Кочерга
за
кушаком.
Все вертится
И кружится
И несется кувырком.“ (*„Мойдадыр“*).

*) *К. Чуковский* От 2-х до 5-ти, стар 206.

У шпаркім чаргаванні гэтых падзей як бы ўдзельнічае і само дзіця. Усё блізка, усё зразумела—дзіця гатова слухаць такія вершы бясконцы лік разоў, але гэта рэдка даводзіцца рабіць, бо пасля некалькіх паўтарэнняў само дзіця ўжо чытае іх напамяць.

Наўрад ці знойдзецца педагог, які не разумеў-бы ўсёй значымасці твораў Чукоўскага. Але тым мацней наш пратэст супроць „Бармалея", тым больш незразумела, што Чукоўскі сам не заяўляе аб неабходнасці із'яцця гэтай шкоднай кніжкі. Мімаволі ўспамінаецца і 13 запаведзь Чукоўскага, дзе ён гаворыць: „Дзіцячая літаратура павінна быць раней за ўсё літаратурай, а потым ужо дзіцячай". Вось тут якраз і прыходзіцца сказаць, што Чукоўскі сам парушае адну з сваіх запаведзей, бо наўрад ці скажа хто-небудзь, што „Бармалей" можна лічыць літаратурай наогул, а дзіцячай і тым больш.

Гэты вывад вынікае немінуча з усяго таго, аб чым гаварылася вышэй. Тав. Бубнаў на X з'ездзе комсамола ў сваім яркім выступленні выказаў у адным маленькім сказе вельмі вялікую мысль: „Чукоўскі—крытык не ў ладах з Чукоўскім—дзіцячым пісьменнікам". І гэта зусім правільна. Калі тав. Бубнаву не падабаецца „Катаусі і мяусі", дык што-ж сказаць аб казцы „Бармалей", якая абсалютна непрыгодна для дзяцей? Адказ ясны: мы будзем выхоўваць нашых дзяцей на высока-мастацкіх казках Чукоўскага, да якіх належаць „Мойдадыр", „Федорына гора", „Блытаніна", на выдатных казках Пушкіна, на таленавітых творах Маршака і інш., але мы не будзем даваць нашым дашкольнікам шкодныя, страшныя казкі. Мы будзем выхоўваць дзяцей на здаровай рамантыцы, але мы не падменім гэтую рамантыку такімі творамі, якія маюць адмоўны ўплыў на псіхіку дзіцяці.

Для выкарчоўвання педалагічных скажэнняў трэба раней за ўсё ведаць дзіця, трэба бачыць дзіця. А хто ведае і бачыць дзіця, той не будзе даваць дзецям такія казкі як „Ліпавая нага", „Сіняя барада", „Бармалей". Такая літаратура рэзка пярэчыць тым патрабаванням, якія мы прад'яўляем у справе выхавання комуністычнай змены.

---



# ЗМЕСТ



---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

Памылкі друку

| Стар. | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць | Па чыёй віне |
|---|---|---|---|---|
| 8 | 8 знізу | не накарайце | не наракайце | Рэд. |
| 15 | 14 „ | Дзед Бабыль | Дзед Бадыль | Друкарні |
| 37 | 17 зверху | Дайіла | Даніла | „ |
| 42 | 5 „ | абмівайся | абнімайся | „ |
| 42 | 3 знізу | Дыгнівай | Дагнівай | „ |
| 42 | 4 „ | захліваючыся | захліпаючыся | „ |
| 43 | 9 „ | цялянцінка | цяляцінка | Рэд. |
| 44 | 2 зверху | Святок | Сваток | Друкарні |
| 61 | 15 знізу | Кормяць | Корміць | „ |
| 84 | 18 зверху | гувернатка | гувернантка | „ |
| 84 | 14 знізу | з'едзім | з'ездзім | „ |
| 90 | 16 „ | у нашых | у вашых | „ |
| 91 | 22 зверху | вае | вас | „ |
| 92 | 6 „ | раздраняючыя | раздражняючыя | „ |
| 105 | 18 „ | спрытнасць | скрытнасць | Рэд. |
| 108 | 24 знізу | эшаланіравання | эшаланіраваныя | „ |
| 119 | 5 зверху | Такія | такі | Друкарні |

Зак. 1015.

